# ЗЬМЕСТ

*Стар*



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ХРОНІКА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 5-6 (56-57) Май—Чэрвень 1930

ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

# Да пытаньня рэарганізацыі структурнага падзелу краязнаўчых арганізацый БССР.

Пры канчатковым афармленьні краязнаўчай сеткі ў БССР у 1926 г., пры ўкладаньні статутаў краязнаўчых арганізацый як акруговага, гэтак і раённага маштабу, быў прыняты падзел краязнаўчых арганізацый на сэкцыі адпаведна галінам краязнаўчай працы. Такімі сэкцыямі былі прыняты: прыродна-географічная, грамадзка- экономічная і культурна-гістарычная. Апрача гэтага пры акруговых таварыствах краязнаўства былі створаны сэкцыі па нацыянальнай лініі--яўрэйская і польская і па лініі школьнага краязнаўства—школьная. Цікава прасачыць, якія-ж часткі аказаліся жыцьцёвымі і якія не апраўдалі сябе. Практыка паказала, што памянёныя сэкцыі ня ўсюды прыжыліся; гэты факт наводзіць на думку, што вызначаны сэкцыйны падзел краязнаўчых арганізацый аказаўся занадта агульным, што ў мэтах карысьці справы неабходна рабіць больш вузкі падзел працы, узяўшы ў аснову вузлавыя пытаньні, на якіх концэнтруецца ўвага ўсёй савецкай грамадзкасьці. Такімі пытаньнямі пры краязнаўчым вывучэньні і пры пабудове краязначых арганізацый павінны стаць асноўныя галіны нашага социялістычнага будаўніцтва — прамысловасьць і сельская гаспадарка. У далейшым у гэтым разрэзе павінен быць праведзены і падзел краязнаўчых арганізацый. На такі шлях у арганізацыйным стасунку сталі краязнаўчыя арганізацыі РСФСР, на такі шлях падзелу становяцца самі сабой некаторыя краязнаўчыя арганізацыі БССР: Бабруйскае і інш. Жыцьцё само падказвае, што ад агульнага падзелу ўжо час перайсьці да асноўных вузлавых пытаньняў нашай сучаснасьці. Гэта наблізіць краязнаўчую справу да вывучэньня актуальнейшых проблем социялістычнага будаўніцтва, гэта зробіць іх сапраўднымі ўдзельнікамі социялістычнага будаўніцтва. Таксама няжыцьцёвым і нават штучным аказаўся падзел краязнаўчых арганізацый па нацыянальнаму прызнаку. Жыцьцё паказала, што такі падзел непатрэбны і лішні: вывучэньне розных об‘ектаў гаспадаркі, нават мовы і культуры тэй ці іншай нацыянальнасьці магчыма праводзіць бяз гэтага падзелу, што краязнаўцу апісваючы фабрыку, колгас, вывучаючы мову ці культуру, не абавязкова патрэбна абасабляцца ў нацыянальную сэкцыю, што гэта можна рабіць і будучы членам агульных сэкцый.

У далейшым арганізацыйны падзел краязнаўчых арганізацый па нашай думцы павінен быць наступны: прамысловая сэкцыя, сельскагаспадарчая і школьная. Гэтыя тры сэкцыі павінны стаць абавязковымі для ўсёй краязнаўчай сеткі, уключаючы і раённыя таварыствы краязнаўства. Такая пабудова арганізацыі мае тую перавагу, што

яна адразу завострывае і концэнтруе ўвагу на вузлавых пытаньнях, у кірунку якіх яна і орыентуе краязнаўцу.

Члены краязнаўчых аб'яднаньняў падзяляюцца паводле паказаных сэкцый і ў далешым спэцыялізуюцца па гэтых пытаньнях.

Некаторыя ставяць такое запытаньне: а як-жа быць з вывучэньнем географічных об'ектаў, прыродных і г. д. На гэта адказ вельмі просты; гэтыя об'екты вывучаюцца на фоне паказаных вышэй асноўных разьдзелаў працы: вывучаецца ці апісваецца колгас і побач з гэтым робіцца апісаньне об'ектаў географічных, прыродных і экономічных і іншых; тое самае і пры апісаньні ці вывучэньні таго ці іншага прадпрыемства. Такая структурная пабудова краязнаўчых організацый робіць іх гнуткімі, жыцьцёвымі, концэнтруе ўвагу на актуальнейшых пытаньнях нашага будаўніцтва і зробіць іх сапраўды масавымі пролетарскімі організацыямі. У такія організацыі хутчэй увойдзе і рабочы і колгасьнік, бо яны ўбачаць, што краязнаўчы рух займаецца вывучэньнем пытаньняў яго фабрыкі, яго колгасу—пытаньняў блізкіх і балючых для яго.

Школьная сэкцыя, а ў Вузаўскіх гарадох і студэнцкая павінны ставіць сябе галоўнейшай задачаю падрыхтоўку новых кадраў краязнаўцаў, падрыхтоўку зьмены. Трэба будзе гэтым організацыям увесь час орыентаваць увагу студэнцтва, увагу вучняў, што кожны настаўнік, кожны доктар, кожны агроном павінен быць у першую чаргу краяведам, што кожнаму з іх, каб належным чынам выконваць свае абавязкі, патрэбна будзе дасканала ведаць раён працы, патрэбна будзе ўлічваць усе мясцовыя асаблівасьці. Пролетстуду і школьным сэкцыям патрэбна ўзяць рашучы курс на ахапленьне краязнаўчым рухам усяго студэнцтва. Трэба зьнішчыць тое становішча, калі пытаньнямі краязнаўства займаліся адзінкі.

Вось той структурны падзел краязнаўчых організацый, які вымагаецца зараз жыцьцём. Акруговым т-вам краязнаўства на надыходзячых конфэрэнцыях трэба абмеркаваць гэтае пытаньне і зрабіць паказаную перабудову організацый.

*А. К.*

---

**М. Касьпяровіч.**

# Актуальныя пытаньні асьветнага краязнаўства.

Агульны рэволюцыйны ўздым соцыялістычнага будаўніцва выклікаў і рэволюцыйны зрух у галіне асьветы. Школа самых розных тыпаў імкнецца пэратварыцца з майстэрні для падрыхтоўкі ўдзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва ў непасрэдную ўдзельніцу яго. Ужо не на матар'яле навакольнага жыцьця імкнецца яна прадрыхтоўваць нашу зьмену, а на непасрэдным удзеле ў ім. А, як вядома, нельга жыць і працаваць у жыцьці не орыентуючыся ў ім, не вывучаючы яго, не плянуючы яго. Словам, новы пасьпяховы рэволюцыйны зрух школы немагчымы без узмацненьня краязнаўчага моманту ў ёй.

Краязнаўства, як організаваная грамадзкая чыннасьць у галіне савецкага будаўніцтва шляхам вывучэньня і плянаваньня яго, ужо даўно намагалася ўзмацніць краязнаўчы момант у асьветнай справе. Адбыўся шэраг пастаноў, на балонах „Асьветы“ і „Нашага

Краю“ некалькі разоў вызначалася вялізнае значэньне краязнаўства для навучаньня дзяцей шляхам удзелу ў навакольным жыцьці, а ня гутаркамі пра апошняе, некалькі школ зрабілі бліскучыя посьпехі ў школьна-краязнаўчай справе і г. д. Але ўсё гэта разам узятае не складае ў нас, у БССР, і каплі ў моры. З вялікаю скрухаю мы змушаны адзначыць

**краязнаўчы застой у асьветнай справе.**

Можна сказаць, што ў нас і ня было да апошняга часу сталай організацыйна-кіраўнічай чыннасьці, комплексу дзеяньня накіраваных да разгортваньня асьветнага краязнаўства. Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт Народнага Камісарыяту Асьветы выдаваў для кіраўніцтва програмы, у якіх краязнаўчы элемэнт зьяўляўся толькі даволі хісткім і нявыразным момантам ды ўхваляў падручнікі, што павінны былі служыць навучаньню на краязнаўчай основе, у якіх амаль зусім ня было гэтай асновы. Інспэктар вышэйшых школ Народнага Камісарыяту Асьветы не дапушчаў мэтодыкі краязнаўства на пэдфак, а дэкан пэдфаку сарваў наладжаны на пэдфаку факультатыўны курс мэтодыкі краязнаўства. Цэнтральнае Бюро Пролетарскага Студэнцтва зусім не ўяўляла сабе стану студэнцкага краязнаўчага руху. Па лініі профэсіянальнай асьветы адпаведная інспэктура выключала мэтодыку краязнаўства з навучальных плянаў тых тэхнікумаў, у якіх яна выкладалася. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства скасавала было сваю школьна-краязнаўчую сэкцыю і г. д. і г. д. Ад пачатковай школы да вышэйшай, ад дашкольнага выхаваньня да політычна-асьветнай працы, ад урадовых устаноў да грамадзкіх організацый бушавала гэта мора неразуменьня важнасьці асьветнага краязнаўства і супярэчных учынкаў на яго фронце. Але жыцьцё вымагала свайго. Лепшыя школы пашыралі вучнёўска-краязнаўчую працу, больш моцныя тэхнікумы ўводзілі мэтодыку краязнаўства, актыўныя вучні наладжвалі працу сваіх гурткоў краязнаўства і д. т. п., падрыхтоўваючы гэтым больш пасьпяховы

**рэволюцыйны зрух асьветнага краязнаўства.**

Социялістычнае будаўніцтва пайшло такімі буйнымі крокамі, што стары асьветны лад ня толькі ня мог пасьпець у ногу, а проста віс на нагах і стрымліваў тэмпы перабудовы жыцьця. І асьветная справа рэволюцыйна зьмяняецца, што да зьместу і формы. Школа мае стаць непасрэднай удзельніцай жыцьця і вучыць працаваць на самой працы.

Перабудоўваюцца програмы, укладаюцца новыя падручнікі, узмацняюцца тэмпы падрыхтоўкі кадраў і г. д., і г. д. І ва ўсім гэтым краязнаўства займае сваё месца. Социялістычны лад будуецца пролетарыятам у конкрэтных умовах кожнага данага месца, якія неабходна дасканальна ведаць. Вось навучыць пазнаваць іх і на падставе свайго веданьня будаваць і зьяўляецца задачай усёй асьветнай справы. Таму апошнімі часамі і заўважваецца значнае ўзмацненьне ўвагі розных устаноў і грамадзкіх організацый. Праўда, у нас гэта ўзмацненьне ўвагі пакуль што яшчэ не набыло належнай устойлівасьці. Учарашнія погляды яшчэ дзе-колечы цягнуць назад. Яшчэ пануе няўзгодненасьць працы кіраўнічых цэнтраў. Але ўсё гэта, як відаць, апошнія хвіліны недабіткаў былога асьветна-кіраўнічага бязладзьдзя. Каб хутчэй зьнішчыць іх, трэба ў першую чаргу наладзіць дапамогу,

**організацыйна-мэтодычнае кіраўніцтва асьветным крязнаўствам.**

Народны Камісарыят Асьветы, улічваючы неабходнасьць мэтодыкі краязнаўства ў справе падрыхтоўкі новых будаўнікоў соцыялізму, павінен раз назаўсёды ўсталяваць цьвёрды курс на ўзмацненьне краязнаўчых элемэнтаў ва ўсіх галінах народнай асьветы. У дашкольных установах і ў політэхнічных школах гэта будзе азначаць узмацненьне краязнаўчай асновы выхаваньня і навучаньня, у падрыхтоўцы спэцыялістых ва ўсіх адпаведных навучальных установах гэта будзе узмацненьне тэорэтычнага і практычнага курсу мэтодыкі краязнаўства і ў галіне палітасьветнай—належнае спалучэньне элемэнтаў першых двух мерапрыемстваў. Профінспэктура павінна наладзіць і прасачыць за належным выкладаньнем адпаведнага кожнай установе курсу мэтодыкі краязнаўства, Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт павінен распрацаваць адпаведныя мэтодычныя лісты і інструкцыі ды добра наглядзець за ўкладаньнем патрэбных падручнікаў. Экскурсійнае бюро мусіць наладзіць урэшце экскурсійную справу і г. д. Цэнтральнае Бюро Пролетарскага Студэнцтва ні ў якім разе не павінна далей ухіляцца ад кіраўніцтва студэнцкім краязнаўчым рухам, узмацненьня краязнаўства ў програмнай працы навучальных устаноў і г. д. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ў асобе сваёй школьна-краязнаўчай сэкцыі павінна падлічваць практыку школьна-краязнаўчай працы, узьнімаць грамадзкую ініцыятыву па лініі асьветнага краязнаўства, плянаваць і інструктаваць працу краязнаўчых організацый у асьветных установах і г. д. Часопісы „Комуністычнае выхаваньне“ і „Савецкі Край“ павінны рэгулярна зьмяшчаць мэтодычныя матар‘ялы, што да асьветнага краязнаўства, да ўсёй гэтай працы цэнтральных інстытуцый павінна быць заснавана дагаворанасьць і сталая сувязь.

Першымі конкрэтнымі крокамі гэтай аб‘яднанай працы павінна быць увядзеньне мэтодыкі краязнаўства ва ўсе тэхнікумы ды вышэйшыя школы і ўтварэньне студэнцкай краязнаўчай сэкцыі (ЦБ Пролетстудам і ЦБК), што ніякіх тлумачэньняў не патрабуе. Трэцім мусіць зьявіцца адпаведны загад і інструкцыя пра

**ўступ да вытворчага пляну школы.**

Кожная дашкольная ўстанова і кожная школа маюць свой вытворчы плян на кожны год. Але нам у БССР невядомы ні адзін выпадак, каб гэты плян укладаўся на падставе ўсебаковага веданьня тае тэрыторыі, якую даная ўстанова абслугоўвае. Таму так часта ў нас здараюцца выпадкі, што школа бывае адарвана ад навакольнага жыцьця і яе ня толькі праца, але і вытворчы плян пазбаўлены краязнаўчай асновы. У Сібірскім краі кожны плян кожнай дашкольнай установы і кожнай школы павінен мець у сабе ўступ у відзе ўсебаковага апісаньня школьнага раёну данай школы. У некаторых мясцовасьцях гэты ўступ, на грунце якога ўкладаецца ўласна вытворчы плян школы, завуць пашпартам (паскуднае слова!). Але справа, зразумела ня ў назьве. Такі пашпарт дазваляе пабудаваць сапраўдны рэальны конкрэтны плян працы школы, дапамагае інспэктару паляпшаць яе, прымушае настаўніка адчуць асалоду краязнаўчага вывучэньня школьнага раёну, каб укласьці свой уступ да вытворчага пляну школы і г. д. Разам з тым ён вывучае не адно статыку, але і дынаміку школьнага раёну ды тэндэнцыі яго разьвіцьця. Ён павінен улічыць

усе вызначаныя мерапрыемствы ў галіне гаспадарчага і культурнага мясцовага будаўніцтва. Таму ён можа служыць падставай для плянаваньня працы не адно школы і зьяўляецца надзвычайна неабходнай дапамогаю з боку настаўніка і школы ўсім мясцовым інстытуцыям.

Вось вызначыць зьмест такога ўступу да вытворчых плянаў школ у БССР і програму яго, укласьці інструкцыю як яго ўкладаць і выдаць загад аб ім па БССР і зьяўляецца першачарговай задачай НКА БССР.

Адначасна трэба аналёгічна распрацаваць і аформіць пытаньне пра

**пашпарт раёну.**

Ужо тры гады як у РСФСР выданы загад, каб кожны раённы палітасьветработнік уклаў і меў усебаковае апісаньне свайго раёну ды на падставе яго плянаваў і кіраваў усёй політасьветнай працай у раёне. Гэты загад там добра выконваецца і таму політасьветная праца на мясцох там непараўнальна большыя мае пасьпехі, чым у нас. На падставе ўсебаковага вывучэньня раёну і ўкладзенага апісаньня яго там вельмі дасканала і пасьпяхова праводзіцца пропаганда плянаў культурна-гаспадарча-політычнага будаўніцтва, змаганьне з рэлігіяй, ліквідаваньне няпісьменнасьці і г. д. Такое апісаньне наогул служыць добрай падставай для правядзеньня ўсёй працы раённых выканаўчых камітэтаў, а не адно райполітасьветработнікаў. Разам з тым яно стымулюе пашырэньне працы мясцовых краязнаўчых організацый ды набліжае яе да найактуальных проблем сучаснасьці. Яно павінна абхопліваць усе чыста моманты гаспадарчага, культурнага і політычнага будаўніцтва раёну як у сучасным стане, так і гістарычным разьвіцьці на працягу рэволюцыйнага часу. У ім мусіць быць матар'ял ня толькі для плянаваньня, але і для правядзеньня мясцовай політасьветнай працы.

Вось акрэсьліць межы гэтага апісаньня, распрацаваць плян яго, укласьці інструкцыю выкананьня апісаньня і скарыстаньня і зьяўляецца другой першачарговай, адначаснай з папярэднімі, задачай у галіне асьветнага краязнаўства. Наступным адначасным крокам мае быць унясеньня выразнасьці ў пытаньне пра

**краязнаўчы зьмест асьветнай працы.**

У той час як у РСФСР ёсьць даволі багатая лёкалізаваная мэтодычная літаратура пра краязнаўчы зьмест працы дашкольных і палітасьветных устаноў ды школ усіх тыпаў, у нас нават у програмах (старых) краязнаўчыя элемэнты іх маюць вельмі малую органічную сувязь з усім контэкстам іх. Пра краязнаўчы зьмест працы дашкольных і політасьветных устаноў наогул амаль няма ніякіх конкрэтных лёкалізаваных паказаньняў. Пра тое, што шэраг дысцыплін у тэхнікумах і вышэйшых школах ня маюць і пачату краязнаўства, успамінаць нават ня прыходзіцца. Вось у часе нашага агульнага не набліжэньня, а пераводу асьветнай справы ў шэрагі непасрэдных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і трэба вызначыць конкрэтны краязнаўчы зьмест абавязковай програмнай працы ўсіх без выключэньня інстытуцый народнай асьветы. Вывучэньне і мэтоды вывучэньня колгаснага і саўгаснага будаўніцтва, мясцовай прамысловасьці і культурнага росту свайго краю павінна падмяніць сабою назапашваньне матар'ялаў нічым ня зьвязаных з мясцовым соцыялістычным будаўніцтвам.

Трэба ўзяць румб на зьмяншэньне вывучэньня навакольнага жыцьця ў яго мінулым і ўзмацніць дасьледваньне яго сучаснага стану ды вызначэньне пэрспэктыў. Словам, у перабудове плянаў і програм усіх асьветных і выхаваўчых інстытуцый трэба добра ўлічыць найбольш поўнае абкраязнаўчываньне іх з пункту погляду вымогаў данага моманту соцыялістычнага будаўніцтва.

А такімі програмамі працы ўсіх асьветна-выхаваўчых інстытуцый, ад дашкольных устаноў да вышэйшай школы, вымагаецца належная

**падрыхтоўка кадраў.**

У гэтай галіне перш-на-перш трэба зьвярнуць увагу на пэдагогічныя навучальныя ўстановы і ў першую чаргу на пэдагогічны факультэт дзяржаўнага унівэрсытэту, які, ня гледзячы на ўсе свае і НКА пастановы, не жадае ўводзіць у свой плян мэтодыкі краязнаўства. На пэдфаках усіх вышэйшых школ РСФСР такая мэтодыка з посьпехам выкладаецца, а на нашым па прыкладу даўно мінулых часоў, не жадаюць яе і толькі. Дык вось трэба каму належыць сказаць, што тут справа не ў жаданьні, а ў падрыхтоўцы патрэбных кадраў. Па-другое, трэба ўзмацніць выкладаньне мэтодыкі краязнаўства ў пэдагогічных тэхнікумах. Сама програма яе там патрабуе грунтоўнай перапрацоўкі. З другога боку трэба ўрэшце паклапаціцца ўкладаньнем, калі не падручніка, то хоць хрэстаматыі па мэтодыцы краязнаўства. Летась гэту справу сарвалі, але гэта ня значыць, што яе трэба кінуць.

Але, пакуль будуць падрыхтаваны новыя кадры, прыдзецца карыстацца старымі. Таму трэба паклапаціцца належнай краязнаучай прадрыхтоўкай іх на розных перападрыхтоўчых курсах. Побач з выкладаньнем цыклю лекцый па краязнаўству на розных кароткатэрміновых курсах гэта дасьць вялізную карысьць. Разам з тым ясна, што ўстановам народнай асьветы ахапіць усіх чыста ня ўдасца. Таму акруговыя і раённыя краязнаўчыя організацыі мусяць разьвінуць самую жвавую чыннасьць у справе наладжваньня адпаведных курсаў, цыкляў лекцый, сэмінараў, экскурсій і д. т. п.

Наступным з найбольш пякучых зьяўляецца пытаньне пра

**вучнёўскія краязнаўчыя організацыі.**

У большасьці сямігадовых школ і тэхнікумаў БССР існуюць краязнаўчыя гурткі. Пра неабходнасьць заснаваньня іх быў нават выданы загад Народным Камісарыятам Асьветы. З вышэйшых школ толькі пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ёсьць Таварыства Краязнаўства. Лічылася некалі і пры Віцебскім Вэтэрынарным Інстытуце, але, як відаць, ціха памерла, а адзін, як кажуць, студэнт-краязнаўца Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі як пайшоў у 1926 г. ў вандроўку, дык і не вярнуўся, а больш не завялося. Вось, па-першае і трэба дамагчыся аформіць вучнёска-студэнцкі краязнаўчы рух ва ўсіх без выключэньня школах тыпу ня ніжэй сямігодкі. А што ён ёсьць сьведчыць імкненьне студэнтаў атрымаць мэтодычна-краязнаўчую падрыхтоўку. Штогод, і ў гэтым годзе, ня гледзячы на вялізную перагрузку, звыш 200 менскіх студэнтаў самахаць наведвае краязнаўчыя курсы ЦБК. Ніхто і нішто, апрача іх жаданьня (ды патрэбнай для будучай вытворчай працы падрыхтоўкі, якой ім у іх навучальных

установах не даюць), туды іх ня гоніць—значыць ёсьць караязнаўчая, так кажучы, патрэба. А гурткі нават у Менску працуюць вельмі дрэнна. Вось, апрача выпраўленьня сеткі вучнёўскіх краязнаўчых організацый, трэба паклапаціцца організаваньнем і ажыўленьнем працы яе.

Вялізная армія маладых краязнаўцаў найслабей падрыхтавана. Таму трэба выпрацаваць найбольш даступныя ім віды працы, укласьці дэталёвыя ілюстраваныя програмы, наладзіць консультаваньне і г. д. Агульным зьместам працы вучнёўскіх краязнаўчых організацый, зразумела, павінна быць вывучэньне мясцовага колгаснага і саўгаснага будаўніцтва ды мясцовай прамысловасьці.

У рэшце апошняе—гэта сама

**школьна-краязнаўчая сэкцыя ЦБК.**

Лепш-бы было яе называць асьветна-краязнаўчай, але зноў-жа справа ня ў назьве. На мой погляд яна павінна быць штабам, якраз баявым, ваяўнічым штабам усяго асьветнага краязнаўства. Яна мусіць зьбіраць і концэнтраваць усе сілы асьветнага краязнаўства, падлічваць практыку апошняга, выяўляць масавую ініцыятыву ў яго галіне, стымуляваць яго пашырэньне, накіроўваць на ўсеагульны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, прадстаўляць інтарэсы вучнёўска-студэнцкага краязнаўчага руху ў Навукова-Мэтодычным Комітэце, організаваць соцыялістычнае спаборніцтва на фронце асьветнага краязнаўства, дапамагаць органам народнай асьветы ў галіне програмна-мэтодычнай працы, наладзіць асьвятленьне мэтодолёгічных пытаньняў асьветнага краязнаўства ў „Комуністычным выхаваньні" і ў „Савецкім Краі" і г. д. У сваім складзе яна павінна аб'яднаць ня толькі вылучаных Прэзыдыумам ЦБК асоб, не адно прадстаўнікоў зацікаўленых інстытуцый, але ўвесь актыў асьветнага краязнаўства БССР наогул і Менску прыватна. Не ў пасяджэньнях павінна выявіцца яе праца (у спрэчках захлынуўся былы склад былой камісіі), а ў організаваньні баявой масавай працы ўсіх зацікаўленых асоб. Сталым павінен быць прэзыдыум сэкцыі, які, нібы штаб, павінен кіраваць тэорэтычнай і практычнай працай масавага актыву, кожны член якога знаходзіцца на пэўным баявым пункце нашага фронту і выконвае яго працу.

Яшчэ ёсьць шэраг іншых важных пытаньняў асьветнага краязнаўства, якія, як відаць, высунуцца, але я асабіста вылучыў толькі памянёныя.

---

**А. Я. Крукоўскі.**

# Як вывучаць карысныя выкапні.

У сучасны пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва вывучэньне карысных выкапняў набывае вельмі важнае значэньне.

Індустрыялізацыя краіны, колектывізацыя і інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі вымагаюць вывучэньня і ўсіх тых відаў карысных выкапняў, якія неабходны для выкарыстаньня ў вырашэньні паказаных задач.

У дзейнасьць краязнаўчых організацый уваходзіць у сучасны момант разгарнуць працу па вывучэньні карысных выкапняў, але каб праца ў паказаным кірунку мела значэньне для соцыялістычнага бу-



даўніцтва, дык патрэбна дасьледваньне карысных выкапняў увязаць з мясцовымі плянамі будаўніцтва.

Дасьледваньне карысных выкапняў даволі складаная праца, але для краязнаўчых організацый яна пасільна ў дзьвюх ступенях: 1) разьведваньне і рэгістрацыя месц выхаду карысных выкапняў, 2) пры некаторым экпэдыцыйным і лябораторным абсталяваньні т-ваў яны змогуць праводзіць, хоць і не дакладна, вывучэньне колькаснага і якаснага складу адшуканых карысных выкапняў.

Калі-ж апошняе для т-ваў краязнаўства і непасільна, дык патрэбна ўсё-ж разгортваць працу па разьведваньні і рэгістрацыі месц выхаду карысных выкапняў, бо нават праца ў паказаным кірунку мае пэўную вартасьць, як папярэдняя для сталых затым досьледаў геолёгічных экспэдыцый.

*Якое абсталяваньне патрэбна мець для краязнаўчага вывучэньня карысных выкапняў, кошт яго і дзе можна здабыць?*

Мінімальна для паказанае працы патрэбна мець наступныя экскурсійныя прылады:

1) трохвёрсную карту, пры дапамозе якое ўкладаюцца маршруты, па ім праводзяцца экскурсіі, а таксама на гэтай-жа карце адзначаюцца выхады і заляганьне карысных выкапняў. Пры адсутнасьці 3-вёрсткі мажліва карыстацца і 5-ці км. Каштуе ліст 3-вёрсткі ад 20—50 кап., у залежнасьці ад колеру і часу выданьня, карта 5 км каштуе 1 р. 35 к.—1 р. 75 к.

2) Горны компас, лепш з дыёптрамі; ён патрэбны для азначэньня кірунку заляганьня пластоў (простирания пластов), нахілу (падения) і кута нахілу вынайдзеных пластоў карысных выкапняў. Каштуе да 40 руб.

3) Эклімэтар Брандыса да Абнэя; патрэбны для дасьледваньня рэльефу мясцовасьці, гэта круцізны схілаў, а часта ім прыходзіцца карыстацца для азначэньня спаду пластоў у тых мясцох, дзе нельга працаваць з горным компасам. Каштуе 27 р.

4) Рулетка, ці мэтар для вымераў. Першая каштуе ад 9—33 руб., другі—ад 60 кап.—1 р. 65 к.

5) Шагамер; патрэбны для вымераў, дзе ня трэба вялікая дакладнасьць,але патрэбна хуткасьць у правядзеньні вымераў. Каштуе 15 руб.

6) Геолёгічны малаток, лепш Златавустаўскага тыпу № 3, ці 4 (можна карыстацца, зразумела, геолёгічным малатком проф. *Паўлава,* ці кайла—фрунцускага тыпу). Малаток неабходная рэч для адбіваньня кавалкаў напатканых мінэраляў. Каштуе 2-3 руб.

7) Набор зубіл рознае формы і разьмераў хоць-бы ў 3-4 штукі. Яны патрэбны для выбіваньня крышталяў, скамянеласьцяй. Каштуе паказаны набор 3-4 рублі.

8) Лупа з 6—15 кратным павялічэньнем; каштуе ад 2 р. 50 к. — 6 р. 50 к.

9) Мяшок для носкі сабраных узораў карысных выкапняў, лепш за ўсё рукзак; каштуе 3 р. 50 к.—8 р. 50 к.

10) Сякерку-кірку і жалезьнячок, лепш саперны; першая патрэбна для адсяканьня тычак і інш., другая для ачысткі абгаленьняў пластоў, пракопкі шурфаў. Іх можа зрабіць любы каваль, абойдуцца у 6—10 руб.

11) Капельніцу і саляны квас 10% рошчыну для пробы прысутнасьці вапняковае матэрыі; каштуюць 1-2 руб.

12) Дастатковую колькасьць паперы, ці лепш спэцыяльныя мяшэчкі разьмерам ня менш, чым 14.22 см. з матэрыі для зьбіраньня

абразцоў выкапняў; запісную кніжку з нумараванымі старонкамі, блёкнот для маляваньня, алоўкі для запісу назіраньняў і каляровыя для замалёвак, этыкеткі, лепш у форме квітаруса. Для прац у раўчаковай мясцовасьці ня шкодзіць мець і вяроўку, пры дапамозе якое магчыма дасьледваньне абгаленьняў вельмі крутых схілаў. Пералічаныя дробныя рэчы будуць каштаваць 7-8 руб.

Добра яшчэ мець хоць-бы танны ляндшафтны фото-апарат.

Пры некаторай геолёгічнай адукацыі краязнаўца неабходна ўсё-ж мець для працы па вывучэньні карысных выкапняў дапаможную экскурсійную літаратуру, хоць-бы наступную:

1) Кароткую інструкцыю для зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі — *Б. К. Тэрлецкага.* Ёсьць асобным адбіткам і зьмешчана ў *„Нашым Краі“* № 2-3 за 1926 г., выд. ІБК.

2) Первые шаги в науке о земле—Иогана Вальтера, ГИЗ, 1922 г., каштуе каля 40 кап.

3) Что такое геология и как собирать геологические коллекции—*П. Степанов,* ГИЗ 1925 г.—40 кап.

4) Геологический и минералогический кабинет начальной школы—*В. И. Маркин,* ГИЗ, каля 40 кап.

5) Почвы и их исследование в природе; проф. *Красюк,* ГИЗ, 1929 г.—1 р. 75 к.

> Увага: Пры адсутнасьці ў краязнаўца ўсякае геолёгічнае падрыхтоўкі, мажліва набыць такую і праз самаадукацыю. Сьпіс патрэбнае для гэтага літаратуры паказаны ў інструкцыі Тэрлецкага.

Пералічаныя прылады і падручнікі, за выключэньнем фотоапарату каштуюць 135—160 руб. [1]) і набыцьцё іх пасільна можа быць для акруговых т-ваў краязнаўства. Пры адсутнасьці-ж паказанае колькасьці сродкаў ад часткі абсталяваньня покуль што прыдзецца зусім адмовіцца, а частку яго можа зрабіць кожны краязнаўца.

Так, з звычайнага компасу, які каштуе 2-3 руб. магчыма зрабіць горны компас. Для гэтага бярэцца моцная, добра зробленая невялікая 4-кутная драўляная, ці лепш мядзяная дошчачка, бакі якой павінны быць раўналежны лініям N-S, O-W, сама дошчачка павінна быць па лініі N-S даўжэй, чым па O-W. На гэтай дошчачцы адчэрчваецца месца для компасу (гл. малюнак 1), а навокал яго адчэрчваецца правільная



Мал. 1.

[1]) Тут прынята пад увагу, што патрэбна яшчэ будзе набыць якую-колечы выдадзеную гідрографічна-геолёгічную літаратуру аб дасьледванай мясцовасьці і аб патрэбе ў якой сказана ніжэй.

акружына для градуснае сеткі. Акружына затым пры дапамозе транспортыра падзяляецца на 360° і яны занумароўваюцца так, каб нумары былі распалажаны ў узрастаючым парадку супроць ходу часавое стрэлкі (гл. той-жа малюнак). Потым на ўсх. баку (гл. мал. 1) трэба адкласьці паўакружыну, каб палавіна яе прыходзілася супроць 90° акружыны компаса. Ад палавіны к канцом чвэрткі акружыны затым падзяляюцца на 90° кожная і занумароўваюцца градусы так, каб на месцы падзелу паўакружыны быў 0°, па канцох 90°. Пасьля гэтага на абадку компаса, ці пад абадком умацоўваецца грузік (гл. мал.) і будзе горны компас гатовы. Пры пабудове горнага компасу трэба ўнікнуць такіх мэталёвых частак, якія прыцягваюць магніт.



Мал. 2.

Прылады для вымярэньня круцізны схілаў, нахілаў пластоў таксама лёгка зрабіць. Найбольш простая прылада—клінамэтр (гл. малюнак 2), складаецца з дошчачкі даўжынёю ў 25—30 см., шырынёю ў 10 см. На ёй, на 2-х простастаўных падпорках, вышынёю кожная ў 15—20 см. умацоўваецца транспортыр акружынаю ўніз з грузікам. Для працы з такою прыладаю патрэбна мець рэйку даўжынёю ў 1,5—2 мэтр. Рэйка падкладваецца на зямлю пад клінамэтар пры выяўленьні круцізны мясьціны.

Больш папрацаваўшы можна зрабіць і больш складаную прыладу—эклімэтар—(гл. мал. 3, літ. „а“). Ён складаецца з завойстранае зьнізу рэйкі, якая вышынёю ў рост чалавека, да рэйкі ў верхняй частцы прымацоўваецца вінтом, або гваздом і лінейка, зробленая так, як паказана на




Мал. 3.

мал. 3, літ. б, на карацейшым канцы лінейкі прымацоўваецца дугою ўніз транспортыр з грузікам. Для вэртыкальнае ўстаноўкі рэйкі бліжэй к ніжняму канцу прыбіваюцца 2 пляначкі, ніжняя з шпяньком, верхняя з грузікам (мал. 3, літ. „в“). Калі да верхняга краю лінейкі роўналежна ёй дадаць яшчэ простую трубачку (мал. 3, літ. „г“) тоўшчаю ў 1 см. у дыямэтры, у адзін канец якое ў цэнтры будзе ўстаўлена маленькае шкляное вочка, а ў другі крыжаваныя тоненькія дроцікі, ці валаскі (той-жа мал., літ. „д“), то такою прыладаю, апрача вымераў нахілаў, яшчэ магчыма карыстацца і пры недакладных нівэліровачных працах. Тоненькую шкляную трубку можна здабыць у аптэцы, але яе трэба аправіць, каб пры пераносах прылады пры рабоце яна не магла разьбіцца.

Заміж трубкі лінейку можна зрабіць з дыёптрамі (той-жа мал. літ. „е“), або проста ў край лінейкі па канцох забіць 2 цьвячкі, шляпкі якіх былі-б на аднэй простай лініі, роўналежнай краю лінейкі (той-жа мал., „ж“).

Рулетку пры адсутнасьці сродкаў для набыцьця яе, магчыма замяніць добраю тонкаю вяроўкаю, падзеленаю вузламі на паўмэтры і мэтры, але для змотваньня такое вяроўкі трэба зрабіць прыладу на выгляд шпулькі, да якое адным канцом вяроўка і павінна быць прывязана.

Можна абыйсьціся і без шагамеру, экскурсійны мяшок ня цяжка і самому краязнаўцу пашыць, сякеру-кірку і саперны жалезьнячок можна замяніць звычайнымі лёгкімі сякерай і жалезьняком (апошні бяз ручкі каштуе 40—60 кап.).

Набор экскурсійнага абсталяваньня ў апошнім выпадку будзе каштаваць 20—25 руб., а такія сродкі можа здабыць і раённае т-ва краязнаўства.

Для азначэньня сабраных карысных выкапняў пры дапамозе паяльнае трубкі—патрэбна мінімальна мець, калі праводзіць такое па „Определителю минералов (курс минералогии, ч. III) проф. *Федоровского Н. М.*“ [1]) (Гостехиздательство, 1923 г., 1 р. 85 к.).

а) Прылады:

1) Вага Бэранжэ і разнавесак да іх ад 0,01—500 гр., каштуюць да 40 руб. Пры недахопе сродкаў заміж вагі Бэранжэ можна купіць рагавыя коштам ў 4-5 руб., тады гэта з разнавескам абойдзецца ў 20—22 руб.

2) Паяльную трубку, 3) стэарынавыя сьвечкі (штука каштуе 15—20 кап.), 4) плацінавы дроцік з дзяржалкай, 5) мінэралёгічны пінцэт, 6) агатавую ступку, 7) сталёвую ступку Абіха, 8) срэбную пласьцінку (яе можна замяняць і старымі срэбнымі монэтамі), 9) фарфаравую пласьцінку, 10) магніт, ці магнітную стрэлку, 11) тугаплаўкія прабіркі (набор у 4-5 шт.), 12) шкляныя адкрытыя і з аднаго канца залітаваныя трубкі (набор 10—15 штук, а можна і менш), 13) часавое шкло (набор у штук 10), 14) рагавую лыжку, 15) мэнзурку, 16) шкалу цьвёрдасьці з 10, або хоць 8 мінэралаў [2]).

---

[1]) Для азначэньня мінэралаў паводле памянёнага падручніка патрэбна меншая колькасьць прылад і рэактываў і затрата сродкаў, а з гэтае прычыны і раіцца паказаны падручнік, набор прыладаў і рэактываў для працы па ім.

[2]) Лупа паказана ў разьдз. экскурсійнага абсталяваньня.

Рэактывы:

1) Буру ($Na_2B_4O_7 + 10. H_2O$),
2) Азотнакіслую закісь Кобальта ($CoN_2O6 + 6 H_2O$),
3) Фосфарную соль ($NH_4NaHPO_4 + 4 H_2O$),
4) Соду (у ёй не павінна быць сернакіслых соляў, ($Na_2CO_3$),
5) Помесь ёдзістага калія і серы ($KL + S$),
6) Хлёрыстае волава ($SnCl_2$),
7) Мэталёвае волава ў станіёлях ($Sn$),
8) Окісь медзі ($CuO$),
9) Азотны квас ($HNO_3$) 10% рошчын,
10) Серны крас ($H_2SO_4$) „ „
11) Саляны квас ($HCL$) „ „
12) Маталёвы магній у стане тоненькага дроціка ($Mg$),
13) Рэактыўную паперу чырвоную і сінюю лакмусавую і куркумавую.

Памянёных рэактываў досыць на пачатак мець на 50—75 гр., а то і менш, рэактыўнае паперы на 25—30 кап.

Усё пералічанае лябораторнае абсталяваньне і рэактывы будуць каштаваць каля 100 руб. Мажліва з АОНАПа купіць іх спэцыяльны набор (без вагі і разнавеску), які каштуе 35 руб. і прыстасаваны ўвотуле для працы па азначніку Федароўскага, а з вагою і разнавескам ад 55—75 руб.

Набыцьцё пералічанага лябораторнага абсталяваньня ізноў такі можа быць даступа для акруговых т-ваў, але мажліва і тут частку прылад зрабіць самому краязнаўцу.

Напрыклад, шкалу цьвёрдасьці 7 ступеняў можна заміж пакупное скласьці такую: 1) кавалак тальку, 2) кавалак каменнае солі, ці рагавую плястынку, 3) медную монэту, 4) жалезную плітку, 5) кавалак шкла, 6) кавалак палявіку, 7) кавалак кварцу, ці крameню.

Таксама ня цяжка зрабіць і паяльную трубку (гл. малюнак 4, літ. „а“ і „б“). Для гэтага трэба выстругаць кругла 2 палачкі (мал. 4,




Мал. 4.

літ. „в“ і „г“), таўшчынёю ў дыямэтры 2-3 см., адна з іх павінна быць з муштуком і даўжынёю ў 25 см., другая ў 10—15 см., прапячы затым па даўжыні ў абодвых палачках жагалам дзірачкі і ўставіць карацейшую палачку ў даўжэйшую так, як гэта паказана на малюнку 4, літ. „д“ і „е“—і атрымаецца паяльная трубка. Калі ў злу-

чэньні (калене) трубка будзе прапушчаць паветра, то трэба месца злучэньня залітаваць чым-небудзь, хоць-бы воскам, смалою, а каб канец трубкі не абгараў на агні, то яго трэба абгарнуць мяккай бляшкай (гл. мал. 4, літ. „ж", „з").

У раённым т-ве краязнаўства пры адсутнасьці сродкаў для набыцьця прылад і рэактываў для азначэньня мінэраляў патрэбна мець хоць-бы самадзельную шкалу цьвёрдасьці, саляны квас 10% рошчыну, лупу, фарфаравую плястынку, азначнік горных парод па надворным прыкметах,[1]) што абойдзецца ў 5—6 руб.

Набыць усё абсталяваньне і экскурсійнае і лябораторнае мажліва:

1) Карту 3-вёрстку з Геокртпрому (Москва, Центр. Кузнецкий Мост, д. № 9), 5-вёрстку мажліва набыць праз ЦБК пры БАН.

2) Экскурсійнае і лябораторнае ці з АОНАПа (Масква), ці з Кнігоспілкі (Харків, Горянівський пров., ч. 2).

Зусім зразумела, што трэба ўмець карыстацца як усімі тымі экскурсійнымі прыладамі, так і прыладамі і рэактывамі па азначэньні мінэраляў, што пералічаны вышэй. Аб гэтым патрэбныя даведкі дае рэкамандаваная вышэй літаратура, а аб карыстаньні мернымі прыладамі-адпаведныя аддзелы якое-колечы пачатковае геодэзіі, а ў крайнім выпадку мажліва карыстацца хоць-бы *М. В. Усковым*—„Практические работы по начальному курсу географии" (ГИЗ, каштуе 45 кап.).

Трэба ўмець здымаць і маляваць пляны невялікіх кавалкаў дасьледванае мясьціны хоць-бы спосабам „глазомерной" зьёмкі, аб чым патрэбныя матар'ялы ёсьць ва ўсякай пачатковай геодэзіі або ў кніжцы проф. *В. П. Буданава:* „Для чего краеведу нужна географическая карта" (каштуе 1 руб., але, здаецца, ёю забясьпечаны ўсе т-вы).

## Дасьледчая праца.

Праца па вывучэньні карысных выкапняў праводзіцца шляхам экскурсій і экспэдыцый і складаецца з наступных момантаў:

1) Папярэдняга азнаямленьня з намечанай для дасьледваньня мясцовасьцю па даступнай гідрографічна-геолегічнай літаратуры. Сьпісы яе мажліва знайсьці ў тых бібліографіях, якія ўжо надрукаваны, а апрача гэтага кніжная палата і Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка выдаюць поўную бібліографію ўсяе літаратуры, а ў тым ліку і гідрографічна-геолёгічнай, аб БССР.

2) З укладаньня маршрутаў экскурсій ці экспэдыцый, патрэбных для адшуканьня карысных выкапняў. Тут трэба вызначыць якой гушчыні сеткаю экскурсій, ці экспэдыцый патрэбна пакрыць дасьледваемую мясцовасьць, ці, іначай кажучы, у якіх конкрэтна мясьцінах павінен пабываць дасьледчык, адшукваючы карысныя выкапні і які час для гэтага патрэбна затраціць. Пры вызначэньні маршрутаў патрэбна заўсюды браць пад увагу рэльеф мясцовасьці і асноўнымі, апорнымі пунктамі для вывучэньня патрэбна вызначаць тыя, дзе ёсьць добрыя прыродныя абгаленьні, як равы, карэнныя берагі рэк, глінішчы, розныя глыбокія ямы, якія капаюцца ў даны час, студні і інш., а таксама і тыя месцы, якія дакладна апісаны ў геолёгічнай літаратуры.

---

[1]) Мажліва параіць „Определитель горных пород по внешним признакам"—И. Н. Гладина, ГИЗ,—20 кап.

Для ўкладаньня маршрутаў патрэбна хоць-бы самае элемэнтарнае папярэдняе знаёмства з рэльефам месца досьледу, якое мажліва набыць, ці па літаратурных крыніцах, ці праз апытаньне асоб, якія ведаюць рэльеф раёну, ці вывучэньнем топографічнае 3-вёрснае карты, на якой паказаны равы, стромкія берагі рэк і інш. віды рэльефу.

Пры наяўнасьці паказаных вышэй умоў маршруты будуюцца такім чынам, каб яны праходзілі праз паказаныя месцы натуральных абгаленьняў, адкуль ужо пры патрэбе ў час палявое працы краязнаўца робіць тыя, ці іншыя маршрутныя адыходы, каб пры дапамозе пракопкі шурфаў прасачыць той ці іншы від карысных выкапняў, або тую ці іншую геолёгічную зьяву.

Пабудаваныя такім чынам маршруты, ды калі яшчэ дасьледчык умее адшукаць па карце патрэбныя об'екты на мясцовасьці, маюць тую перавагу, што дасьледчык адразу накіроўваецца ў пэўныя мясьціны выхадаў карысных выкапняў і дасьледваўшы іх, ужо потым ці концэнтрычнымі кругамі, ці расходнымі з аднаго пункту дадатковымі маршрутамі, а калі гэта бераг ракі, ці роў, то па кірунку іх, прасочвае географічнае пашырэньне знойдзенага об'екту, калі дазваляе гэтаму заляганьне, а ўсё гэта дае мажлівасьць экономіць і сродкі і час.

Калі-ж папярэдніх даных аб намечанай для дасьледваньня мясцовасьці няма такіх, якія-б дазвалялі ўкласьці маршруты так, як аб іх гаварылася, то трэба ўкладаць орыентовачна маршруты, каб яны пакрывалі плошчу мясцовасьці, нібы квадратоваю сеткаю, пабудаванаю ў любым маштабе, а пры наяўнасьці сродкаў і часу лепш браць маштаб: у 1 цалі 3 вярсты, ці ў 2, 3 см.—3 клм., а ў процэсе палявой работы ў залежнасьці ад напатканых об'ектаў ужо патрэбна ці згушчаць, ці разраджаць сетку намечаных маршрутаў. Пры такіх акалічнасьцях патрэбна аб мясцох выхадаў карысных выкапняў зьбіраць шмат вестак ад насельніцтва, дасьледуючы затым паказаныя мясцовасьці.

Укладаньне маршрутаў патрабуе пэўнага навыку і набываецца паступова ў процэсе працы.

Падамо яшчэ пару заўваг, як пры некаторым навыку мажліва на аснове самых элемэнтарных папярэдніх вестках аб раёне намеціць маршруты, знайшоўшы тыя месцы, дзе мажліва дасьледваць тыя ці іншыя выхады парод.

а) На 3-вёрснай карце Мазыршчыны пры рацэ будзе паказаны заліўны луг, прылягаючы ў аддаленьні, паводле даных літаратуры да морэны, сярод лугу там-сям уздымаюцца прадаўгаватыя, выцягнутыя ў кірунку цячэньня ракі грады, углядаючыся ў штрыхоўку якіх відаць, што схілы ў іх крутыя і месцамі разбураныя. Для гэтых месц у гідролёгічнай літаратуры будзе дана характарыстыка, што яна ў мінулыя часы была больш воднаю і заліўны луг зьяўляецца нічым іншым, як былым руслом ракі. На аснове гэтакіх даных мажліва ўжо ўявіць сабе, што на лузе, на грудкох верхнія пласты месцамі могуць мець пераадкладзеныя безвалунныя суглінкі нязначных напластаваньняў, могуць быць лугавыя мэргелі, жалезістыя матэрыі — ортзанды, травяны торф, натоўпы глею, а можа быць нават і сапрапеліты. Калі дзе-колечы ў нізкім беразе ракі і будуць выступаць пяскі, то яны будуць безвалуннымі, пераважна дробна-зярністымі. Пяскі пойменных град ужо некалькі будуць адрозьнівацца ад пяскоў, выступаючых на беразе ракі: яны будуць напамінаць сабою пяскі, прыкрываючыя морэну, але будуць безвалуннымі.

Такім чынам, распрацоўваючы маршруты, дасьледчык ужо наперад прыблізна можа ўяўляць сабе, якія об'екты карысных выкапняў ён напаткае, праводзячы экскурсіі, ці экспэдыцыі ў патрэбныя мясьціны.

Прывядзем другі прыклад. На тэй-жа 3-вёрснай карце Мазыршчыны будзе паказана шырокае, але няпрыкметна ўзьнятае плято, у паніжэньнях якога залягаюць непраточныя, або хоць і праточныя балоты з грудкамі сярод іх, а ў геолёгічнай літаратуры будуць весткі, што даная мясьціна распаложана ў абшарах морэнных пакладаў. Такія даныя даюць мажлівасьць меркаваць, што ў паказанай і ёй падобных мясьцінах будуць на паверхні сушы сустракацца валуны, на некаторай глыбіні морэнныя суглінкі, па забалочаных у мінулым далінках і лажбінках могуць быць пераадкладзеныя суглінкі, могуць быць і лугавыя мэргелі.

У балотах будзе сустракацца імховы торф, на грудкох, што сярод балот, могуць быць і морэнныя і пераадкладзеныя суглінкі, а месцамі сярод балот рэдка могуць пракідацца валуны, нават вялікіх памераў.

Больш таго, калі з балоцін паказаных месц будуць выцякаць рэчкі, то настоеная на торфе вада будзе ў рэчках жаўтавага колеру, першы ваданосны пласт і на сушы, у прылягаючых да балот частках, будзе мець ваду жаўтавага колеру з пахам балота.

Мажліва і яшчэ прывесьці шмат прыкладаў, як на аснове папярэдніх даных аб пэўнай мясьціне мажліва пры ўкладаньні маршрутаў увогуле прадугадваць, дзе і якіх выкапняў варта шукаць, а ў адпаведнасьці з гэтым і будаваць маршруты.

3) З правядзеньня палявой працы па ўкладзеных маршрутах на вызначанай мясцовасьці, дзе перш патрэбна ўстанавіць тыпы макро і мікрарэльефу (іх кароткая клясыфікацыя і прыкметы прыведзены ў проф. Красюка: „Почвы и их исседование в природе“). Азначыўшы напатканыя тыпы макро і мікрарэльефу, правёўшы вымеры характэрных схілаў і занатаваўшы іх, затым ужо патрэбна дасьледваць і карысныя выкапні, якія тут ёсьць.

Трэба аднак заўважыць, што ў працы на тэрыторыі хвалістаўзгоркаватага рэльефу пяшчаных прастораў, апрача досьледаў складу парод, варта належную ўвагу зьвярнуць на зьёмку профіляў (аб зьёмцы профіляў глядзець адпаведную літаратуру, вызначаную ў разьдзеле карыстаньня мернымі прыладамі) тых пяшчаных валаў, град і бугроў— элемэнтаў данага тыпу рэльефу, каб потым мажліва было вызначыць іх генэзіс.

Вывучэньне пакладаў карысных выкапняў робіцца так: лапатай ачышчаецца (асьвяжаецца) знойдзенае абгаленьне ад самага верхняга да самага ніжняга пласту, праводзіцца затым вымер мэтрам, ці рулеткай тоўшчы кожнага пласту паасобку, пры дапамозе горнага компасу, а ў некаторых выпадках і эклімэтру, вызначаецца кірунак заляганьня пластоў, нахіл, кут нахілу (падение и угол падения), і ўсё гэта занатоўваецца адразу ў запісную кніжку і замалёўваецца.

Вось прыклад апісаньня абгаленьня (парадак запісу нісходзячы[1]).

Абгаленьне № 2 ў Галодным рове (канцы яго), прылягаючы да вул. Калінік (пд.-ўс. ўскарайкі г. Мазыра), заляганьне пластоў у даным месцы паземнае.

[1]) Мажліва апісваць пласты і ва ўсходзячым парадку, але гэта заўсёды трэба адзначаць, каб потым не пераблытаць парадку напластаваньня.

1) Расьліннае акрыцьцё—0,06 мэтр.[1]).

2) Лёэсаватыя слаістыя супяскі, яны ў сухім стане слупчатае структуры, з іржавымі зацёкамі і налётам вапны па шчылінах 4—5 м.

3) Сьветла-шэры накіднёвы морэнны пясок, у ніжняй частцы пласту з глiністымі плямамі—0,35 м.

4) Морэнны (буйна-прызматычны) суглінак. У ім значная колькасьць плотных рознакалёрных вапнякоў і ракавінных, а таксама пракідаюцца вапняковыя сьцягваньні (стяжения), гэта дуцікі, жураўчыкі, жалвакі. Ёсьць гнёзды пяску спарахнелых парод—4—6 м.

5) Жаўтавы дробна і сярэдня-зярністы пясок з гліністымі плямамі—0,5 м.

6) Сьветла-шэры накіднёвы пясок з зігзагавымі жоўтымі гліністымі жыламі ў ніжняй частцы пласту (тоўшча жыл—2—3 см.) 2,5 м.

7) Морэнны (накіднёвы) чырванавата - жаўтавы, у сухім стане структурны (прызматычны) суглінак; сярод валуноў у значнай меры сустракаюцца плотныя рознакалёрныя вапнякі, радзей ракавінныя—4,5 см. (да канца ня пройдзены).

Гл. цяпер замалёўку таго-ж абгаленьня:

Калі-ж заляганьне таго або іншага пласту не паземнае, а нахіленае, або калі ў пласту напаткана жыла, то тады, азначаўшы кірунак заляганьня пласту ці жылы, нахіл і кут нахілу, яшчэ трэба адзначыць і атрыманыя даныя ў запісах. (Аб вызначэньні кірунку пласту, яго нахілу і кута нахілу (гл. 38—41 стар. кніжкі: „Что такое геология и как собирать геологические коллекции"—П. Степанова). Пасьля гэтага патрэбна адпаведным умоўным знакам на карце, з якою дасьледчык працуе, адзначыць месца выхаду карысных выкапняў. Звычайна раіцца гэта адзначаць цыфрамі, але як у першым, так і ў другім разе знак, пастаўлены на карце, трэба занатаваць і ў запіснай кніжцы ў тым месцы, дзе апісаны выкапні, адзначаныя на карце.

Затым трэба ўзяць узоры парод з апісаных пластоў, адпаведным чынам напісаўшы да іх этыкеткі. Разьмер узораў парод трэба браць найбольшы, бо пры малым разьмеры немажліва будзе і азначыць іх і скласьці музэйныя колекцыі.

Сярэдні разьмер узораў карысных выкапняў я параіў-бы браць 12.12.12. см., або і 16.16.16. см., усякія-ж пароды з прыкметнымі ракавінамі лепш, зразумела, браць цалкам, раз яны невялікіх разьмераў, у праціўным выпадку трэба адбіваць ад іх найбольш характэрныя кавалкі.

Лепш, зразумела, браць узоры ўсіх пластоў, але калі дзеля розных прычын дасьледчык гэтага ня можа зрабіць, то трэба абавязкова ўзяць узоры парод карысных выкапняў, а таксама абавязкова браць усе напатканыя скамянеласьці.

Пры ўзяцьці ўзораў парод трэба яшчэ на месцы зрабіць пробу іх саляным квасам, каб даведацца, ці ёсьць вапняковыя матэрыі і аб гэтым адзначыць у запісах.

Этыкеткі для ўзораў парод, як ужо сказана вышэй, трэба рабіць у форме квітарусаў, іх трэба сшыць і пранумараваць, а ў зьмест іх павінна ўваходзіць: № абгаленьня і пласту, дакладнае апісаньне месцазнахаджэньня яго, № кніжкі і старонкі, дзе адпаведны пласт апісаны, дата, калі ўзор выкапняў узяты, прозьвішча дасьледчыка.

---

[1]) Мажліва паказваць тоўшчу пластоў і ў см.

Вось прыклад звычайнай этыкеткі:

| Карашок этыкеткі | Адрыўная этыкетка |
|---|---|
| Ст. I.<br>Абг. № 2, пл. 3.<br>Месцазнахаджэньне: Галодны роў (канец рову, прылягаючы да вул. Калінік—пд.-ўс. ускрайкі г. Мазыра).<br>Запісн. кн. № 1, ст. 12.<br>26/VII-1929 г. М. Качаноўскі. | Ст. 1.<br>Абг. № 2, пл. 3.<br>Месцазнахаджэньне: Галодны роў (канец рову, прылягаючы да вул. Калінік—пд.-ўс. ускрайкі г. Мазыра).<br>Запісн. кн. № 1. ст. 12.<br>26/VII-1929 г. М. Качаноўскі. |

Вышэйапісаным спосабам дасьледваньня напатканых парод трэба карыстацца і тады, калі прыходзіцца дасьледваць мясьціны, дзе натуральных абгаленьняў, як равоў, карэнных берагоў рэк і інш. няма, а трэба рабіць спэцыяльныя练 пракопкі, ці, так званыя, шурфы (як пракопваць шурфы, гл. адпаведны разьдз. кнігі: „Почвы и их исследование в природе"—проф. Красюка).

Закончыўшы палявую працу па адшуканьні карысных выкапняў затым патрэбна апрацаваць сабраныя матар'ялы.

Паколькі памянёная апрацоўка і зацяжная і складаная справа, то сабраныя матар'ялы, запісы аб іх патрэбна перш прывесьці ў такі від, каб яны маглі пэўны час захоўвацца і ў іх мажліва было разабрацца. Для гэтага ўсе ўзоры выкапняў сортуюцца па нумарох абгаленьняў і пластоў, пераглядаюцца ўсе этыкеткі, намокшыя, або пацёртыя з іх замяняюцца сьвежымі, робяцца тыя, ці іншыя папраўкі ў палявых нататках, а затым ужо распачынаюць самую апрацоўку матар'ялаў, якая складаецца з наступных момантаў:

а) азначэньне сабраных парод пры дапамозе тых прылад, рэактываў і адзначнікаў, сьпіс якіх паказаны вышэй, адзначаючы па мажлівасьці іх якасьць і для якіх патрэб іх варта выкарыстоўваць;

б) укладаньне апісаньня карысных выкапняў, у зьмест якога ня толькі павінны ўваходзіць даныя аб географічным разьмяшчэньні дасьледваных выкапняў, але і даныя аб колькасьці і якасьці іх, калі яны ўстаноўлены. Узорам для такога апісаньня можа ў значнай меры служыць „Гідрографічна-геолёгічнае апісаньне Асіпавіцкага раёну, Бабруйскае акругі"—*Б. К. Тэрлецкага* (гл. зборнік: Асіпавіцкі раён, ч. I, выд. ІБК, 1928 г.).

в) укладаньне карты карысных выкапняў лепш у тым маштабе, у якім вяліся досьледы.

Затым неабходна яшчэ популярызаваць сярод шырокіх колаў працоўных, плянавых органаў вынікі праведзенай працы, ці гаворачы краязнаўчаю моваю, неабходна вынікі дасьледчай працы абярнуць у краябудаўнічыя мэты, аддаць на справу соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэта варта правесьці ў форме пастаноўкі дакладаў з дэмонстрацыяй узораў выкапняў, а таксама склаўшы ў музэі колекцыю карысных выкапняў, зрабіўшы, такім чынам, і папаўненьне і выстаўку вынікаў дасьледчай працы ў музэі з адпаведнымі комэнтарыямі экспонатаў.

### Якія карысныя выкапні патрэбна вывучаць.

Патрэбныя для вывучэньня і выкарыстаньня выкапні, пашыраныя ў БССР, пералічаны ў памянёнай вышэй інструкцыі Тэрлецкага, але да прыведзенага там сьпісу патрэбна дадаць такія выкапні, як торф

і сапрапеліты. Сапрапеліты—органічныя адклады на дне стаячых і слаба-праточных вадаёмаў, утвораныя, галоўным чынам, рэшткамі водных расьлін, жывёл і іх экскрэмэнтамі (колер іх бывае буры, ці зеленаваты).

Тады віды выкапняў мажліва падзяліць на наступныя групы:

1) крышталёвыя і ападкавыя пароды, занесеныя на тэрыторыю БССР ледавікамі; яны могуць быць выкарыстанымі на розныя будаўнічыя патрэбы;

2) ападкавыя пароды, якія ўтварыліся тут у мінулыя геолёгічныя пэрыоды; яны годны і на розныя будаўнічыя патрэбы і для ўгнаеньня палёў;

3) выкапні, утвораныя з рэштакаў расьлінных і жывёлінных організмаў у выніку фізычных і хэмічных процэсаў, якія адбываюцца ў глебе і вадзе; годныя часткаю для ўгнаеньня, а часткаю на будаўнічыя мэты.

Зразумела, што ўсе выкапні пералічаных груп і падлягаюць дасьледваньню, але калі няма мажлівасьці вывучаць усе віды, то патрэбна дасьледваць хоць некаторую частку іх, улічваючы пры разгортваньні данай працы задачы соцыялістычнага будаўніцтва ў адпаведнасьці з вызначанымі плянамі выкананьня іх.

Увага: Пры ўкладаньні інструкцыі выкарыстана літаратура: „Первые шаги в науке о земле"—Иогана Вальтера, „Что такое геология и как собирать геологические коллекции"—П. Степанова, „Определение минералов" (курс минералогии, ч. III) проф. Н. М. Федоровского.

---

**Проф. А. Смоліч.**

# Аддзел Навукі на Ўсебеларускай Выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці 1930 г.

Асноўнай задачай Аддзелу Навукі на Выстаўцы будзе паказ таго, што за 10 год існаваньня БССР зроблена савецкімі навуковымі ўстановамі ў справе вывучэньня Беларусі і як вынікі гэтае працы можна скарыстаць у практыцы соцыялістычнага будаўніцтва. Калі асноўнай мэтай Выстаўкі ёсьць паказаць шырокім масам працоўных, як будуецца соцыялізм у Беларусі, навучыць іх як весьці кожную галіну гэтага вялікага будаўніцтва, дык зразумела, што ў грунце неабходных для гэтага ведаў павінны ляжаць веды аб прыродных і соцыяльна-экономічных умовах Беларусі, у якіх гэтае будаўніцтва адбываецца. Вывучэньне прыродных асаблівасьцяй Беларусі, вывучэньне яе экономікі, вынікі якога будуць прадстаўлены ў аддзеле навукі, падводзіць нас да сьвядомых адносін да тых пэрспэктыў, якія раскрываюцца перад народнай гаспадаркай, да ўсіх тых тэхнічных мерапрыемстваў, з якімі наведвальнік Выстаўкі будзе знаёміцца ў іншых яе аддзелах.

Адно з важнейшых практычных пытаньняў сучаснасьці—пытаньне аб спэцыялізацыі народнае гаспадаркі Беларусі, аб тых заданьнях, якія ёй даюцца і могуць быць даны ў агульна-саюзным географічным падзеле працы—непасрэдна выплывае з разгляду прыродных, экономічных і соцыяльна-гістарычных асаблівасьцяй Беларусі. А гэтае

пытаньне павінна быць усьвядомлена кожным рабочым, кожным колгасьнікам, каб ён, выконваючы сваю штодзённую працу, выразна ўяўляў яе сабе, як неабходную частку агульна-саюзнага пляну, пляну перамогі социялізму. Няма што і казаць, што такое ўяўленьне значна падыме продукцыйнасьць і якасьць яго працы, працы ўсяго колектыву, дзе ёсьць такія сьвядомыя працаўнікі.

У процэсе социялістычнай рэконструкцыі шпаркім тэмпам ствараюцца новыя нявіданыя дагэтуль гаспадарчыя формы, уводзяцца новыя спосабы, новыя машыны, новыя культуры. Пры арганізацыі буйных савецкіх ці колектыўных гаспадарак надзвычайна важна ведаць усе рэсурсы і магчымасьці, якімі пры гэтым можна распалагаць у кожнай мясцовасьці. У навуковай літаратуры аб іх можна даведацца не заўсёды, нават тады, калі-б гэткая літаратура была даступна для карыстаньня мясцовым працаўніком. Відавочна, што тут павінен прысьці на дапамогу мясцовы краязнаўчы досьлед. Трэба вельмі значна расшырыць шэрагі актыўных краязнаўцаў. Трэба ўзброіць навукай масы, якія плянова будуюць социялістычную гаспадарку і культуру. З гэтага погляду вельмі важна будзе даць гэтым масам прылады і мэтоды досьледу, хаця-б найпрасьцейшага.

Нельга думаць, што гэтая справа будзе мала цікавай. Хіба невядома, якое здавальненьне дастаўляе людзям нават вельмі далёкім, ад профэсійнае навукі, магчымасьць самастойных дакладных вымярэньняў. У гаспадарчай практыцы могуць мець вялікае значэньне, напр., вымярэньні тэмпэратуры вады, паветра, вымярэньні ціску, вагавыя азначэньні вільготнасьці глебы, азначэньні мэханічнага складу глеб, попелу ў торфе, жыру ў малаку і г. д. Усе гэтыя вымярэньні і ім падобныя трэба найшырэй паказаць на выстаўцы, навучыць ім масы экскурсантаў. Для гэтай мэты пададдзелам хэміі мае быць арганізавана невялікая ўзорная ляборатория; падобныя-ж экспонаты будуць і ў іншых аддзелах.

Такім чынам аддзел навукі на Выстаўцы павінен будзе шмат увагі ўдзяліць ня толькі дэмонстрацыі дасягненьняў навуковых устаноў, але і самай мэтодыцы навуковага досьледу. Аднак, і першая задача—паказаць дасягненьні беларускае савецкае навукі за час існаваньня БССР—прадстаўляецца вельмі важнай. Мы прывыклі да гэтых дасягненьняў і не заўсёды належна ацэньваем іх грандыёзнасьць, бо не разглядаем іх пры сьвятле гістарычных параўнаньняў. А тым часам варта ўспомніць, што там, дзе сягоньня ўжо працуюць поўным ходам дзесяткі навуковых устаноў—Беларуская Акадэмія Навук, шэраг навукова-дасьледчых інстытутаў і катэдраў, пяць вышэйшых школ і найшырэйшая ў Саюзе краязнаўчая сетка—дзесяць год назад ня было нічога—ніводнае навуковае ўстановы нават у зародкавым стане. Беларусь, якая ў той час лічылася па справядлівасьці аднэй з найменш дасьледваных краін Эўропы, сталася ў сучаснасьці асяродкам найбольш інтэнсыўнага і ўсебаковага вывучэньня. За кароткі час нашыя навуковыя ўстановы сталі аднэю з важных падстаў гаспадарчага росту і социялістычнае перабудовы і робяцца магутнейшым рухавіком культурнае і социяльнае рэволюцыі.

Аддзел навукі будзе складацца з 11 частак (пададдзелаў і сэкцый), у якіх будуць разьмешчаны экспонаты па геолёгіі, глебах, флёры, фаўне, клімату, географіі Беларусі, хэміі, экономіцы сельскай гаспадаркі, экономіцы прамысловасьці Беларусі, а таксама па мэтодыцы агродапамогі і сельска-гаспадарчай літаратуры. Тут-жа будзе разь-

мешчаны і краязнаўчы аддзел. Зьмест экспонатаў, якія будуць прадстаўлены па кожнай галіне ў сучаснасьці ўжо больш-менш вядомы. Устаноўлены ў кожным разе асноўныя тэмы для кожнае галіны.

Пададдзел *геолёгіі* павінен будзе паказаць гледачу выкапальныя багацьці і старадаўную няпісаную гісторыю беларускага абшару. З-пад глыбокага акрыцьця нашых звычайных пяскоў і глін выйдуць на сьвет адклады старадаўняга мора—вапнякі розных эпох, долёміты, крэйда, фасфарыты, старадаўнія гліны і г. д. Цяпер яны вельмі прыдадуцца для вапнаваньня глебы, для тэхнічных мэт у самых розных галінах прамысловасьці. Будзе зьвернута вялікая ўвага і на розныя больш пашыраныя і даступныя карысныя выкапні, якія часта пападаюцца на вока ды не зьвяртаюць на сябе належнае ўвагі—усе гэтыя ганчарныя ды цагельныя гліны, марглі, гутавыя пяскі, паклады вазёрных і балотных жалезных руд і шмат іншых. Цэлыя галіны прамысловасьці з аграмаднымі заводамі пабудуюцца ў бліжэйшым часе на грунце гэтае мінэральнае сыравіны, з яе матар'ялаў вырастуць новыя гарады і вялізарныя колгасы. Спэцыяльныя карты, профілі і разрэзы і прадметныя экспонаты дадуць магчымасьць уявіць сабе разьмяшчэньне ўсіх гэтых так важных для практычнага жыцьця матар'ялаў і ўмовы іх здабываньня.

У галіне *глебазнаўства* сапраўды ёсьць што паказаць на Ўсебеларускай Выстаўцы. За 6 апошніх год Беларуская Акадэмія Навук (раней Інбелкульт) правяла сіламі свае катэдры глебазнаўства поўнае дасьледваньне глебавага акрыцьця БССР. Дэталёвыя глебавыя карты ўсіх акруг Беларусі ўжо цяпер красуюцца на сьценах габінэтаў Акадэміі. Праз Выстаўку гэтае вялікае навуковае багацьце трэба зрабіць даступным самым шырокім масам колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, бо глеба—гэта ёсьць варштат, на якім працуе земляроб і які ён павінен як найлепш ведаць. Апроч глебавых карт будуць паказаны ўзоры глеб, вынікі глебавых аналізаў, вынікі вывучэньня прыроднае ўраджайнасьці розных глеб і г. д.

Пэўнае месца на Выстаўцы будзе адведзена *клімату* Беларусі і мэтодам яго вывучэньня. Гэты дужа важны фактар ураджайнасьці, на які мы яшчэ ня ўмеем у належнай меры ўплываць, павінен намі вывучацца з асаблівай увагай, каб мы маглі выкарыстаць яго дадатнія бакі ў сваёй гаспадарчай дзейнасьці і змагацца з адмоўнымі кліматычнымі ўмовамі. У вывучэньні клімату асабліва патрэбна колектыўная праца масавага працаўніка, які на Выстаўцы зможа даведацца, у чым ён можа дапамагчы і што для гэтага яму трэба ведаць.

*Флёра і фаўна* Беларусі будуць адлюстраваны на Выстаўцы ў багатых колекцыях чучал, гэрбарыяў, малюнкаў і карт. І ў гэтых галінах нашая маладая навука пасьпела зрабіць нямала. Так, на Выстаўцы будзе прадэмонстравана геоботанічная карта ўсяе Рэспублікі, якая зьяўляецца вынікам шасьцігадовай працы Інбелкульту і БАН. Гэтая карта паказвае разьмяшчэньне на тэрыторыі Рэспублікі прыродных расьлінных згуртаваньняў, роля якіх у нашай гаспадарцы астаецца дужа вялікай. Наагул вялізныя багацьці дзікае флёры і фаўны скарыстоўваюцца ў нас чалавекам дагэтуль вельмі павярхоўна і экстэнсыўна; бясспрэчна, што пры больш уважлівых да сябе адносінах дзікая расьліннасьць нашых лясоў, балот, сенажацяй магла-б даць значна больш таго, што яна цяпер дае. Да таго-ж дзікая расьліннасьць вельмі добра характарызуе сабою комплекс кліматычных, глебавых, гідролёгічных і інш. умоў тае мясцовасьці, дзе яна расьце, і гэтым дае цэнныя

ўказаньні адносна магчымасьцяй увядзеньня тых ці іншых новых відаў культурных расьлін.

Экспонаты па *географіі*, падагульняючы ўсю прыродную характарыстыку паасобных раёнаў БССР і ўвязваючы яе з характарыстыкай экономічнай, павінны даць комплекснае, сынтэтычнае ўяўленьне аб асноўных ляндшафтах БССР і іх разьмяшчэньні. На Выстаўцы будзе прадстаўлены шэраг спэцыяльных карт Беларусі, прыгатаваных БАН у апошнія гады—як карта рэльефу, разьмяшчэньня насельніцтва, экономічная карта, карта паасобных культур у найбольш дэталёвай распрацоўцы. Апроч таго для характарыстыкі ляндшафтаў будуць выкарыстаны колекцыі малюнкаў і фотографій.

Географічныя веды непасрэдна патрэбны організатару гаспадаркі і плянаваму працаўніку. Для большае практычнае карысьці трэба гэтыя веды магчыма глыбей дэталізаваць. І калі мы ставім сабе задачу давесьці пляны социялістычнага будаўніцтва да кожнага раёну, сельсавету, да кожнага колектыву, дык неабходнай умовай гэтага будзе нашыя географічныя веды, якія да апошняга часу ня ішлі далей агульнае характарыстыкі паасобных акруг,—пашырыць да раёнаў і сельсаветаў. І тут надзвычайна каштоўнай і проста неабходнай зьяўляецца масавая краязнаўчая праца, у аснове якой ляжыць перад усім прасторавы, хоролёгічны прынцып і якая сваёй задачай таксама лічыць давядзеньне маштабаў дасьледчае працы да найдрабнейшых тэрыторый.

*У экономічных* пададдзелах таксама будуць дэмонстравацца дасягненьні нашае экономічнае і плянавае навукі ў справе вывучэньня мінулай і сучаснай гаспадаркі Беларусі. Тут, аднак, асабліва важна паказаць у лічбах і графіках само вялікае социялістычнае будаўніцтва нашае эпохі, яго разьмеры, тэмп і формы. Трэба дасягнуць таго, каб дзесяткі тысяч наведвальнікаў Выстаўкі добра сабе ўсьвядомілі неабходнасьць індустрыялізацыі Беларусі, неабходнасьць буйнога колектыўнага землярobства, неабходнасьць ліквідацыі эксплёататарскіх клясаў. Праўда, гэтыя задачы ставіць сабе ўся Выстаўка ў цэлым, выяўляючы іх у тысячах рознастайных экспонатаў па розных галінах гаспадаркі. Тут, аднак, у экономічных пададдзелах, гэтыя асноўныя палажэньні экономічнае політыкі пролетарскай дзяржавы павінны быць сформуляваны найбольш выразна і пераканальна. Тут экскурсанты павінны атрымаць першую абгрунтаваную ідэолёгічную ўстаноўку, пад кутом гледжаньня якой яны далей з найбольшай карысьцю будуць аглядаць пераважна конкрэтныя, прадметныя экспонаты ўсіх іншых аддзелаў. Відавочна, што да экономічных пададдзелаў Выстаўкі павінна быць прыцягнута найшырэйшая ўвага партыйных і грамадзкіх організацый.

З паасобных тэм, якія будуць прадстаўлены ў гэтых пададдзелах, можна тымчасам адзначыць наступныя. Па *экономіцы прамысловасьці* будзе паказана разьмяшчэньне і колькасьць сыравінных і энэргетычных багацьцяў Беларусі, дынаміка разгортваньня прамысловага будаўніцтва з боку яго колькасных і якасных паказчыкаў, удзельная вага прамысловасьці ў народнай гаспадарцы, сучасны стан паасобных галін прамысловасьці, іх разьмяшчэньне, дасягненьні і пэрспэктывы ў разрэзе пяцігадовага пляну.

Пытаньні *экономікі сельскае гаспадаркі* будуць асьветлены як з боку дынамікі разьвіцьця паасобных экономічных зьяў у мінулым і ў пэрспэктыве пяцігодкі, так і з боку іх сучаснага стану. Вытворчая спэцыялізацыя паасобных раёнаў БССР, месца і роля беларускае сельскае

гаспадаркі ў агульнасаюзнай, а таксама і сярод іншых галін народнае гаспадаркі БССР, клясавая дыфэрэнцыяцыя земляробчага насельніцтва, процэсы абагульненьня сельскае гаспадаркі і яе індустрыялізацыі — усе гэтыя важнейшыя пытаньні сучаснае беларускае экономікі знойдуць сабе тут адлюстраваньне. Асаблівая ўвага будзе зьвернута на організацыйныя пытаньні колгаснага будаўніцтва, на высьвятленьне структуры новых організацыйных форм, якія стварае соцыялістычнае земляробства, і на іх перавагу перад дробнай сялянскай гаспадаркай. Больш дэтальную распрацоўку гэтых пытаньняў дасьць спэцыяльны аддзел організацыі абагуленай гаспадаркі, які будзе зьмяшчацца побач з агульным аддзелам навукі.

У склад навуковага аддзелу ўваходзяць яшчэ пададдзелы *агродапамогі і сельска-гаспадарчай літаратуры*. Тут маюць быць прадстаўлены тыя перадатачныя мэханізмы, праз якія вынікі навуковага досьледу ўплывалі дагэтуль на масавую гаспадарку. У сучаснасьці побач з імі ўсё большае значэньне займаюць мэтоды непасрэднага організацыйнага ўплыву на вытворчасьць з аднаго боку і мэтоды актыўнага ўдзелу самых масаў у навукова-дасьледчай працы. Таму неабходным дапаўненьнем аддзелу навукі зьяўляецца *аддзел краязнаўства*, які і будзе разам з ім разьмешчаны на Выстаўцы.

Аб краязнаўчым аддзеле на Выстаўцы ўжо пісалася ў „Нашым Краі". У ім будзе паказана мэтодыка краязнаўчай працы, пашыранасьць краязнаўчага руху і дасягненьні краязнаўчых організацый як у справе організацыйнай, так асабліва ў справе вывучэньня свайго раёну, яго прыроды, гаспадаркі, культурнага і соцыяльна-політычнага жыцьця.

Мы бачым, што задачы аддзелу навукі на Выстаўцы дужа важныя і заслугоўваюць вялікае агульнае ўвагі, асабліва-ж з боку навуковых працаўнікоў і краязнаўцаў, якія павінны клапаціцца аб найбольш удалым яго зьмесьце і афармленьні. Кожная краязнаўчая організацыя, так сама як і кожная навуковая ўстанова, павінны скарыстаць час падрыхтоўкі да Выстаўкі, каб падсумаваць праробленую ёю працу па вывучэньню свайго раёну, каб ацаніць сваю ролю ў соцыялістычным будаўніцтве, свае дасягненьні і недахопы, скарыстаныя і нескарыстаныя магчымасьці, бо Усебеларуская Выстаўка організуецца ў такі момант, калі аднэй з яе асноўных мэтаў трэба лічыць самаправерку працоўных мас гораду і вёскі перад рашучымі баямі за генэральную лінію комунізму.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

В. Самцэвіч.

## Халопеніцкі раён на шляху суцэльнай колектывізацыі.

### I. Прыродна-экономічныя фактары разьвіцьця народнае гаспадаркі і пашырэньня колектывізацыі.

Халопеніцкі раён зьяўляецца паўночна-ўсходнім раёнам Менскай акругі і ляжыць паміж 28°23′ і 29°7′ усходняй даўжыні (ад Грынвіча) і 54°4′—54°24′ паўн. шырыні. Тэрыторыя раёну з захаду мяжуецца з Бягомльскім і з паўднёвага захаду з Барысаўскім раёнам Менскай акругі, з паўднёвага ўсходу з Крупскім і з усходу з Чырэйскім раёнам Аршанскае акругі, з поўначы—з Лепельскім раёнам Полацкай акругі. Агульная плошча раёну 1416 кв. км. [1]).

Экономічнае значэньне раёну вызначаецца яго прыродна-географічнымі ўмовамі, рынычным палажэньнем, гушчынёй насяленьня, тэхнічна-экономічнай структурай гаспадаркі і агульнай культурнасьцю мас.



Карта Халопеніцкага раёну (схэматычная).

Але побач з гэтымі асноўнымі фактарамі, якія ў значнай меры абумоўлівалі і стымулявалі экономічнае жыцьцё раёну раней і якія маюць, бязумоўна, вялікае значэньне ў наш час плянавага соцыялістычнага будаўніцтва, калі кожны дробны раён уключаецца ў агульны плян соцыялістычнае гаспадаркі і калі Савецкай уладай праводзіцца шэраг мерапрыемстваў па скарыстаньню ўсіх прыродна-экономічных магчымасьцяй для найхутчэйшага экономічнага росквіту краіны, мы павінны ўлічваць і яшчэ адзін фактар вялікага значэньня—політыку і

[1]) Белорусская ССР в цифрах. 1929. Выд. ЦСУ.

мерапрыемствы Савецкае ўлады ў справе скарыстаньня вытворчых сіл краіны і пабудовы новае соцыялістычнае гаспадаркі.

Застановімся ў кароткіх рысах на вышэйпамянёных фактарах і прычынах, якія абумовілі сабой сучасны характар гаспадаркі Халопеніцкага раёну.

Халопеніцкі раён ляжыць у паласе мерна-прахладнага павышана-вільготнага кліматычнага раёну БССР. Сума актыўных вэгетацыйных тэмпэратур для раёну складае кяля 1500°. Уплыў кліматычных умоў выяўляецца ў абмежаваньні пашырэньня (у залежнасьці ад высьпяваньня) пэўных культур: так, напр., праз Халопеніцкі раён якраз праходзіць мяжа пашырэньня грэчкі на поўнач [1]). І сапраўды, грэчка ў раёне пашырана досыць слаба, ня гледзячы на адпаведныя ў некаторых месцах глебавыя ўмовы. Спробы разьвядзеньня (з прамысловай мэтай) табакі ў саўгасе Чырвоны Молат (каля Халопеніч) пакуль што ня далі дадатных вынікаў.

Паводле 3-вёрснай глебавай карты б. Барысаўскай акругі, складзенай проф. *Я. Афанасьевым*, глебы Халопеніцкага раёну пераважна пяшчаныя; ёсьць лёэсавыя суглінкі і супескі. У цэнтральнай частцы раёну (Траяноўскі, Кацюхоўскі, часткай Халопеніцкі і Ўзнацкі сельсаветы) глеба ўяўляе сабой моцнаападзоленыя лёэсавыя суглінкі; у паўдн.-ўсходняй частцы цягнецца дугападобная паласа (з загібам, пры павароце р. Эсы на захад і ў сярэднюю частку раёну ў кірунку на Жартай) сярэдне і слаба ападзоленых супяскоў (Узнацкі, Халопеніцкі і Грыцкавіцкі сельсаветы), прычым месцамі сустракаюцца слаба ападзоленыя зьвязныя пяскі, а ў усходняй і паўдн.-ўсходняй частцы— моцна падзолістыя лёэсаватыя суглінкі; глебы паўднёва-заходняй часткі раёну (Бараньскі с./с.)—слаба ападзоленыя, зьвязныя дробназярністыя пяскі; глебы паўночнай і паўн.-заходняй часткі (Латыгаліцкі, Краснапуцкі, Жартайскі і Замошаскі сельсаветы) прадстаўляюць слаба ападзоленыя рыхлыя дробназярністыя альбо жвіраватыя пяскі, сярод якіх параскіданы астравы больш зьвязных пяскоў і комплексы сфагнавых тарфянікоў. Уздоўж рэк Эсы, Бярозы з яе левымі прытокамі (Вялікая, Пяшчанка, Жартайка і інш.) ляжацьноймавыя ўтварэньні. Слаба падзолістыя глебы на глыбіні каля 1 м. падсьцілаюцца морэнай, часамі з прамежнымі пластамі жвіраватых пяскоў; сярэдня-падзолістыя на глыбіні 20—30 см. падсьцілаюцца пяскамі (рыхлымі, мелкімі альбо грубымі), а потым морэнай. У розных мясцох раёну сустракаюцца моцна забалочаныя і падзолістыя, а таксама травяністыя і тарфяна-глеевыя комплексы.



Глебы раёну.

Найбольш пладароднымі і спагадлівымі для разьвіцьця сельскае гаспадаркі глебамі зьяўляюцца, бязумоўна, лёэсавыя суглінкі і супя-

[1]) Проф. А. Смоліч. Сельска-гаспадарчыя раёны БССР. 1930 г. Карта 3.

скі, якімі характарызуецца паўдн.-ўсходняя і цэнтральная часткі раёну; найменш урадлівыя глебы — гэта морэнныя пяскі, характэрныя для заходняй і паўночнай частак раёну. Месцамі гэтыя пяскі вельмі густа пакрыты каменьнем. У Жартайскім сельсавеце, напр., усё поле ўсеяна рознай велічыні каменьнем; імі вылажаны ўсе межы, цэлыя груды ляжаць на палёх. Заходняя частка раёну з найменш урадлівымі глебамі ў значнай меры пакрыта хваёвымі лясамі. Тут-жа знаходзіцца і паляўнічы ахоўнік (па р. Бярозе).

Рыначнае палажэньне раёну досыць нявыгоднае. Раён ляжыць далёка ад гарадзкіх цэнтраў і прамысловых пунктаў. Бліжэйшымі гарадамі зьяўляюцца Барысаў, які адыгрываў і адыгрывае пераважную ролю ў экономічным жыцьці раёну, і Лепель [1]), прычым апошні да гэтага часу прыметнага рыначнага ўплыву на гаспадарку раёну ня меў, паколькі ён сам зьяўляўся і зьяўляецца яшчэ поўземляробчым паселішчам з зусім няразьвітай прамысловасьцю. Бліжэйшыя мястэчкі (Халопенічы, Красналукі, Чарэя і часткова г. Лепель) да апошняга часу былі рынкамі збыту розных мясцовых саматужных вырабаў: ганчарных, дуг, дзежак, цэбраў, скрынь і продуктаў сельскае гаспадаркі — масла, яек, сала і інш. У сучасны момант продукты сельска-гаспадарчага вырабу часткова збываюцца ўжо праз коопэрацыю, якая, аднак, належнай працы сярод мясцовага працоўнага насельніцтва не разгарнула, і не зьявілася ў належнай меры фактарам коопэраваньня і колектывізацыі дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак раёну.

Вялікае значэньне для экономічнага разьвіцьця пэўнага раёну маюць шляхі рыначных зносін і ў першую чаргу блізасьць чыгункі. І ў гэтых адносінах Халопеніцкі раён знаходзіцца ў няспрыяльных умовах: тут няма ні шосэйных, ні добрых грунтавых дарог. Толькі ў мінулым годзе значна папраўлена дарога на ст. Крупкі, якая і зьяўляецца бліжэйшай чыгуначнай станцыяй (28 км. ад м. Халопенічы). Другой найбольш блізкай станцыяй зьяўляецца ст. Барысаў (МББ чыгункі), ад якой бліжэйшыя сельсаветы раёну (Бараньскі, Траяноўскі, Кацюхоўскі) знаходзяцца ў адлегласьці 35—42 км. У апошні год на сродкі ад самаабкладаньня некаторая частка прасёлачных дарог, грэблі і масты мясцовага значэньня значна папраўлены.

У залежнасьці ад природна-географічных асаблівасьцяй раёну, рознастайнасьці глебавага акрыцьця, неаднолькавай плодароднасьці глеб і рознай аддаленасьці насельных пунктаў раёну ад культурна-экономічных цэнтраў і інш. умоў разьмясьцілася і насельніцтва па тэрыторыі раёну, прычым, пры адсутнасьці ў раёне вялікіх прамысловых прадпрыемстваў і больш-менш буйных экономічных пунктаў і пры поўнатуральнай гаспадарцы ў Халопеніцкім раёне найбольш выразна залежнасьць гушчыні насельніцтва ад природных, пераважна глебавых умоў, што відаць з наступнае табліцы:

[1]) Сярэдняя аддаленасьць насельных пунктаў ад Барысава 50—60 км. (самы блізкі Бараньскі с./с. знаходзіцца ў адлегласьці 32—35 км, самы далёкі Кашчынскі—80—85 км), ад Лепеля 40—50 км (да Замоскага сельсавету 25 км).

| Назва сельсаветаў | Кароткая характарыстыка глеб | Плошча ў кв. км | Лік насельніцтва | Гушчыня насельн. (на 1 кв. км) |
|---|---|---|---|---|
| Замошаскі . . . | Слаба падзолістыя; рыхлыя дробназярністыя пяскі; мясцамі тарфяна-сфагнавыя астравы (у паўночнай частцы) . . . . . . . | 206,52 | 1943 | 9,4 |
| Жартайскі . . . | Таксама з астравамі зьвязных шчабенчата-камяністых пяскоў; у заходн. частцы (па левым беразе Бярозы і яе прытоках) комплексы падзоліста-балоцістых і дробна-травяных тарфянікоў . . . . . . . . | 257,65 | 2795 | 10,8 |
| Бараньскі . . . | Слаба падзолістыя; зьвязныя дробна-зярністыя пяскі. . . . . . . . . . . . | 125,46 | 2161 | 17,2 |
| Латыгаліцкі . . | Слаба падзолістыя; рыхлыя і зьвязныя дробназярністыя пяскі; па р. Эсса—поймавыя ўтварэньні і сфагнавыя тарфянікі . . . . | 77,20 | 2610 | 33,8 |
| Халопеніцкі (без мястэчка), . . | Сярэдне падзолістыя палавыя; лёэсавідныя супяскі і моцна падзолістыя буйнапяшчаныя суглінкі; па р. Эсса—поймавыя ўтварэньні, месцамі тарфяна-сфагнавыя астравы. . . | 92,25 | 2585 | 28,0 |
| Грыцкавіцкі . . | Сярэдне падзолістыя; лёэсавідныя супяскі; у ўсходняй частцы—пяскі (правы бераг Эссы); па р. Эсса—поймавыя ўтварэньні . . . | 97,35 | 3025 | 31,1 |
| Кашчынскі. . . | Слаба падзолістыя; зьвязныя і рыхлыя пяскі. | 123,65 | 4367 | 35,3 |
| Красналуцкі . . | Таксама; па р. Эсса—поймавыя ўтварэньні, месцамі сфагнавыя тарфянікі . . . . . | 124,15 | 5070 | 40,8 |
| Узнацкі. . . . | Сярэдне падзолістыя; лёэсавідныя супяскі і моцна падзолістыя буйнапяшчаныя суглінкі; сустракаюцца тарфяна-сфагнавыя і тарфяна-глеевыя комплексы . . . . . . . | 78,60 | 2787 | 35,5 |
| Кацюхоўскі . . | Сярэдне і моцна падзолістыя; лёэсавыя супяскі і суглінкі . . . . . . . . . . . | 99,15 | 4257 | 43,0 |
| Траяноўскі. . . | Моцна-падзолістыя; лёэсавыя суглінкі . . . | 97,67 | 3992 | 40,9 |

Прыведзеная табліца паказвае, што найменшая гушчыня насяленьня ў сельсаветах, дзе глебы пераважна пяшчаныя і забалочаныя (Замошаскі, Жартайскі, Бараньскі), і ў сельсаветах, дзе пераважаюць лёэсавыя супяскі і суглінкі, насяленьне найбольш густое (Траяноўскі, Кацюхоўскі). Некалькі параўнальна высокі процант гушчыні насельніцтва ў Красналуцкім сельсавеце тлумачыцца часткова залічэньнем м. Красналукі да паселішчаў сельскага тыпу (а значыць і ўключэньнем яго насельніцтва ў склад насельніцтва сельсавету).



Экономічная моцнасьць гаспадарак.

Асноўным відам заняткаў насельніцтва раёну зьяўляецца зем-

лябробства і да некаторай ступені лесараспрацоўкі (пераважна ў Бараньскім, Жартайскім сельсаветах). Адходныя і саматужныя промыслы ня разьвіты. Пашырэньне розных культур у паасобных сельсаветах і асноўныя кірункі ў палявой гаспадарцы відаць з табліцы (паводле даных веснавога выбарачнага абсьледваньня ЦСУ ў 1929 г.):

| % засеву розных культур / Сельсаветы | Жыта | Ярыца і пшаніца | Ячмень | Авёс | Грэчка | Гарох | Іншыя збожжавыя | % усіх збожжавых | Бульба | Л ё н | Кармовыя травы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Замошаскі . . . . | 49,34 | 1,43 | 5,60 | 19,74 | 0,45 | 3,40 | 0,23 | 80,19 | 13,66 | 1,64 | 3,73 |
| Жартайскі . . . . | 44,52 | 1,84 | 11,30 | 19,52 | 4,63 | 3,13 | 1,26 | 86,20 | 9,46 | 2,39 | 1,47 |
| Бараньскі . . . . | 55,29 | — | 7,73 | 21,11 | — | — | — | 84,13 | 8,99 | 4,94 | 0,86 |
| Латыгаліцкі . . . . | 52,92 | 0,37 | 8,19 | 20,70 | 0,10 | 0,40 | — | 82,68 | 8,79 | 3,11 | 7,18 |
| Халопеніцкі . . . | 50,65 | 0,95 | 12,15 | 17,07 | — | 0,29 | 0,36 | 81,47 | 10,79 | 6,23 | 2,26 |
| Грыцкавіцкі . . . . | 49,25 | 1,78 | 5,83 | 25,77 | — | — | — | 82,63 | 9,22 | 8,05 | — |
| Кашчынскі . . . . | 56,15 | 1,61 | 8,64 | 16,26 | 0,06 | 0,42 | 0,33 | 83,47 | 9,82 | 4,26 | 1,56 |
| Красналуцкі . . . | 53,28 | 0,50 | 10,34 | 18,33 | — | 0,21 | 0,07 | 82,73 | 8,39 | 6,06 | 1,72 |
| Узнацкі . . . . . | 47,86 | 0,98 | 13,24 | 15,73 | 0,22 | — | 0,53 | 78,56 | 8,86 | 10,22 | 1,96 |
| Кацюхоўскі . . . . | 47,51 | 0,52 | 8,07 | 25,30 | 1,43 | 0,30 | 0,70 | 83,83 | 7,65 | 4,86 | 5,22 |
| Траяноўскі . . . . | 42,76 | 0,14 | 7,01 | 28,07 | — | — | 0,61 | 78,59 | 8,65 | 8,57 | 5,97 |
| Сярэдні % . . | 49,36 | 0,9 | 10,29 | 19,24 | 0,59 | 0,49 | 0,47 | 81,34 | 9,48 | 5,48 | 2,45 |

Вышэйпаданая табліца паказвае, што асноўнымі палявымі культурамі ва ўсім раёне зьяўляюцца жыта, авёс, ячмень, бульба, лён; прычым плошча засеву жыта, ярыцы і пшаніцы (разам) больш 50% агульнага засеву ў 7 сельсаветах, глеба якіх складаецца пераважна з зьвязных пяскоў і лёэсавых супяскоў; найбольш пашыраныя засевы бульбы характэрны для пяшчаных і супяшчаных глеб (Замошаскі, Жартайскі, Халопеніцкі, Кашчынскі сельсаветы).



Пашырэньне засеву бульбы (у % да ўсяго засеву).

Прыметнае зьмяншэньне проценту засеву бульбы і жыта мы бачым у Траяноўскім, Узнацкім і Кацюхоўскім сельсаветах на сярэдне і моцнападзолістых глебах, затое тут найбольш пашыраны засеў лёну. Такім чынам, мы заўважаем некаторую выпрацаваную практыкай многіх гадоў спэцыялізацыю ў засеве пэўных культур у паасобных частках раёну ў залежнасьці ад якасьці глеб, што павінна быць улічана пры організацыі ў раёне буйных колгасаў і аб'яднаньняў іх.

Палявая гаспадарка ва ўсім раёне вядзецца экстэнсыўна. Да апошняга часу пануе амаль чыстая трохпалёўка, травасеяньне пашырана

вельмі слаба (2,4%); лубін засяваецца вельмі рэдка (0,3% у 1929 г.); засеў кораньплодаў яшчэ зусім ня мае месца; толькі ў апошнія 2 гады стала патроху пашырацца травасеяньне (канюшына, віка) пераважна ў сярэдняй паласе раёну (з поўдня на поўнач) у сельсаветах: Кацюхоўскім Траяноўскім, Латыгаліцкім, Замошаскім.




Дробныя с.-г. раёны:

А—таварна-льняны; пашыран засеў аўсу (месцамі ячменю); жывёлагадоўля часткова мае таварны характар і неземлярбоч. промыслы ня разьвіты.

Б—з бульбяным ухілам з больш пашыранай гадоўляй быдла непрамысл. значэньня; лясныя промыслы.

В—натур. гаспадарка; сярэдні засеў лёну і бульбы жывёлагадоўля ня разьвіта; неземляробч. промыслы ня разьвіты.

⁰/⁰ засеву збожжавых культур.

Збожжавыя па сельсаветах займаюць ад 78,5—86,2% усёй засеўнай плошчы, але на рынак (у Барысаў) у нязначнай частцы і паасобнымі больш заможнымі і кулацкімі гаспадаркамі збываўся авёс і ў нязначнай колькасьці жыта, затое ў бядняцкіх гаспадарках у хлебе адчуваўся недахоп.

Раён-жа ў цэлым і некаторыя сельсаветы паасобку маюць выразны таварна-льняны ўхіл (5,48% усяго засеву). Так, у 1929 г. па раёну было законтрактавана 302 *га* лёну пад валакно і 104 *га* пад семя (у сярэднім 6,4 *га* на кожныя 100 гаспадарак) [1]).

Тэхніка і продукцыйнасьць працы нізкія. У раёне амаль зусім няма такога сельска-гаспадарчага інвэнтару, як сеялкі, жнейкі, сенажаткі; досыць слаба пашыраны малатарні (у кулацкіх і заможных гаспадарках); у некаторых месцах зямля да гэтага году выраблялася яшчэ сохамі [2]). Плугі за вельмі рэдкімі выключэньнямі аднаямешныя. Штучнае і зялёнае ўгнаеньне не пашыраны. Ачыстка насеньня стала шырока практыкавацца толькі з мінулага году. Ураджаі нізкія: жыта—5,5 цэнтн., авёс—6,5 цэнтн., бульба—65,70 цэнтн. (прыблізна).




Засеў лёну ў ⁰/₀/⁰/₀ да ўсяго засеву.

Вялікая колькасьць лугоў (каля 50% усёй пахаці) і нераспа-

[1]) Было законтрактавана:

| | Пад валакно | Пад семя |
|---|---|---|
| Бядняцкімі гаспадаркамі. | 13% | 7,69% |
| Серадняцкімі „ . | 67,21% | 60,03% |
| Кулацкімі „ . | 19,79% | 24,28% |

[2]) Сох у раёне паводле 10% выбарачнага абсьледваньня ЦСУ налічвалася 4—7%.

ханых зямель, вялікія лясныя плошчы (у заходняй частцы) і незасеяныя папарныя палі (да 26—27%) дазваляюць яшчэ весьці экстэнсыўную натуральную жывёлагадоўлю. Жывёла трымаецца галоўным чынам для гною і забясьпечаньня запатрабаваньняў сваёй гаспадаркі і таварнага значэньня ня мае. Цікава адзначыць, што ў раёне няма ніводнае малочнае арцелі, што сьведчыць ня толькі аб слабасьці разьвіцьця малочнае жывёлагадоўлі, але таксама і аб слабой дзейнасьці ў раёне коопэрацыі, якая магла-б адыграць вялікую ролю і ў справе колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

У паўднёвай і цэнтральнай часьці раёну (Кацюхоўскі, Узнацкі, Халопеніцкі, Траяноўскі і Грыцкавіцкі сельсаветы) да некаторай ступені пашыраецца сьвінагадоўля (на бэкон), але яшчэ досыць слаба.

Сельска-гаспадарчая коопэрацыя амаль нічога не зрабіла ў справе організацыі контрактацыі бэконных сьвіней і ня дала належнага стымулу для пашырэньня сьвінагадоўлі.

Агульны малюнак соцыяльнага становішча насельніцтва раёну і забясьпечанасьці яго жывёлай відаць з наступнае табліцы (па падатковых сьпісах 1929 г.):

| Сельсаветы | Процант гаспадарак | | | Незямляробчы прыбытак на 1 гаспад. у руб. | Пахаці | Сенажаці | Сярэдняя колькасьць на 1 гаспадарку | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бядняцкіх | Серадняцкіх | Заможн. і кулацкіх | | На 1 гаспадарку га | | Коняй | Кароў | Сьвіней |
| Замошаскі | 48,7 | 47,5 | 3,8[1]) | 39,0 | 4,9 | 2,6 | 1,2 | 2,4 | < 1 |
| Жартайскі | 43,7 | 54,9 | 1,4 | 75,0 | 5,7 | 2,4 | 1,05 | 2,4 | > 1 |
| Бараньскі | 49,9 | 47,2 | 2,9 | 87,5 | 4,3 | 2,4 | 1,1 | 2,0 | 1 |
| Латыгаліцкі | 45,7 | 53,0 | 1,3 | 34,7 | 4,1 | 1,6 | 1,06 | 2,0 | < 1 |
| Халопеніцкі | 39,6 | 57,1 | 3,3 | 30,0 | 4,86 | 2,5 | 1,1 | 1,9 | > 1 |
| Грыцкавіцкі | 48,2 | 48,9 | 2,9 | 37,6 | 4,4 | 2,5 | 1,2 | 1,9 | > 1 |
| Кашчынскі | 66,7 | 32,0 | 1,3 | 31,8 | 4,5 | 2,3 | 1,03 | 1,5 | < 1 |
| Красналуцкі | 53,2 | 45,2 | 1,6 | 56,9 | 3,95 | 1,6 | 1,06 | 1,7 | < 1 |
| Узнацкі | 38,8 | 56,9 | 4,3 | 21,4 | 5,3 | 3,4 | 1,3 | 2,2 | > 1 |
| Кацюхоўскі | 45,3 | 51,5 | 3,2 | 28,7 | 4,5 | 3,2 | 1,1 | 1,9 | > 1 |
| Траяноўскі | 48,8 | 48,5 | 2,7 | 41,0 | 4,9 | 2,3 | 1,1 | 1,7 | > 1 |
| Сярэдні | 48,05 | 49,35 | 2,6 | 44,7 | 4,4 | 2,3 | 1,1 | 1,9 | 1,0 |

Прыведзеная табліца паказвае суадносіны клясавых груп вясковага насельніцтва і разьмеркаваньне іх па раёну. Найбольшы лік моцных гаспадарак (серадняцкіх, заможных і кулацкіх) прыпадае на сельсаветы: Узнацкі, Халопеніцкі, Кацюхоўскі, Траяноўскі, Латыгаліцкі і Жартайскі, г. зн. паўднёва-ўсходнюю і цэнтральную часткі раёну.

Параўноўваючы карту глеб раёну з картаграмай экономічнай моцнасьці гаспадарак (№ 3), мы бачым, што найбольшы процант больш заможных гаспадарак па сельсаветах супадае (у цэлым) з найбольш зьвязнымі глебамі (лёэсавыя суглінкі і супяскі); тут-жа найбольшая

[1]) Заможных гаспадарак прыблізна ў 2 разы больш, чым кулацкіх; аб'яднаны ў адну групу таму, што пры перападзіку ў студзені 1930 г. большасьць заможных гаспадарак была абкладзена ў індывідуальным парадку.

месца мае і таварнасьць гаспадарак, пераважна таварная льнярства. Выключэньнем зьяўляюцца толькі Жартайскі і Бараньскі сельсаветы (з пяшчанымі глебамі), але тут у значнай меры разьвіты неземляробчыя заработкі (лесараспрацоўкі), якія павялічваюць даходнасьць гаспадарак.

Жывёлагадоўля (быдла) найбольш пашырана ў паўдн.-заходняй і паўднёва-ўсходняй частках раёну (Замошаскі, Жартайскі, Латыгаліцкі, Бараньскі, Узнацкі і Кацюхоўскі сельсаветы), што мае сувязь з наяўнасьцю ў дастатковай колькасьці сенажацяй; у апошнія гады ў некаторых сельсаветах (Латыгаліцкі, Траянаўскі, Кацюхоўскі) стала прыметна пашырацца і травасеяньне (канюшына). Іншыя галіны сельскае гаспадаркі (садоўніцтва, гародніцтва, пчалярства) у раёне больш-менш значнай ролі не адыгрываюць, і на іх мы застанаўлівацца ня будзем.

Выходзячы з пашыранасьці пэўных палявых культур і жывёлагадоўлі і ў залежнасьці ад глебавых асаблівасьцяй, увесь Халопеніцкі раён у грубых схэматычных рысах можна падзяліць на наступныя больш дробныя раённыя (мікрараёны) [1]):

А. Раён таварна-льняны, з значным пашырэньнем засеву аўсу (а месцамі ячменю) і з найбольш пашыранай жывёлагадоўляй, якая часткова набывае таварны характар (бэкон); неземляробчыя заняткі ня разьвіты (сельсаветы: Узнацкі, Траяноўскі, Грыцкавіцкі, Халопеніцкі і прылягаючыя часткі Бараньскага і Красналуцкага сельсаветаў).

Б. Раён з бульбяным ухілам і больш-менш пашыранай гадоўляй быдла непрамысловага значэньня і параўнальна разьвітымі лясными промысламі-лесараспрацоўкамі (сельсаветы: Замошаскі, Жартайскі, часткай Бараньскі).

В. Раён натуральнай гаспадаркі з сярэднім пашырэньнем зясеву лёну і бульбы; жывёлагадоўля ня разьвіта; неземляробчыя промыслы адсутнічаюць (сельсаветы: Кашчынскі, паўночная частка Красналуцкага і заходняя Латыгаліцкага с/с.).

Пры пераходзе да суцэльнай колектывізацыі раёну гэтыя эканомічныя і прыродныя (вытворчыя) асаблівасьці пэўных частак раёну павінны быць прыняты пад увагу для правільнай організацыі буйных колектыўных гаспадарак. Пэўная спэцыялізацыя альбо ўхіл колгасаў і іх аб'яднаньняў павінны ў значнай меры адпавядаць ужо існуючым у зародкавым стане сельска-гаспадарчым ухілам і напрамкам гаспадаркі ў раёне. Недаацэнка ўжо выяўленых напрамкаў разьвіцьця мясцовай гаспадаркі можа ўнесьці непажаданыя перашкоды ў справе організацыі новых буйных гаспадарак.

З разгляду прыродна-географічных умоў і экономічнага становіша раёну мы бачым, што Халопеніцкі раён наогуль мае малаўрадлівую пяшчаную глебу ў заходняй і паўночна-ўсходняй частцы і больш зьвязныя глебы ў паўднёвай і цэнтральнай частцы раёну; селькая гаспадарка экстэнсыўная з некаторым таварна-льняным ухілам (у паўднёва-заходняй і цэнтральнай частках); тэхніка і продукцыйнасьць працы нізкія; каштоўнага сельска-гаспадарчага інвэнтару амаль зусім няма; прамысловасьць ня разьвіта; у паўдн.-ўсходняй частцы раёну высокі процант бядняцкіх гаспадарак (звыш 66% у Кашчынскім сельсавеце). Гэты высокі процант бяднацкіх гаспадарак у паднёва-ўсходняй частцы раёну—адна з прадпасылак і прычын пашырэньня тут масавага колгаснага руху.

[1]) Гл. карт. № 6.

## II. Эканомічная палітыка ў раёне.

У разьвіцьці гаспадаркі кожнага раёну вялікае значэньне маюць і тыя палітычныя абставіны і ўмовы, у якіх гаспадарка разьвіваецца. У дарэволюцыйныя часы Халопеніцкі раён быў адным з самых эканомічных і культурна заняпалых раёнаў б. Барысаўскага павету. Для разьвіцьця яго вытворчых сіл, гаспадаркі і культуры царскім урадам ніякіх мер ня прымалася, дзякуючы чаму ў раёне захавалася адсталая сыстэма ральніцтва—трохпалёўка з незанятым папарам, нізкая сельска-гаспадарчая тэхніка і някультурнасьць мас. У выніку эканомічнай і культурнай адсталасьці насельніцтва раёну і ўсей палітыкі органаў царскага ўраду ў раёне мелі вялікае месца рознага роду злачынствы, асабліва крадзеж коняй. Пры неахайнасьці і нават пад апякунствам паліцыі ў раёне існавалі сапраўдныя організацыі, якія займаліся крадзёжам коняй у сваёй і суседніх валасьцёх, з прычыны чаго насельніцтва баялася гадаваць і трымаць добрых коняй. Ужо пры Савецкай уладзе ў 1921—23 г. г. Халопеніцкі раён быў яшчэ раёнам найбольшага пашырэньня бандытызму, што тлумачыцца палітычнай несьвядомасьцю і адсталасьцю мас (спадчына мінулага).

Палітыка Савецкай улады, накіраваная на дапамогу бядняцкай і серадняцкай частцы насельніцтва палепшыць сваё эканомічнае становішча, пашырэньне культурна-асьветнае і палітвыхаваўчае працы ў раёне ў значнай меры зьмяніла соцыяльна-палітычны твар раёну. Бядняцкія і серадняцкія масы пайшлі за Савецкай уладай і Комуністычнай партыяй і пад кіраўніцтвам апошняй сталі актыўнымі будаўнікамі новага соцыялістычнага ладу. Але ўсё-ж у параўнаньні з іншымі раёнамі БССР Халопеніцкі раён застаецца адным з эканомічна і культурна адсталых раёнаў. Слабасьць партыйных і культурных сіл, слабая організаванасьць батрацтва і беднаты, аддаленасьць ад рабочых цэнтраў, недастатковы разьмер палітычна-выхаваўчае працы (прымаючы пад увагу спадчыну мінулага), опортуністычная практыка зямельных органаў, недастатковае коопэраваньне насельніцтва—вось адна з прычын, што бядняцка-серадняцкія масы раёну ў параўнаньні з іншымі раёнамі адсталі ў справе будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі і культуры.

Як праводзілася зямельная палітыка ў раёне? Зямельная палітыка ў раёне да другой паловы 1928 г. была накіравана выключна на ўзмацненьне індывідуальнай гаспадаркі. Стаўка бралася на моцную індывідуальную гаспадарку. Характэрна адзначыць, што да канца 1929 г. у раёне ня было ніводнага калгасу (арцелі або комуны). Праўда, у 1928 г. былі організаваны 2 сельска-гаспадарчыя таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі (в.в. Гольдзбер і Пасынкі), але праца ў іх была пастаўлена дрэнна і т-вы існавалі больш на паперы, чым на справе. Яшчэ ў 1929 г. у раёне праводзілася расьсяленьне вёсак на пасёлкі (в. Гальні і інш.). Зямля былых маёнткаў была раздана ў індывідуальнае карыстаньне. У раёне быў організаваны толькі адзін невялікі саўгас [1]), на разьвіцьцё і ўзмацненьне гаспадаркі якога не зварачалася належнай увагі. Ужо ў 1929 г. ад саўгасу было адрэзана 15 га для м. Халопеніч (цяпер зноў перааданы саўгасу). Гаспадарка-ж саўгасу ўвесь час была і застаецца дэфіцытнай.

---

[1]) Плошча саўгасу—567,14 га, з іх пахаці 232,69 га.

У раёне зусім не пашыраны, як-бы гэта патрэбна было, сельскагаспадарчыя аб‘яднаньні, як, напр., мэліорацыйныя, малочныя, машынавыя, насеннаводныя і інш. таварыствы, якія-б у значнай меры змаглі дапамагчы разьвіцьцю бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і падрыхтаваць насельніцтва да соцыялістычных форм вядзеньня гаспадаркі. Дзейнасьць КСУ была вельмі слабай і насіла пераважна сабесаўскі характар. На організацыю вытворчых аб‘яднаньняў, на разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці не зварачвалася ўвагі. Амаль адзіны від прамысловых прадпрыемстваў у раёне — млыны да апошняга часу (студзень 1930 г.) знаходзіліся ў руках арандатараў-прыватнікаў (Барань, Жартайка, Красналукі і інш.).

Магчымасьць такога ненормальнага становішча тлумачыцца слабасьцю партыйнага кіраўніцтва з боку мясцовых партыйных організацый і, як ужо адзначалася вышэй, слабой організаванасьцю беднаты. У некаторых, напр., сельсаветах (Узнацкі, Траяноўскі, Замошаскі) зусім няма парт‘ячэек і не адчуваецца належнага ўплыву партыйных організацый, у справе гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Без належнага партыйнага кіраўніцтва мелі месца памылкі і недахопы і ў працы некаторых сельсаветаў, якія недастаткова выразна праводзілі клясавую лінію і дырэктывы партыі. „Работа сярод батрацтва і беднаты пастаўлена дрэнна, батрацтва і бедната ў кіруючых органах не адчуваецца“, піша т. Вайновіч (сакратар Райкому КП(б)Б) у раённай газэце „За колектывізацыю“ (№ 2, 20/II-1930 г.). Аб гэтым-жа гавораць і офіцыйныя справаздачы сельсаветаў у часе перавыбараў: „Праца сярод беднаты вялася слаба, бедната не згуртавана, у выніку чаго наглядаліся выпадкі, калі нязначная частка беднаты ішла з кулацтвам і катэгорычна адмаўлялася ўваходзіць у колгасы“ [1]). Тое-ж самае можна сказаць і пра некаторыя іншыя сельсаветы (Траяноўскі, Замошаскі, Узнацкі, Халопеніцкі).

Такім чынам мы бачым, што ў Халопеніцкім раёне палітыка Комуністычнай партыі адносна організацыі і ўцягненьня батрацка-бядняцкіх груп насельніцтва ў соцыялістычнае будаўніцтва праводзілася слаба, ня была належным чынам разгорнута і палітыка-выхаваўчая работа сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас раёну. Ідэя колектывізацыі да канца 1929 г. ня была папулярызавана сярод насельніцтва і колгаснае будаўніцтва зусім не пашырана. Бядняцка-серадняцкая частка насельніцтва не магла непасрэдна ўбачыць і ўпэўніцца ў перавазе буйное аграмаджанае гаспадаркі перад дробнаю сельскай гаспадаркай, бо ў раёне ня было ніводнага колгасу. І зусім зразумела, што колгаснае будаўніцтва ў раёне ў даны момант сустракае цэлы шэраг цяжкасьцяй і перашкод. Але бядняцкія і серадняцкія масы пасьля выезду рабочых брыгад у раён і належнай растлумачальнай працы зразумелі сутнасьць і значэньне колектывізацыі, і колгасы сталі расьці адзін за адным.

(*Канец будзе*).

---

[1]) З справаздачы Жартайскага сельсавету за 1929 г.

У. Уладзімраў.

# Колгас Чырвоная Зорка і комуна Комінтэрн.

*Барысаўскі раён, Карсакаўскі с/с.*

## I. Колгас Чырвоная Зорка.

Колгас Чырвоная Зорка знаходзіцца ў Скупліне, а комуна Комінтэрн — у Казімірове. (Скуплін раней належаў да пана Ёдкі, а Казімірова—да пана Дзяндзявіцкага). Ад мястэчка Зэмбіна і Скуплін і Казімірова ляжаць у ППУ баку—Скуплін у адлегласьці 10-11 кілёмэтраў, Казімірова—12 кілёмэтраў.

Дарога ў названыя мясцовасьці і Зэмбіна ідзе праз вёску Паляны. Амаль да самай вёскі Паляны ад Зэмбіна цягнецца хваёвы лес, перарэзаны рэчкай Кішкурнянкай, утокай ракі Гайны. Заходнім краем лес мяжуе з палямі, усходнім упіраецца ў шырокую рачную даліну ракі Бярэзіны. Лес сярэдняга ўзросту чаргуе з баравымі хвоямі, на якіх ля камля ўмацованы бляшаныя скрынкі для смалы. Смала адсылаецца ў Н.-Барысаў на каніфольны завод, пабудованы ў мінулым годзе.

Ад Палян да Скупліна дарога ідзе палямі. Рэльеф мясцовасьці ўзгоркаваты са схілам да памянёнай рачной даліны р. Бярэзіны. Глеба Суглíністая і камяністая, адчуваюцца сьляды ледавіковага перыоду.

Вёска Паляны мае выгляд надзвычайна беднай вёскі: хаты старыя, разбураныя, сядзібы не загароджаны.

Колгас Чырвоная Зорка, заснаваны на месцы былога маёнтку Ёдкі, ляжыць з правага боку ад дарогі з Зэмбіна на Карсакавічы і даходзіць да самай дарогі. Дарогаю колгас аддзяляецца ад вёскі Скуплін, якая таксама шчыльна даходзіць да памянёнай дарогі. Не даходзячы да колгаса некалькі дзясяткаў крокаў мімавольна зварачваеш увагу на вялізарны двухпавярховы каменны будынак, у якім цяпер зьмяшчаецца Скуплінская 4-групавая школа і клюб. Раней гэта быў бровар, аб чым сьведчыць вялізарны кацёл, які ляжыць даўгі час на двары бяз усякага прыкрыцьця.

На запытаньне ў сустрэчнага селяніна—„хто тут жыве?“—селянін адказаў: „Яўрэйскі калякты̆ў“. Адказ зацікавіў мяне і вечарам з Карсакавіч я пайшоў у колгас начаваць.

Колгас Чырвоная Зорка заснованы ў 1925 годзе. Заснавальнікамі яго былі 13 яўрэйскіх сямействаў. У гэтых сямействах налічвалася 33 чалавекі, з якіх працаздольных 14 мужчын і 13 жанчын. Сем'і ўвайшлі з паямі ад 50 да 100 рублёў. Яны цьвёрда і ўпарта ўзяліся за працу і трэба адзначыць, дасягнулі шмат у сваім імкненьні. Цяжкасьць складалі ня толькі матар'яльныя недахопы, але і тыя настроі вакольнага насельніцтва, якое асабліва недаверліва глядзіць на земляробскую працу яўрэяў. Што колгас нарэшце стаў на належны шлях, што ён заваяваў аўтарытэт сярод вакольнага насельніцтва, можна судзіць паводле кароткага адказу селяніна на запытаньне „як жывуць калгасьнікі?“.—„Чорт іх не бярэ, жывуць добра“.

З мінулага году колгас разросься да 18 сямействаў з лікам 80 чалавек, а цяпер пастанавілі прыняць яшчэ 12 сямействаў батракоў

з вакольнага выселка з плошчаю 80 гэктараў зямлі. Уступ у колгас без зямлі быў спынены.

Першапачатковая плошча колгасу раўнялася 140 гэктарам, якія разьмяркованы былі па ўгодзьдзях наступным чынам: ворнай зямлі 60 гэкт., сенажаці 40 гэкт., лесу 17 гэкт., хмызьнякоў па балоце 12 гэкт. і рэштка—пад сядзібай. У сучасны момант колгас мае плошчу ў 220 гэктараў з разьмеркаваньнем па ўгодзьдзях: ворыва—100 гэкт., сенажаці—80 гэкт., лесу—17 гэкт., хмызьнякоў—12 гэкт. і рэшта пад сядзібай. З плошчы пад сядзібай 4 гэкт. знаходзяцца пад фруктовым садам.

Мясцовасьць, якую займае колгас, нізкая і ў значнай меры балоцістая, куп'яватая з хмызьнякамі.

Толькі ўчасткі пад ворывам крыху прыпадняты з чуць прыкметным пераходам да балота. Глебы ў значнай меры кіслыя і патрабуюць вапнаваньня. У пэрспэктывах колгасу стаіць правесьці мэліорацыю з мэтаю асушкі і эксплёатацыя няўдобнай плошчы, занятай хмызьнякамі. Значная плошча рачной даліны ракі Бярэзіны, якая належыць да колгасу, падае думку яго працаўнікам прыдаць ухіл колгасу жывёлагадоўлі. Акрамя таго, практыка паказала, што ў прамысловых адносінах колгас мог-бы і мае падставу разгарнуць галіну гаспадаркі—гародніцтва, часткова садоўніцтва. У мінулым годзе за яблыкі колгас меў 4000 руб.

Пры заснаваньні колгас меў 5 плугоў, 4 драўляныя бораны і самы мізэрны жывы інвэнтар. У сучасны момант інвэнтар вырас і па колькасьці і па якасьці: 15 плугоў, 8 жалезных боранаў, уборачная жатка, касілка, конныя граблі, сеялка-разброска, малатарня з прыводам, арфа, сечкарэзка, 12 павозак, 10 саней. Увесь інвэнтар годны для працы і захоўваецца, як належыць.

Колгас мае 10 коняй рабочых і 3 жарабят, кароў дойных 51 шт., бугаёў (вытворцы) 2, сьвіней 23, з іх 2 маткі і 13 падсьвінкаў-ёркшыраў, а рэшта мясцовая палепшаная парода.

Быдла і коні таксама часткова мясцовай пароды і мэтасіраваныя.

Кожны від жывёлы разьмешчаны ў паасобных стойлах з ужываньнем культурных мерапрыемстваў па догляду. Хлеў для кароў чысты, сьветлы. Каровы навязаны да сваіх кармушак, сьвіньні ў паасобных загародках з дошчак з дзьвярыма для выхаду. Побач з хлевам для кароў ёсьць невялікі будынак для малочнай гаспадаркі. Для перапрацоўкі малочных продуктаў, ёсьць сэпаратар, маслабойка і 10 бэдонаў. Адчуваецца ўзорная чыстата і акуратнасьць.

Сыстэма ральніцтва ў колгасе 10-польная. Прылучаныя 80 гэктараў батрацкага надзелу пераведзены на 10-польную сыстэму. Пладазьмен чаргуецца такім чынам: 2 полі жыта, 2—бульбы, 2 ярыны (авёс, пшаніца, ячмень), 2 канюшыны, 1 канюшына 3 год, 1—чорны папар.

З пачатку існаваньня колгасу ўраджай на жыта быў 50 пудоў з дзесяціны, авёс 30—35 пудоў, пшаніца 40 пудоў, бульба 600 пудоў. У сучасны момант жыта дае 75—80 пудоў з дзесяціны, авёс 50—55 пудоў, пшаніца 50 пудоў, бульба 900 пудоў. Зернавога хлеба сабрана за мінулы год 1700 пудоў і бульбы 5500 пудоў. З гэтага ліку здана бульбы чырвонаму абозу 1200 пудоў і школе селянскай моладзі 600 пудоў. Жыта здана крэдытнаму таварыству 180 пудоў і аўсу—120 пудоў. Збожжа выключна гатунковае. Малочных продуктаў за год здана ЦРК на 2000 рублёў і, як ужо ўспаміналася, яблыкаў на

4000 рублёў. Выручка ішла на пашырэньне і ўмацаваньне гаспадаркі. За прыбытковыя сродкі пабудаваны новы дом на 6 кватэр на суму 4000 рублёў і ідзе падрыхтоўка да пабудовы двох новых дамоў на 10 кватэр на суму 8000 рублёў. Ёсьць таксама кузьня, лазьня, леднік і невялічкі млын, які размалвае ў суткі для сваіх патрэб прыблізна 10 пудоў.

Справамі колгасу кіруе савет арцелі з 5 асоб і 2 кандыдатаў. Рэвізійная камісія складаецца з 3 асоб. Старшыня савету—ён-жа і кіраўнік гаспадаркі. Старшы рабочы разьмяркоўвае працу. Ёсьць казначэй і ключнік.

Плян працы на сэзон выпрацоўваецца саветам з удзелам агранома і зацьверджваецца агульным сходам.

Для пашырэньня культурнага ўзроўню і гаспадарчай сьвядомасьці колгасьнікаў ёсьць бібліотэка з перавагаю ў ёй кніжак і часопісаў па сельскай гаспадарцы. Выпісваюцца газэты для клюбу і чырвонага кутку. Адчуваецца ўдзел жанчын у гаспадарчым і культурным жыцьці. Школа абслугоўвае дзяцей вёскі Скуплін і колгасу. Жанчыны наведваюць сходы с/с. і колгаснага куста.

Сёлета організаваны ясьлі для дзяцей на 15 чалавек.

Маючы пад сабою цьвёрдую гаспадарчую глебу, колгас Чырвоная зорка ставіць перад сабою пэрспэктывы на бліжэйшы тэрмін. З пачатку сэзону будзе приступлена да мэліорацыі 12 гэктараў нізіны, дзеля чаго патрэбна выкапаць 2 кілёмэтры канавы. Плошчу сада пашырыць да 9 гэктараў. У мэтах разьвіцьця гародніцтва плошчу гародаў давясьці да 3 га. Адвясьці пад культуру караньплодаў плошчу ў 4 га, пад тытун—1 га, лён—1 га, пад каноплі—чвэрць га. Плошчу жыта з 12 га павялічыць да 22 га, пшаніцы з 2 да 6 га, ячменю—з 2 да 6 га, аўсу—з 12 да 16 га, бульбы—з 6 да 12 га.

Лік сьвіней давесьці ў наступаючым годзе да 50 штук бяз прыкупу і пабудаваць асобны сьвінарнік на суму 1.500 рублёў. Організаваць злучны пункт рагатае жывёлы і сьвіней для вакольных сялянскіх гаспадарак.

Ёсьць на ўвазе пабудаваць паравы млын і правесьці рамонт халодных будынкаў на 3000 рублёў.

Колгас мае 30.000 пудоў жывёліннага гною і 65 цэнтнэраў мінэральнага. Акрамя таго будзе пасеяна 6 га лубіну, 7 га канюшыны, 6 га вікі і 6 га сэрадэлі.

## II. Комуна Комінтэрн.

Комуна Комінтэрн мяжуе з колгасам Чырвоная Зорка і мае шмат агульнага з колгасам. Заснавана комуна ў 1929 годзе. З 1925 да 1929 г. на гэтым месцы была Казіміроўская школа сялянскай моладзі, якая пераехала ў Блонь. Сяляне вёскі Карсакавічы павялі наступ на комуну з думкаю выгнаць яе працаўнікоў і заўладаць маемасьцю. Удзел у паходзе на комуну прымалі нават сябры сельсавету. Толькі рашучы адпор комунараў адбіў ахвоту да далейшага наступу.

Комуну заснавалі 4 сям'і, якія пераехалі з комуны Інтэрнацыянал з Кіміі. Цяпер комуна складаецца з 14 сямействаў і 6 халасьцякоў—усяго 65 чалавек. Усе беларусы. Ня гледзячы на кароткі тэрмін свайго існаваньня, комуна прарабіла вялізарную працу для разьвіцьця і ўмацаваньня гаспадаркі. Неабходна падкрэсьліць жалезную волю старшыні савету комуны т. Ярош, які працуе для падняцьця гаспадаркі дзень і ноч.

Спачатку комуна Комінтэрн мела плошчу ў 143 га. Цяпер плошча даведзена да 200 га. Плошча разьмяркована такім чынам: пад ворывам 70 га, сенажацьцю поплаўнаю 30 га, 20 га земфонду, сядзібы 4 га, сад $3^1/_2$ га і рэшта пад лесам і зарасьлямі.

Сыстэма ральніцтва 9-польная: 2 полі жыта, 2 бульбы, 2 ярыны, 2 канюшыны і 1 папар. Пад жытам 15 га, канюшынай 10 га, бульбай 6 га, аўсом 9 га, пшаніцай $^1/_4$ га, папарам 15 га.

Ураджай жыта дае 60 пудоў з га, бульба 600—700 пудоў, авёс 80 пудоў, пшаніца і ячмень родзяць дрэнна: глеба ім мала спрыяе.

У мінулым годзе сабрана жыта 450 пудоў, аўсу 540 пудоў і бульбы 3600 пудоў. З гэтай колькасьці 320 пудоў здана і мелі на ўвазе здаць 400 пудоў аўсу ў адмен з сялянамі для засеву гатунковым збожжам і іх палёў.

За год існаваньня комуна набыла значны інвэнтар. У сучасны момант для апрацоўкі поля ёсьць 6 плугоў параконных, 6 барон драўляных і 1 зіг-заг, 1 малатарня з саламатрасам, касілка, бульбакапалка, сечкарэзка, карнярэзка, гародная сеялка і палольнік.

З жывёл комуна мае 11 коняй, 35 дойных кароў і маладых, 3 сьвіней - матак, 2 бараваў, 7 подсьвінкаў і 9 парасят. Калі прыняць пад увагу, што гэта набыта ў першы год існаваньня комуны, дык будзе зразумела, якую працу прарабіла яна.

Працай і жыцьцём комуны кіруе Савет з 3 асоб. Комуна ўваходзіць у Зэмбінскі куст.

Організаваны ясьлі на 30 дзяцей, выпісваюцца газэты. У хуткім часе організуецца клюб. Старэйшыя дзеці (6) наведваюць школу.

Адным з недахопаў комунараў зьяўляецца іх няпісьменнасьць. % няпісьменных надзвычайна вялікі. Спачатку мелі месца частыя спрэчкі, якія перашкаджалі гаспадарцы. Цяпер жыцьцё і гаспадарка наладжваюцца. Ёсьць вялікі недахоп культурных сіл.

Комуна думае прыдаць сваёй гаспадарцы ўхіл жывёлагадоўлі, дзеля чаго ў пэрспэктыве стаіць організацыя пітомніка і пабудова малочнага заводу. Попыт на гародніну падказвае, што выгодна займацца гародніцтвам, тым болей, што для гэтага ёсьць спрыяючыя ўмовы.

Наогул трэба адзначыць, што комуна пачынае заваёўваць аўтарытэт у вачох вакольнага сялянства.

---

**Язэп Касьпяровіч.**

# Чэрвеншчына

*(Нататка да тэматычнага апісаньня раёну* [1]).

Чэрвеншчына, або Чэрвенскі раён Менскай акругі, утворана з асяродку былога Чэрвенскага павету, так што ў яе складзе апынуліся былыя Хутраская і Грабёнская вол. цалкам ды часткі Пухавіцкай, Бялічанскай Кліноцкай і Якшыцкай валасьцей. Цяперака Чэр-

---

[1]) Увосень 1929 г. Праўленьне Чэрвенскага раённага Таварыства Краязнаўства пад кіраўніцтвам прадстаўніка ЦБК організавала пачатак тэматычнага апісаньня раёну сіламі сваіх сяброў. З тае прычыны, што ў кожнай тэме прыходзілася-б даваць агульную даведку аб раёне, было вырашана напісаць такую даведку аднаму, што я і стараўся выканаць у гэтым артыкуле з тым, што ў іншых тэмах паасобныя пытаньні будуць высьветлены ўсебакова.

*Ад рэдакцыі:* Наступныя тры артыкулы аб Чэрвеншчыне таксама зьяўляюцца матар'яламі экспэдыцыі 1929 г.

веншчына мяжуецца чатырма раёнамі Менскай акругі і адным — Бабруйскай. На ўсходзе яна стыкаецца з Бярэзаньскім і Сьвіслацкім раёнамі, на поўначы—з Смалявіцкім і часткова з тым-жа Бярэзаньскім, на захадзе—з Сьмілавіцкім і на поўдні—з Пухавіцкім. Разам з тым, мяжуючыся з Сьвіслацкім раёнам, Чэрвеншчына мяжуецца і з Бабруй-




Карта Чэрвеншчыны.

скай акругай, да якой належыць гэты раён. Такім чынам Чэрвеншчына ляжыць на паўднёвым захадзе Менскай акругі, навакол былога павятовага гораду Чэрвеню, а ўся мяжа яе даўжэй 160 км. Упоперак, у некаторых мясцох, Чэрвеншчына мае каля 40 км. Наогул Чэрвеншчына займае 1391 кв. км. прасторы, г. зн. трэцяе месца сярод суседніх раёнаў, бо Бярэзаньскі раён мае 1872 кв. км, Пухавіцкі 1670, Смалявіцкі—1063, Сьвіслацкі—1004, і Сьмілавіцкі—900. Плошча, якую зай-

мае Чэрвершчына, мае выгляд простакутніка з выступамі на паўднёвы ўсход, поўнач і захад.

Паверхня Чэрвеншчыны крыху адхонная з поўначы на поўдзень ды, у нязначнай меры, гаравая на паўночным захадзе і поўначы; іншая-ж частка яе—роўная.

Найстарадаўныя геолёгінныя адкладаньні ў Чэрвеншчыне можна наглядаць ля Раваніч Раваніцкага сельсавету ў выглядзе пяскова-глі-ністых і вапняковых адкладаў Кэмбрыйскай і ніжняга аддзелу Сылюрыйскай сыстэм. З карысных выкапняў у Чэрвеншчыне ёсьць балацяная жалезная руда, якая колісь распрацоўвалася ў Рудні Астравітай Вайнісавіцкага сельсавету, лёэс (торф) значнымі прасторамі і ганчарныя і цагельныя гліны ў вялікай колькасьці. Глебы Чэрвеншчыны зьяўляюцца ападзолаванымі супяшчана-пяшчанымі. На ўсходзе і поўдні раёну спатыкаюцца выспы глінава-суглінавых і пяскова-балацяных глебаў.

У Чэрвеншчыне вельмі многа вазёр, рэк і балот, так што ў некаторых мясцовасьцях абвадненьне яе зьяўляецца залішне багатым. Вазёры лежаць сярод масавых балот. Берагі іх топкія і часта да возера трудна прыступіцца. Найбольшыя вазёры наступныя: Дзікае Чэрвенскае (12 га), Дзікае Дамавіцкае (12 га), Глухое (20 га), Краснае (8 га), Рыбачнае (8 га), Пясочнае (8 га), Лупава (5 га), Яснае (3 га) і інш. З найбольшых рэчак можна адзначыць наступныя: Волму, якая цячэ па поўдні раёну з захаду на паўднёвы ўсход у Сьвісьлач; Ушу, на поўначы раёну, якая цячэ з захаду на ўсход праз Раваніцкі і Руднянскі сельсаветы ў Бярозу; Усу, што выцякае з Дзікага возера і цячэ ў кірунку з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход праз Дамавіцкі і Хутраскі сельсаветы, у Бярозу; Чэрноўку, якая цячэ праз Горкаўскі і Грабянецкі сельсаветы; Ігуменку, што праходзіць па Калодзенскаму і Вайнілоўскаму сельсаветах; Гаць, якая праразае Грабёнскі і Вайнілаўскі сельсаветы і інш. Сплаўнымі зьяўляюцца Волма, Уса і Уша, ды і то ў ня вельмі значнай меры. Да таго, Волма, напр., цячэ надзвычайна ціха, можа прымаць вельмі мала вады і лішкі яе нават збалацянілі сенажаці поўдню раёну. Таму апошнімі гадамі адбываецца рэгуляваньне Волмы, Ігуменкі і Вусы ды вызначаюцца магчымасьці рэгуляваньня іншых рэчак. У Будзе і Наталеўску Вайнілаўскага сельсавету ды ў Раванічах Раваніцкага сельсавету ёсьць вялікія саджалкі. Бліжэйшыя пристані знаходзяцца за межамі Чэрвеншчыны на р. Бярозе, у Бярэзані і ў Якшчынах.

Чыгункі, як і бліжэйшая суднаходная рака Бяроза, праходзяць за межамі раёну. Ля мяжы раёну, на паўднёвым захадзе праходзіць Заходняя чыгунка з найбліжэйшаю да раёну станцыяй Пухавічы. Ад ст. Верайцы Заходняй чыгункі на поўнач і пасьля ўсход падымаецца чыгункавая ветка, на якой найбліжэйшымі да раёну станцыямі зьяўляюцца Уборак і Градзянка. Значна далей ад мяжы раёну, на поўначы, праходзіць Маскоўска-Беларуска-Балтыцкая чыгунка, на якой найбліжэйшымі да раёну зьяўляюцца станцыі Вітгэнштэйнская і Барысаў. Ад першага паселішча раёну да ст. Пухавіч каля 7 км, да Градзянкі — 7 км., да Барысава і Вітгэнштэйнскай — 30 — 40 км; ад Чэрвеня, які зьвязаны з Пухавічамі, да апошніх—29 км, Праз Чэрвеншчыну праходзіць некалькі шляхоў. Самым значным, абсаджаным бярозамі, зьяўляецца Менска-Бабруйскі. Ад яго ў Чэрвені адлучаецца шлях на Магілеў праз Бярэзань. Ад апошняга, у сваю чаргу, адходзіць шлях на Барысаў. Апрача таго, шляхавой дарогай Чэрвень зьвя-

заны з ст. Пухавічы на Заходняй чыгунцы. Летам па шляху Менск-Чэрвень-Бярэзань ходзяць аўтобусы.

Лясамі Чэрвеншчына надзычайна багата. Яны займаюць тут каля 40% тэрыторыі раёну. Апрача 7000 га лясоў мясцовага значэньня, лясная плошча трох лясьніцтваў раёну займае 45593,44 га. У Чэрвенскім лясьніцтве пад лесам знаходзілася ў 1928-29 г. 10078,31 га ўласна пад лесам, 205,34 га—пад высечкай, 200 га—ральлі, 161,5 га—сенажацяй, 4824,68 га—балот, а ўсяго—15264,04 га; у Грабёнскім лясьніцтве: 7350 га пад лесам, 826,90 га пад высечкай, 198,1 га — прагалаў, 126,2 га—ральлі, 42,9 га—сенажаці, 922,9 га балот, а ўсяго—9647 га; у Іваноўскім лясьніцтве: 15660 га—пад лесам, 954,4 га—пад высечкай, 532 га—прагалаў, 209 га—ральлі, 179 га—сенажаці, 3148 га—балотаў, а ўсяго—20682,4 га; ва ўсіх трох лясьніцтвах: 33268,31 га—пад лесам, 1986,54 га—пад высечкай, 730,1 га—пад прагаламі, 535,2 га—пад ральлёй, 383,4 га—пад сенажацямі, 8895,58 га—пад балотамі, а ўсяго 45593,44 га, што разам з лясамі мясцовага значэньня складае 52593,44 га. Належачы да Менскага ўзвышанага раёну са сваім мерна-прахладным узмоцнена-вільготным кліматам, Чэрвеншчына ляжыць ля мяжы лясоў заходня-эўропейскага тыпу з грабам і на яе тэрыторыі, асабліва паўднёвай, граб сустракаецца даволі часта. Але ўсё-ж яна належыць да краіны лясоў усходня-эўропейскага тыпу, ня гледзячы на наяўнасьць грабу і іншых элемэнтаў лясоў заходня-эўропейскага тыпу. Яловыя лясы тут з дамешкаю шыракалісьцёвых парод, у барох спатыкаецца арніка і ракіта, а балоты—алёсавыя. Наогул-жа ў хваёвых лясох расьце шмат бярозы, а ліставыя вызначаюцца сваёй рознастайнасьцю, складаючыся з дубу, асіны, ліпы, граба, ільміны, вязу, ясеню, клёну, алешыны (рэдка ёсьць і чорная), арэшніку, рабіны, вярбы, крушыны, ядлоўцу і інш. У парках, напр., у Раваніцкім ёсьць і рэдкія акліматызаваныя расьліны з чужаземных краёў.

Ня гледзячы на такую значную колькасьць лясоў, лясная фаўна Чэрвеншчыны небагатая. Ёсьць ваверка, заяц, воўк. Спатыкаецца тхор, ліс, дзік, куніца, глушэц і інш. Тлумачыцца гэта галоўным чынам драпежніцкімі спосабамі паляваньня на працягу доўгіх год. Рыбаю рэкі і вазёры Чэрвеншчыны таксама небагаты. Захаваньнем правіл паляваньня і рыбнага лову насельнасьць мала клапоціцца.

Перапісам насяленьня ў 1926 г. ў Чэрвеншчыне налічана 43954 чал., якія па нацыянальнасьці і па мове разьмяркоўваліся наступным чынам:

| Тэрыторыя | Беларусы | | | Яўрэі | | | Рускія | | | Палякі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх |
| а) па нацыянальнасьці: Чэрвень. | 1355 | 1121 | 2476 | 950 | 1077 | 2027 | 110 | 66 | 176 | 60 | 79 | 139 |
| Раён . . . . | 18367 | 19322 | 37689 | 197 | 205 | 402 | 113 | 98 | 211 | 309 | 323 | 623 |
| Разам . . . . | 19722 | 20443 | 40165 | 1147 | 1282 | 2429 | 223 | 164 | 387 | 369 | 402 | 771 |
| б) па мове: Червень | 1038 | 886 | 1924 | 928 | 1058 | 1986 | 532 | 391 | 923 | 24 | 43 | 67 |
| Раён . . . . | 18135 | 19064 | 37199 | 240 | 262 | 502 | 553 | 568 | 1121 | 45 | 44 | 89 |
| Разам . . . . | 19173 | 19950 | 39123 | 1168 | 1320 | 2488 | 1085 | 959 | 2044 | 69 | 87 | 156 |

| Тэрыторыя | Украінцы | | | Латышы | | | Немцы | | | Літоўцы | | | Татары | | | Цыганы | | | Усё насельніцтва | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх | Мужчын | Жанчын | Усіх |
| а) па нацыянальнасьці: Чэрвень. | 15 | 11 | 26 | 3 | 1 | 4 | 2 | 2 | 4 | 6 | 1 | 7 | 37 | 31 | 68 | — | — | — | 2543 | 2390 | 4933 |
| Раён. . . . . | 9 | 6 | 15 | 5 | 4 | 9 | 3 | 1 | 4 | 5 | 2 | 7 | 8 | 9 | 17 | — | — | — | 19039 | 19982 | 39021 |
| Разам . . . . | 24 | 17 | 41 | 8 | 5 | 13 | 5 | 3 | 8 | 11 | 3 | 14 | 45 | 40 | 85 | — | — | — | 21582 | 22372 | 43954 |
| б) па мове: Чэрвень | 7 | 5 | 12 | 2 | — | 2 | 1 | 2 | 3 | 2 | — | 2 | 2 | — | 2 | — | — | — | — | — | — |
| Раён. . . . . | 8 | 9 | 17 | 3 | — | 3 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | — | 1 | 1 | 6 | 3 | 9 | — | — | — |
| Разам . . . . | 15 | 14 | 29 | 5 | — | 5 | 2 | 3 | 5 | 3 | 1 | 4 | 2 | 1 | 3 | 6 | 3 | 9 | — | — | — |

З гэтага відаць, што па мове налічана менш чым па нацыянальнасьці беларусаў, украінцаў, латышоў, немцаў, літоўцаў і, асабліва, палякаў і татар. Больш па мове, чым па нацыянальнасьці аказалася рускіх і яўрэяў ды цыганаў, якіх па нацыянальнасьці зусім няма.

У Чэрвеншчыне ў часе перапісу 1926 г. было 414 паселішчаў, з якіх адно гарадзкога тыпу (уласна Чэрвень) і 413 сельскага тыпу. У апошніх налічваліся 39021 чал. насельнасьці, а ў Чэрвені—4933 чал. У гэты час ва ўсім раёне было 21582 чал. мужчын і 22372 чал. жанчын, з якіх 19039 мужчын на сяле і 2543 у горадзе ды 19982 жанчын на сяле і 2390—у горадзе.

Перепісам 1925 году было налічана толькі 37833 чал. на сяле і 4901 чал. у горадзе, а ўсяго—42734 чал. Такім чынам павялічэньне за год даволі значнае, якое, як відаць расьце, ня гледзячы на тое, што, напр., у 1928 г. выселілася ў Сібір 27 сем'яў. Апрача таго, у самы раён прыяжджаюць перасяленцы з іншых месц, напр., з Полаччыны ў Раваніцкі сельсавет на землі Баяра-Валадуты.

Гушчыня насяленьня ў 1926 г. у Чэрвеншчыне была 31,5 ч. на 1 кв. км адносна ўсяго ліку насяленьня і 28,1 чал. на 1 кв. км сельскага. Сярод суседніх раёнаў па гушчыні насяленьня Чэрвеншчына займае чацьвертае месца. Але па агульнай колькасьці земляробчага насяленьня сельскіх паселішчаў Чэрвенскі раён займае трэцяе месца сярод суседніх: Пухавіцкі раён у 1928 г. меў 51557 чал., Бярэзанскі—48607, Чэрвенскі—39356, Сьмілавіцкі—35308, Сьвіслацкі—27886 ч.

У 1927 г. ва ўсёй Чэрвеншчыне было 48313 дзес. ральлі, якая ў 1928 г. павялічылася да 48453. З гэтага ліку было засеяна ў 1927 г. 39411 дзес. і ў 1928 г., 40209 дзес. Быдла ў раёне ў 1927 г. налічвалася 22021 галава і ў 1928 годзе—22030. У 1928 рабочых коняй было 8011 і сьвіней 27537. З гэтых лічбаў відаць, што гаспадарка Чэрвеншчыны значна ўзмацняецца. Наогул-жа Чэрвеншчына займае самы ўсход Менскага сельска-гаспадарчага раёну інтэнсыўна-жывёлаводнага (малочна-сьвінаводнага) тыпу з ральніцтвам пладазьменнага тыпу (заняты папар, лубін, травасеяньне, бульба і караньплоды). Ёй-жа ўласьціва абложна-пярэстапалёвасьць і натуральная гнаёвая, жывёлагадоўля. Разам з тым яна зьяўляецца пераходнай прасторай да Барысаўскага сельска-гаспадарчага раёну, папарна-трохпалёвага тыпу з бульбяным ухілам, натуральнай жывёлагадоўляй і лясным промыслам, з якім раёнам Чэрвеншчына і мяжуецца.

У 1928 г. жыта займала 35,7% засеву, ярыца—0,13 пшаніца зімка—0,36, пшаніца ярка—2,3, ячмень—6,2, авёс—22,4, грэчка—4,3, гарох—1,4, проса—0,2, лён—3,3, каноплі—0,9, бульба—16,6, віка—1,7, сарадэля—0,9, канюшына засеву—3,0, першага году—3,2 і другога году—0,04, іншыя культуры—1,1%. Садоў было каля 410 дзес.; вульлёў - 1090, з якіх 4% рамавых.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі сучасная тэрыторыя Чэрвеншчыны была асабліва хутарызаваным кутком, але зараз Раваніцкі сельсавет зьяўляецца сельсаветам суцэльнай колектывізацыі ды ў іншых сельсаветах колгасы шпарка растуць і хутка ахопяць увесь раён. Апрача таго, у Чэрвеншчыне існуюць чатыры савецкія гаспадаркі—у Наталеўску, Раванічах, Зелянкох і Рудні Астравітай.

У 1929 годзе ў Чэрвеншчыне было шэсьць самастойных спажывецкіх таварыстваў, якія сваймі крамамі абслугоўвалі ўвесь раён.

У адміністрацыйным стасунку Чэрвеншчына падзяляецца на 11 сельскіх саветаў: Хутарскі, Раваніцкі, Калодзескі, Грабянецкі, Руднянскі, Дамавіцкі, Вайнілаўскі, Кліноцкі, Горкаўскі, Грабёнскі і Лядзенскі. Назвы паселішч у іх часта прадстаўляюць надзвычайна старадаўныя імёны: Лада, Пястун, Турава гара, Ладзішча, Пяруноў Мост. Чартава, Вялесічы і інш., часамі зьяўляюцца назвамі старажытных помнікаў: Гарадзішча, Курганы, Гарадок, Заградзьдзе, Селішча і інш., некаторыя зьяўляюцца назвамі старых заводаў: Гута, Рудня, Рудзянка, Майдан і інш, вельмі шмат паўтарае імёны мясцовых расьлін: Дубовы Лог, Малінаўка, Ліпаўніца, Кукалёўка, Бярозаўка, Бор, Вішанька, Верасоўка, Асінаўка, Сасноўшчына, Аўсішча, Хвайнікі, Ясенаўка, Грабок і г. д., ды жывёл: Бычын, Барсукі, Воўкаўшчына, Сакалы, Восава, Зайцы, Мядзьведня і д. т. п., а таксама іншых географічных об'ектаў: Белы Камень, Белае Балота, Чорны Брод, Лысая Гара, Горкі, Падгор'е, Прудзішча, Рэчкі, Замасточча, Дыя, Волма і інш.

Каменныя прылады знаходзяць амаль па ўсей тэрыторыі Чэрвеншчыны. Гарадзішча ёсьць ля аднаіменнай вёскі, а курганы—у лесе Калодзескага сельсавету, ля Дыі Вайнілаўскага сельсавету, ля Курганьня Хутарскага сельсавету, ля Іваніч Кліноцкага сельсавету, ля Лучнога Грабянецкага сельсавету, ля Юрздыкі Раваніцкага сельсавету і інш. групы і паадзінкавыя курганы, якія завуцца тут і валатоўкамі. З валатоўкамі зьвязаны тут і паасобныя звычкі, вераньні і паданьні.

Калісь, як відаць, сучасная тэрыторыя Чэрвеншчыны належала Полацкай зямлі: У часы казаччыны тут распраўляліся з панамі аддзелы Нябабы. Швэдзкія войскі праходзілі цераз сучасную Чэрвеншчыну і ёсьць нават паданьне, што Іванічы населены патомкамі швэдаў, што засталіся тады тут. Аб французах і паншчыне ды паўстаньні 1863 г. у раёне бытуе надзвычайна многа паданьняў. На ўсходзе сучаснай Чэрвеншчыны і за мяжой яе на ўсход у 1863 г. зьвераваў вядомы Сьвентаржэцкі, які дамагаўся захаваньня прыгону і перадачы Беларусі пад Польшчу. У часе рэволюцыі 1905 г. асаблівай актыўнасьцю вызначалася група бальшавіка Парамона. У 1914 годзе мобілізаваныя запасныя разграмілі Чэрвень, Буду і інш. маёнткі, а ў Чэрвені зьбілі маршалка і паліцмайстра. У часе лютаўскай рэволюцыі ў Чэрвені жандармэрыя шмат каго паарыштавала, але 17 сакавіка, калі быў наклееным на ўсе слупы маніфэст крывавага Міколы ўсе арыштаваныя былі звольнены. Першай новай легальнай організацыяй зьявіўся вучнёўскі саюз пад кіраўніцтвам Л. Любінскай (комуністка, цяпер працуе ў Менску). Адбылася першая дэмонстрацыя, на якую

рабочыя Іванаўскай калодачнай фабрыкі сучаснага Калодзескага сельсавету, зьявіліся са сьцягамі з патрабаваньнем васьмігадзіннага рабочага дня. Адбыўся зьезд сялянскіх дэпутатаў, а ў чэрвені 1917 году—першы зьезд рабочых і батрацкіх дэпутатаў, пасьля чаго заснаваўся савет. Хутка стаў працаваць камітэт партыі бальшавікоў і на выбарах ва ўстаноўчы збор выключную большасьць атрымаў бальшавіцкі сьпіс. Земства, заслухаўшы даклад прадстаўнікоў Савету, самаліквідавалася пры злосных протэстах панскай часткі яго. Немцы занялі Чэрвеншчыну ў лютым 1918 году і з гэтага-ж часу на тэрыторыю сучаснай Чэрвеншчыны пачаліся налёты легіонэраў Доўбар-Мусьніцкага. У пачатку сьнежня 1918 г. немцы змушаны былі пакінуць Чэрвеншчыну і пачаўся новы кругабег творчай працы Савецкай улады. Але 10-11 жніўня 1919 г. Чэрвеншчыну занялі белапалякі, зьдзекі якіх над мясцовай насельнасьцю працягваліся да ліпня 1920 году, калі яны змушаны былі ўцякаць пад магутным націскам Чырвовай арміі і чырвоных партызан. Таксама лёгка Савецкая ўлада справілася і з падасланымі Польшчай белабандытамі, якія зьвілі было значнае гняздо ў Чэрвені на чале з вайсковым камісарам Жылінскім. З 1920 году Чэрвеншчына будуецца нячуванымі раней памерамі, разам з іншымі раёнамі імкнучыся перабудаваць жыцьцё цалкам на соцыялістычных падставах.

Пісьменных у Чэрвеншчыне перапісам 1926 г. налічана 35,9%. Да Кастрычнікавай рэволюцыі на тэрыторыі сучаснай Чэрвеншчыны было 22 школы з 32 настаўнікамі ў іх, а ў канцы 1929 г.—52 школы з 112 настаўнікамі ў іх. У 1929 г. вучылася ў гэтых школах 4505 дзяцей; наогул школай ахоплена 78% дзяцей школьнага ўзросту.

Раённы горад Чэрвень ляжыць на 53°43′ паўночнай шырыні і 46°5′ усходняй даўжыні, на р. Ігуменцы, на адлегласьці 66 в. ад Менску. У 1858 г. у ім налічвалася 1929 жыхароў, у 1897 г.—4573, у 1919 г.—4669 і ў 1926 г.—4933. Цяперака ў ім 37 вуліц. Экскурсію па гораду варта пачынаць з пажарнай вежы, адкуль відаць увесь Чэрвень, далей—беларуская 7-годка, значны пункт рэвруху ў 1905 г. і 1917 г., месца пасяджэньняў першага савету, за ім — яўрэйская 7-годка, былая гарадзкая ўправа, адсюль праз садзік з помнікам ахвярам белапалякаў да будынку першага Савету Народных Камісараў, былы дом маршалка, зараз—дзіцячы дом, а насупроць некалі была сталыпінская земляўпарадчая камісія; далей—сучасны нардом, былы рэволюцыйны трыбунал і камісарыят юстыцыі; цераз рынак к будынку райвыканкому; збоку застануцца больніца і райвэтлячэбніца. З экскурсійных месц на раёне выдатным зьяўляецца саўгас Раванічы ў сельсавеце суцэльнай колектывізацыі.

---

**Язэп Б.-Валадуцкі.**

# Белапольская окупацыя Чэрвеншчыны.

Ня гуляць табе тут болей,
Павярні!
(М. Чорот).

10—11 жніўня 1919 г. белапалякі занялі ўсю Ігуменшчыну аж па раку Бярозу. Яшчэ ішлі бойкі пад Менскам, а паны і сяляне ў Ігуменшчыне кожны пасвойму ўспаміналі панаваньне польскіх легіянэраў Доўбар-Мусьніцкага ў 1918 г. ва ўсходняй частцы Ігуменскага павету. У памяці паўставалі катаваньні і расстрэлы членаў камітэту беднаты,

матросаў (Гарадзішча, Асмолаўка, Якшыцкае вол.; Баратычы, Брадзецкае вол. і інш.), вясковай інтэлігенцыі, сялянства і г. д.; зьдзекваньні і расстрэл настаўніка Бушавіцкае школы Фалевіча і шасьцёх чалавек разам з ім; Сялібскі яўрэйскі пагром і г. д. і г. д.

Займаючы абшары Ігуменшчыны 10-11 жніўня 1919 г., белапалякі аднавілі свой нячуваны гвалт 1918 г., пачынаючы ад простага рабаўніцтва і канчаючы спальваньнем цэлых вёсак.

Ужо 14-га жніўня белапалякі ўночы спалілі вёску Будкаў Якшыцкае воласьці. Вёска была абкужана войскамі і кулямётамі і, калі хто ўцякаў з агню,—стралялі. У суседняй вёсцы Задабрычча згарэў двор у часе гэтага пажару, таксама знарок падпалены белапалякамі. Частку мужчын з Будкава пералавілі і на працягу пяцёх дзён катавалі ў м. Бушавічах пры комэндатуры. Некаторыя памерлі там-жа, а некаторыя ўжо дома, на вогнішчы. Застаўшымся ў жывых было забаронена даваць прытулак і дапамогу. І ўсё гэта зроблена было па загаду Бушавіцкага комэнданта, толькі дзеля таго, „каб зналі з кім справу маюць“.

Па ўсім павеце пайшлі арышты „за комуністычны лад думак“ (Аляксандраўка Хутарскае воласьці), рабункі і расстрэлы.

Улада быццам была ў руках начальніка-старасты павету, а на справе ў любога жандара, нават кулака. Белапалякі бралі ў кожнай бядняцка-серадняцкай сялянскай хаце ўсё, што хацелі, быццам сваё і пры гэтым яшчэ білі нагайкамі і прыкладамі тых, хто пападаўся пад руку. Так быў забіты селянін вёскі Горак, Якшыцкае вол. Паўловіч, на вачох у сваёй сям'і ў час аднаго з такіх пабораў.

Здольнасьцю карыстацца сваім жандарскім бізуном уславіўся жандар Дудзіцкага пастарунку Шастак, які езьдзіў па суседніх вёсках (Бахаравічы, Грэбень і інш.) і ўсіх сялян, што пападаліся па дарозе, хвастаў бізуном. У вёсцы Асацэ тае-ж воласьці ён застрэліў сялянскага хлапца толькі дзеля таго, як ён сам выхваляўся ў Дудзічах, што хацеў папрабаваць—ці прастрэліць ён аднэй куляй тры галавы хлопцаў, што сядзелі побач на прызьбе каля аднэй хаты. Зразумела, забойства засталося непакараным. У сяле Лядох Якшыцкае вол. хлопчык ня зусім ахвотна хацеў везьці паноў туды, куды яны загадвалі. Жандар вывёў яго ў садок і зьбіў так, што зараз-жа прышлося адвесьці хлопчыка ў больніцу. „Як выбіл тэго кацапа—як маслэм по сэрцу пошмаровал“,—радаваўся жандар.

Кожную хвіліну бядняк і вясковы інтэлігент змушаны былі чакаць, што белапалякі ўварвуцца ў хату, людзей паб'юць, а хату спаляць. Лісты на пошце і пры перадачы пераглядаліся ўсякім панам, які гэтага хацеў.

Гурток, коопэратыў, саюз ніякім чынам ня можна было зарэгістраваць, а не зарэгістраваныя організацыі зьнішчаліся. Наогул аб якім-небудзь праве, ня толькі што-колечы рабіць, але нават гаварыць, і думаць не магло быць і гутаркі. А калі часамі і быў дазвол на сход, то апошні мог разагнаць, хто хацеў. Так, у Пярэжары сяляне на чале з валасным старшынёй сабраліся з дазволу начальства абгаварыць, якім спосабам даставіць паном хутчэй мяса ў гэту рату. А ў будынак ускочыў жандар, чалавек 15 зьбіў нагайкай і, ня пытаючы ні ў кога ні аб чым і нічога ня слухаючы, разагнаў сход.

Білі ня толькі безадказныя жандары, біў сам начальнік павету. Зімою ён ехаў па дарозе з Сьмілавіч у Чэрвень і нагнаў селяніна.

Той ня зьехаў у сьнег з цяжкім возам і не пасьпеў даць дарогу панскай тройцы. Пан начальнік адвёў яго ў паліцыю і загадаў зьбіць.

Шпіянаж і провакатарства былі ўзмоцнены. Кулакі дапамагалі ў гэтым белапалякам і, дзякуючы гэтаму, многа маемасьці прапала ў сялян, многія цэлую зіму праляжалі ў лясох, а шмат хто і загінуў.

У самым пачатку свае окупацыі Ігуменшчыны белапалякі абвесьцілі, што ўсе школы, апрача польскіх, будуць утрымоўвацца самім насяленьнем і на адчыненьне іх патрэбен дазвол улады. Атрыманьне такога дазволу было немагчымым. Калі было адно, патрабавалі палітычную надзейнасьць настаўніка; дабывалі яе, патрабавалі другога і г. д., а да вясны беларускія школы адчыніць нельга было. Дазвол-жа мог быць выданы толькі на адзін навучальны год, так што з восені прыходзілася зноў пачынаць спачатку. Пры адсутнасьці падручнікаў, інвэнтару, будынкаў, школы бадай што не працавалі. 30 марак заработнай платы настаўнікам пры цане 280—320 марак за пуд хлеба не забясьпечвалі нават хлеба з сольлю.

Усіх школ, усіх тыпаў на занятай белапалякамі тэрыторыі Ігуменшчыны налічваліся к 1-му красавіка 1920 г. каля 180. У тым ліку было польскіх каля 80, беларускіх—20, іншыя—мешаныя і яўрэйскія. Такім чынам адна школа прыходзілася на 40,5 кв. км прасторы і больш чым 1000 чал. насяленьня супроць 23 кв. км і 642 жыхароў на адну школу пры Савецкай уладзе да окупацыі.

Полёнізацыя вялася ксяндзамі і панамі як-мага. Нават Беларускую Школьную Раду і Беларускі Камітэт пасадзілі за краты. Каб падаць куды-небудзь заяву, або наогул мець якую справу ва ўстановах трэба было знаць польскую мову. Паперы на беларускай мове прымаліся ад сялян толькі тады, калі да іх далучаўся пераклад на польскую мову.

Насяленьне было тэрорызавана і ніякага ўдзелу ні ў якіх „выбарах", якія фабрыкаваліся белапалякамі, крэсавых зьездах па далучэньню да Польшчы і г. д. ня прымала і не хацела пра іх нічога знаць.

Толькі падпольнае жыцьцё шырылася і расло, ня гледзячы ні на якія перашкоды. І калі расстрэльвалі Міханавіцкую организацыю, вылучалася сваёй дзейнасьцю Дукорская і г. д. Кожны расстрэл, кожны разгром даваў усё новыя і новыя сілы падпольнаму руху на месца выбыўшых. І, зразумела, што хутка павінна было адбыцца вызваленьне ад белапанскага гвалту пры дапамозе з таго берагу ракі Бярозы. Першая бойка скончалася няўдачай. За яе белапалякі пасьля ўжо спалілі шмат вёсак (Марціноўка і інш.). Але другі наступ чырвоных выбіў 6-7 ліпня 1920 г. белапалякаў з усяе Ігуменшчыны. Уцякаючы, белапалякі палілі вёскі (Пяскі Дукорскае вол. і інш.), масты (Зазер'е, Дукора і інш.), гвалтавалі і стралялі насяленьне.

Панаваньне белапалякаў Чэрвеншчыны ніколі не забудзецца.

У памяць-жа вызваленьня Чэрвеншчыны ад белапалякаў на сьвяткаваньне першай гадавіны вызваленьня Ігуменшчыны з-пад іх гвалту г. Ігумен быў перайменаваны на Чэрвень. Дзесятую гадавіну Чэрвеншчына будзе сьвяткаваць пад знакам замацаваньня посьпехаў колектывізацыі сельскай гаспадаркі, а на пятнаццатай гадавіне будзе радавацца соцыялістычнаму будаўніцтву разам з рабочымі і сялянамі Савецкай Заходняй Беларусі.

У. М. Дземяшкевіч.

# Аб саўгасах Чэрвеншчыны.

Усяго на сучаснай тэрыторыі раёну было заснавана (бадай усе ў 1920 г.) 5 саўгасаў: 1) Раванічы, 2) Астравіта-Рудня, 3) Новыя-Зелянкі, 4) Натальеўск і 5) Баяра-Валадута. Апошні існаваў нядаўна. У 1926 г. ён быў разьвёрстаны. На плошчы яго было зарганізавана некалькі пасёлкаў з мясцовага насельніцтва і некалькі пасёлкаў з сялян Полацкай акругі, якія сюды перасяліліся.

Агульная плошча зямлі, з усімі відамі ўгодзьдзяў яе, ва ўсіх 4-х існуючых у сучасны момант саўгасах—2381 га. Па колькасьці і па ўгодзьдзях па саўгасах гэта плошча разьмяркована досыць няроўнамерна.

Зьвернемся да табліцы:

| Назва саўгасу | У гэктарах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пахаці | Сенажаці сухадольн. | Сенажаці балотнай | Сядзібы | Выгану | Гароду | Плодовага выхоўваль-ніка |
| Раванічы | 251,38 | 17,50 | 264,34 | 14,72 | 72,34 | 2,70 | 0,50 |
| Новыя Зелянкі | 339,81 | 30,51 | — | 5,70 | 6,95 | 4 | — |
| Астравіта-Рудня | 235,66 | 65,49 | 65,61 | 4,21 | 10,93 | 1,35 | — |
| Натальеўск | 238,35 | — | 251 | 9,50 | 16,87 | 3,50 | — |
| Разам | 1065,20 | 113,50 | 580,83 | 34,13 | 107,09 | 11,55 | 0,50 |

| Назва саўгасу | У гэктарах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хмызьняку | Лесу у межах гаспадаркі | Лесу перадатага — мясцовага значэньня | Пад водамі | Саду | Пад дарогамі і канавамі | Усяго |
| Раванічы | 18,58 | 44,81 | 96,56 | 2,74 | 2,46 | 4,38 | 793,01 |
| Новыя Зелянкі | — | 47,80 | 58,29 | 0,64 | 4,38 | 5,62 | 503,70 |
| Астравіта-Рудня | 10 | — | 52,26 | 6 | 3,65 | 9,34 | 464,38 |
| Натальеўск | — | — | 86,56 | 2,40 | 3,28 | 7,65 | 620,11 |
| Разам | 28,58 | 93,61 | 293,67 | 11,78 | 13,77 | 26,99 | 2381,20 |

Дон. на 1/VII „Програма каштарыс" кожнага саўгасу.

З прыведзенай табліцы можна бачыць, што першае месца па плошчы зямлі займае саўгас Раванічы, 2-ое Натальеўск, 3-е Нов. Зелянкі і апошняе — Астравіта - Рудня. Але адсюль нельга яшчэ рабіць вываду, што наймацнейшым саўгасам у раёне будзе іменна Раванічы. У саўгасе Раванічы шмат балотнай сенажаці і па ліку пахаці ён уступае саўгасу Нов. Зелянкам. Наогул ён менш за ўсіх знаходзіцца ў здавальняючых умовах. Па 1-ае, шмат балоцістай

сенажаці; па 2-ое, даволі вялікі кавалак займае сядзіба і, па 3-яе, надта вялікую плошчу займае выган—72 га. У такіх-жа самых умовах знаходзіцца і саўгас Натальеўск: тут зусім няма сухадольнай сенажаці, выключна балоцістая і вялікая па плошчы мала чым уступае сенажаці Раванічы—251 га. Акрамя гэтага, таксама шмат занята сядзібай і выганам. У крыху лепшых умовах знаходзіцца Астр. Рудня, але і тут, выходзячы з агульнага ліку зямлі, трэба сказаць, што таксама зашмат балоцістай сенажаці, выгану і хмызьняку. У найбольш выгодных умовах у гэтых адносінах знаходзіцца саўгас Новыя Зелянкі. Тут няма тэй рэзкасьці, якая сустракаецца ў разьмяркованасьці ўгодзьдзяў іншых саўгасаў, а гэта якраз і ставіць саўгас Нов. Зелянкі на 1-ае месца ў сэнсе выгоднасьці разьмеркаваньня ўгодзьдзяў, у параўнаньні з іншымі.

Не ў аднолькавым стане знаходзяцца саўгасы і па якасьці глебы. Усе яны ў гэтых адносінах падзяляюцца на 2 катэгорыі: 1) панаваньне супяску і суглінкі і 2) панаваньне супяску з лёгкім падзолам. Да першай можна аднесьці саўгасы Раванічы і Натальеўск, да 2-й— Нов. Зелянкі і Астравіту-Рудню.

Рэльеф мясцовасьці, якую займаюць саўгасы, досыць роўны; крыху вызначаюцца Раванічы, тут можна сустрэць невялікія ўзгоркі і нізіны, у агульным-жа Раванічы—самае высокае месца ня толькі паміж саўгасамі, але і ў адносінах да ўсяго раёну.

Па саўгасах сеюць наступныя культуры: жыта, авёс, ячмень і бульбу (пшаніцы не засяваецца зусім ніводным саўгасам). З кармовых траў—віка, канюшына, а з караньплодаў—буракі, бручка, морква.

Ураджайнасьць іх у параўнаньні з першымі гадамі досыць значна ўзрасла: (Гл. табл. стар. 49).

Прыведзеныя лічбы, ня гледзячы на некаторае ваганьне, якое бязумоўна ў першую чаргу залежыць ад кліматычных умоў, усё-ж яскрава сьведчыць аб уздыме ўраджайнасьці. Калі, напрыклад, зрабіць параўнаньне ўраджайнасьці сялянскіх індывідуальных гаспадарак з саўгасам, то мы ўбачым, як далёка ззаду цягнуцца сялянскія індывідуальныя гаспадаркі і як карысна сама па сабе форма саўгасаў. Гэктар сялянскай гаспадаркі дае ўраджаю жыта—30—40 пудоў у сярэднім. Саўгас-жа 40—50, а часам і вышэй (напр. у Раваніцкім саўгасе ўраджай жыта за 5 гадоў 53—54 пуды). Былі часы, калі саўгасы зусім мала чым адрозьніваліся ад сялянскіх гаспадарак па ўраджайнасьці. Але гэта было ў першыя гады будаўніцтва саўгасаў, калі яны наогул у шмат чым былі яшчэ слабы.



Палац Саўгасу Раванічы.

Растуць і ўзмацняюцца і грунтоўныя капіталы саўгасаў, у выглядзе жывога і мёртвага інвэнтару, а таксама і тэхнічных прадпры-

| Назва культуры | Раванічы 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Нов.-Зелянкі 19.4 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Астрав.-Рудня 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Натальеўск 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта. . | 0,797 | 1,120 | 0,702 | 1,114 | 0,951 | 0,760 | 0,850 | 0,770 | 1,150 | 0,740 | 0,466 | 0,719 | 0,490 | 0,595 | 0,779 | 0,991 | 1,081 | 0,657 | 0,650 | 0,690 |
| Авёс . . | 0,820 | 0,620 | 0,580 | 1,012 | 1,217 | 1,090 | 0,850 | 0,410 | 0,980 | 1,340 | 0,717 | 0,478 | 0,151 | 4,499 | 0,682 | 0,754 | 0,884 | 0,487 | 0,457 | 1,157 |
| Ячмень . | 0,900 | 0,383 | 0,480 | 1,090 | 0,863 | 1,160 | 0,850 | 0,740 | 0,850 | 1,230 | 0,278 | 1,138 | 0,360 | 0,636 | 0,867 | 0,809 | 1,146 | 0,150 | 0,915 | 0,876 |
| Вік. на зял. корм. | — | — | 2,001 | — | — | 11,080 | 10,060 | 10,000 | 12,360 | 11,250 | 7,043 | 3,270 | 3,200 | 5,330 | — | 6,154 | 6,260 | 6,448 | 11,940 | 8,928 |
| Бульба . | 9,600 | 9,600 | 12,915 | 11,900 | 11,000 | 9,83 | 8,190 | 13,930 | 13,12 | 8,500 | 7,633 | 6,822 | 7,872 | 13,672 | 5,669 | 11,200 | 7,863 | 13,104 | 11,400 | 8,811 |
| Карань-плод. . | — | — | 9,800 | 10,800 | 20,800 | — | — | — | — | — | 7,900 | 16,900 | 16,500 | 7,111 | — | — | 14,087 | 9,920 | 11,200 | 7,242 |
| Канюш. насен. . | 1,600 | 1,480 | 1,385 | 1,426 | 1,360 | 2,870 | 2,650 | 1,890 | 1,050 | 2,200 | 0,682 | 0,900 | 1,184 | 0,723 | — | 0,817 | 1,146 | 0,932 | 0,896 | 1,467 |
| Сена-сухад. . . | — | 1,400 | 1,745 | 1,600 | 1,640 | 1,330 | 1,310 | 1,140 | 1,050 | 0,800 | 0,839 | 0,557 | 0,007 | 1,318 | 1,128 | | | | | |
| Сена-балот . . | — | 0,898 | 0,948 | 0,933 | — | — | — | — | — | — | | | | | | 749 | 0,720 | 0,982 | 0,809 | 0,705 |

емстваў. У 1927 г. каштоўнасьць жывога інвэнтару па ўсіх саўгасах—22420 р., а ў 1928 г. ужо—47822 р.; таксама каштоўнасьць мёртвага інв.: 1927 г.—24724 руб., а ў 1928 г. ужо—33910 руб. Тэхнічных прадпрыемстваў у 1927 г.—24718 руб., а ў 1928 г.—78448 р.

Праўда, гэтыя лічбы ня зусім роўнамерна разьмяркованы паміж кожным саўгасам. Да тэхнічных прадпрыемстваў трэба аднесьці наступныя: млыны, лесапілкі, сыраварні, крухм. заводы і кузьні, але апошнія прамысловага значэньня ня маюць і прыстасаваны да патрэб саміх саўгасаў.

З гэтай табліцы можна бачыць, як кожны саўгас забясьпечаны тэхнічнымі прадпрыемствамі:

| Назва саўгасу | Сыряв. | Крухм. зав. | Лесапілкі | Млыны | Кузьні |
|---|---|---|---|---|---|
| Натальеўск . . . | — | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Нов. Зелянкі . . | 1 | — | 1 | 1 | 1 |
| Раванічы . . . | 1 | — | 1 | — | 1 |
| Астр.-Рудня . . | — | — | 1 | 1 | 1 |
| Разам . . | 2 | 1 | 4 | 3 | 4 |

Першае месца па прадпрыемствах займае саўгас Натальеўск, другое—Новыя Зелянкі, трэцяе—Раванічы і апошняе-Астрав. Рудня.

Ня ўсе вызначаныя прадпрыемствы маюць прамысловае значэньне, да такіх можна аднесьці толькі млын, сыраварню, крухмальны завод і часткаю лесапільню; што датычыцца кузьні і іншых, як напр., сталярная майстэрня, то яны існуюць выключна для патрэб саміх саўгасаў.


Лядоўня ў саўгасе Рудня Астравітня.

Паводле пэрспэктыўнага пляну кожны саўгас мяркуе пашырэньне існуючых прадпрыемстваў, а таксама і організацыю новых. Саўгас Раванічы спадзяецца ў недалёкім часе пабудаваць таксама крухмальны завод, які будзе каштаваць каля 80 тысяч рублёў. Новыя-Зелянкі—мэханізаваць сваю сыраварню з такім разьлікам, каб яна змагла пераапрацоўваць ня толькі продукты суседніх саўгасаў але і ваколічнага насельніцтва.

Забясьпечанасьць с/гасп. машынамі і прыладамі таксама розная. З усіх саўгасаў адзін толькі Нов. Зелянкі мае трактар (сыст. „Б. Фордзон"). Паравыя малатарні пры кожным, але сярод іх ёсьць надзвычайна старыя, якія патрабуюць замены. Для прыкладу, як

забясьпечаны саўгасы дробным с/гаспадарчым інвэнтаром, прыводжу, табліцу саўгасу Раваніч.

**Табліца забясьпечанасьці с/гасп. інвэнтаром саўгасу Раванічы:**

| Касаркі | Плугі аднакон. | Плугі паракон-ныя | Плугі адналям. па тыпу „Сако" | Плугі двухлям. па тыпу „Сако" | Плугі трохлям. па тыпу „Сако" | Барон „Зіг-Заг" | Дыск. барон | Пруж. барон | Абсыпнікаў | Бульбакап | Сяўн. раск. | Сяўн. радав. | Сяўн. комб. | Сяўн. каню-шыны конных | Сяўн. канюш ручных | Снапавязак | Жачак | Трыер зерн. | Сартыроўка | Арфа ручн. | Зьмейка (боб) | Кон. граблі | Сенавара-шылка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 6 | 19 | 1 | 10 | 2 | 35 | 1 | 6 | 14 | 4 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | 1 | 3 | 1 |

За малым выключэньнем, амаль кожны саўгас мае такое вось забесьпячэньне с/гаспадарчым інвэнтаром. Тут шмат чаго ня ўлічана, узята найбольш галоўнае, але і гэта сьведчыць, што забясьпечанасьць с/гасп. інвэнтаром даволі здавальняючая.

Да мёртвага інвэнтару можна было шмат чаго аднесьці і ўпамянуць тут, але я спынюся толькі на будынках. Сярод іх ёсьць шмат вельмі старых. Многія з іх мала прыстасаваны да патрэб саўгасу; напрыклад, жыльлёвыя памяшканьні не адпавядаюць свайму прызначэньню. У такім кірунку можна было сказаць і аб будынках для жывёлы і некаторых прадпрыемстваў. Агульна на ўсе гэтыя будынкі патрэбна шмат капіталаў, каб іх дапасаваць да тых ці іншых патрэб у кожным саўгасе. Між іншым, неабходна ўказаць і на тое, што разьмешчаны гэтыя будынкі надзвычайна кепска як у сэнсе займаемай плошчы, так і зручнасьці (гл. Раванічы, плошча сядзібы 14 дз.).

Паводле свайго прызначэньня ўсе будынкі ў кожным саўгасе можна падзяліць прыблізна наступным чынам: будынкі для жывёлы, збожжа (усіх відаў), тэхпрадпрыемстваў, жыльлё, с/гападарчых прылад і культурна-асьветных патрэб (клюб, школа). Каменных будынкаў мала. У гэтых адносінах толькі саўгас Раванічы мае цагляныя будынкі.

Жывёлагадоўля, яе стан з кожным годам узмацняецца: павялічваецца лік гатунковай жывёлы, паляпшаецца і ўход за ёй.

На 1/VII-1929 г. па ўсіх саўгасах і ў кожным паасобку лік жывёлы такі:

| Назва жывёлы | Раванічы | Новыя Зелянкі | Натальеўск | Астрав.-Рудня | Разам |
|---|---|---|---|---|---|
| Коні рабочыя . . | 30 | 25 | 23 | 26 | 104 |
| Маладняк . . . | 4 | 6 | 3 | 6 | 19 |
| Каровы . . . | 69 | 47 | 53 | 57 | 226 |
| Быкі . . . | 3 | 4 | 2 | 3 | 12 |
| Маладняк (кар.) . . | 7 | 16 | 13 | 28 | 64 |

Увага: Да раб. коняй аднесены і вытворнікі. Склад маладняку кароў да 1—3 год.

Што датычыцца пароды жывёлы, то амаль ува ўсіх саўгасах, за выключэньнем толькі Нов. Зелянкоў, дзе ўсё стада кароў чырвона-нямецкага гатунку, пануе помесь. Што тычыцца іншых відаў жывёлы,

то ў саўгасах, як авечкі, сьвіньні і шмат іншае, на вялікі жаль зусім не разводзяцца. Сьвіней, напрыклад, гадуе толькі адзін саўгас Раванічы.

Цяпер аб стане рабочых. Агульная колькасьць рабочых ня зусім вялікая, у сярэднім на кожны саўгас прыпадае 20—25 рабочых з сярэднім заробкам 30—35 рублёў. Рабочым дадзена права карыстацца невялікім гародам, а таксама купляць усе продукты па цане на 5% ніжэй копэратыўнай. Соцыяльны склад рабочых—гэта на 90% былыя парабкі памешчыкаў. Рабочыя маюць дзень адпачынку, які ня раз яны скарыстоўваюць на свае культпатрэбы, дзеля чаго пры кожным саўгасе ёсьць клюб, бібліотэка, радыё і інш., ставяцца спэктаклі, чытаюцца лекцыі. Праўда, бібліотэкі, склад іх ня зусім вытрыманы, для рабочых, напрыклад, у Раваніцкім клюбе, я, акрамя Мопасана, нічога не знайшоў.

Саўгасы зьяўляюцца культурным асяродкам для вакольнага сялянства. Кожны год саўгасы даюць сялянам на замен сваё гатункавае збожжа, даюць карыстацца некаторымі машынамі. Таксама пачыняюць і начыньне ў сваіх майстэрнях; амаль пры кожным саўгасе ёсьць быкі-вытворнікі і жарабкі добрай пароды для абслугоўваньня сялянскай жывёлы. Рабочымі саўгасаў праводзяцца гутаркі ў ваколічных вёсках, ставяцца спэктаклі і іншае. Наогул культурны ўплыў саўгасаў вялікі і мае досыць сталыя рэальныя вынікі.

---

М. Касьпяровіч.

# Пра быт на Чэрвеншчыне.

Галоўную масу насяленьня Чэрвеншчыны складаюць беларусы. Нацыянальныя меншасьці прадстаўлены тут нязначнымі лічбамі. Таму большасьць паселішчаў раёну складаецца з беларусаў і толькі ў некалькіх з іх іншыя нацыянальнасьці складаюць адну з галоўных народнасьцяй. Да такіх у сельскіх мясцовасьцях належаць: Вішанька (вялікарусы), Лучное (яўрэі), Ратнае (палякі) і інш. Гэтыя паселішчы вельмі дробныя і часта налічваюць нават па два двары, як напр., Малінаўка (палякі), Новы Прудок (яўрэі) і інш. Пераважная большасьць нацыянальных меншасьцяй на сяле пражывае ў паселішчах, дзе асноўную масу іх складаюць беларусы. Там часамі і значная колькасьць двароў нацмен рассыпана паміж беларускімі сядзібамі. Гэта непасрэднае суседзтва розных нацыянальнасьцяй з амаль аднолькавымі занятками ў значнай меры прычынілася таму, што матар'яльная культура іх бадай што нічым не адрозьніваецца ад такой у беларусаў і ў сваю чаргу служыць да далейшых узаемаўплываў. Яўрэі надзвычайна добра, як і сваёй роднай, валадаюць беларускай мовай; татары забыліся сваю мову і гавораць толькі пабеларуску (Чэрвень), як і пераважная большасьць палякаў; значная колькасьць забабонаў перанята татарамі і яўрэямі ад беларусаў і апошнімі ад гэтых, і іншых нацыянальнасьцяй раёну. Мясцовае насельніцтва ня бачыць у гэтым нічога дзіўнага, бо, напр., у Лучном беларусы і яўрэі жывуць разам на зямлі каля 100 год. Таму, апісваючы гаспадарчы быт пераважна беларусаў раёну, будзем мець на ўвазе, што ён мала адрозьніваецца ад побыту іншых мясцовых нацыянальнасьцяй.

Згодна даным усесаюзнага дэмографічнага перапісу, якімі мы карыстаемся, паселішчы Чэрвенскага раёну невялікія. Больш 100 двароў налічвае менш 10 паселішчаў: Чарнаградзьдзе (101), Драхча Слатвінская (105), Чарнава (124), Дамавіцк (132), Грабёнка (133), Волма (141), Калодзезі (144) і Клінок (217). Але часта і малыя паселішчы выглядзяць значнымі з тае прычыны, што сядзібы ў іх шырокія і будынкі раскіданы больш вольна па значным прасторы (Усход). Дзякуючы таму, што ля хат ёсьць невялікія садкі, вёскі часамі здаюцца затопленымі ў дрэўную зеляніну. Разьмяшчаюцца вёскі ля рэчак і ручаёў або наогул блізка ля вады і, быць можа, таму часамі вуліцы бываюць няроўныя (Іванічы). Калі хаты ў вёсцы стаяць ужо так густа, што далей на гэтай вуліцы сяліцца недзе, засноўваюцца новыя вуліцы роўналежа асноўнай (Чарнава, гл. фот.), або наўскос да яе (Дыя) ці інакш. Кірунак вуліц даволі розны: з усходу на захад (Язоўкі, Вайнілава, Дзяруцкая, Замасточча), з паўдня на поўнач (Пальчык, Усход), з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад (Дыя), з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход (Ст. Зелянкі) і інш. Шырыня вуліц бывае ад 6 мт (Замасточча) да 22 (Усход). У залежнасьці ад грунту вуліцы часьцей за ўсё гразныя (Чарнава і інш.), але бываюць і сухія, як, напр., у Волме. Часта на вуліцы валяецца бярвеньне і інш. матар'ялы (Новазер'е) і толькі ў некаторых вёсках вуліцы прыбраныя і абапал іх пакладзены кладкі накшталт тротуараў (Вайнілава). Каля платоў, недалёка ад варот па двары, ляжаць калоды або зроблены адмысловыя лавачкі, на якіх суседзі зьбіраюцца *гаманіць* (Язоўкі). Часамі вуліца абсаджана дубамі, бярозамі, вярбой і інш. дрэвамі, хоць і не на ўсім сваім працягу (Шасьцівалокі, Новазер'е). З абодвых бакоў яна абгароджана *парка̂нам* або *ты̂нам, пло̀там, частако̀лам.*

*Сядзібы* ў вялікіх вёсках вузкія і зьмяшчаюцца на адным баку вуліцы, а ў малых — амаль заўсёды шырокія і ляжаць абапал вуліцы. У Новазер'і, напр., сядзібы шырынёй каля 18, 36, 54 мт. Двор ляжыць з аднаго якога-небудзь боку вуліцы, незалежна ад таго ці сядзіба зьмяшчаецца таксама з аднаго боку ці абапал вуліцы. Некалі наогул усе сядзібы ва ўсіх вёсках цягнуліся ў абодва бакі ад вуліцы, але ў выніку падзелу і здрабненьня гаспадарак у большых вёсках яны падзяліліся адпаведна вуліцы. Двор абгароджаны плотам, парканам, тынам або частаколам з усіх бакоў, апрача тых месц, дзе сьцены будынкаў служаць працягам *агаро̀жы*. На двор вядзе *бра̀ма* або *варо̀ты.* Амаль усе бедныя двары абмяжоўваюцца варотамі. Пераважна кругом двара стаяць *дво́рныя* будынкі: хата, клець, павець, варыўня, сьвінушнік, хлеў, аўчарнік і інш., прычым велічыня і колькасьць будынкаў залежаць ад заможнасьці гаспадара. Часамі будынкі ставяцца плянам літары „П" і зьяўляюцца суцэльным шэрагам, як, напр., на дварэ Паўлы Грыбка ў Дыі (гл. фот.), але яшчэ часьцей будуюцца асобна адзін ад аднаго, як на дварэ Міколы Дзяркача ў Чарнаве (гл. фот.). У першым выпадку на агарод за дваром вядуць адмысловыя вароты, якія часьцей за ўсё складаюць частку задняй сьцяны паветкі, а ў другім — звычайныя вароты, часамі яшчэ горшыя, чым тыя, што вядуць на двор. У большай частцы двароў ёсьць свае студні, якія капаюцца бліжэй да вуліцы і далей ад хлявоў. З тае прычыны, што сядзібы вузкія, у вялікіх вёсках і двары маюць выгляд вузкага простакутніка, за якім ідзе агарод, а далей — гумно, на якім з аднаго боку стаіць ток, а з другога — азярод, так што гумно часткова паўтарае плян двара (Дыя), як, напр., у Моўшы Туніка ў Лучном (гл. фот.).



*Першы рад:* вёска Чарнава; двор Міколы Дзяркача ў в. Чарнаве; *другі рад:* двор Паўлы Грыбка ў в. Дыі, гумно Моўшы Туніка ў в Лучное.

Хаты ставяцца адпаведна шырыні сядзібы роўналегла доўгай сьцяной к вуліцы ці простастаўна к ёй, г. зн. удоўж вуліцы ці *ўпѐрак* яе. Бывае, што хаты стаяць *пòдалек* ад вуліцы, у глыбіні двара (Шасьцівалокі, Новазер'е), але часьцей за ўсё яны непасрэдна прылягаюць да яе.

Хата бедняка, напр. Канарскага Міхайлы ў пас. Ўсход, пабудавана бывае пераважна з рознага матар'ялу — хвоі, елкі, асіны, памерам каля 4,5×4,5×2,5 мт, бяз сенцаў. Вокны выходзяць на поўдзень і ўсход; усіх тры, памерам 65×65 см. кожнае. Дзьверы з захаду. Печ цагляная, на драўляных *апѐчках*. Сьцены абмазаны глінай, страха *гòнтавая*. Ёсьць *падлòга* з дошчак. Выгляд мае вельмі бедны. Хаты серадняцкія, а тым болей, кулацкія пабудаваны з хвоі, а часамі з елкі, амаль выключна пяцісьценамі, г. зн. на дзьве хаты, а часамі і на дзьве хаты праз сенцы. Напр., хата, якая нанята пад Дыеўскую школу, мае 10×10+10×8×4,25 ар., стаіць вокнамі на паўднёвы ўсход і паўднёвы захад, агульным лікам 8, па 98×74 см. кожнае. Прыбудаваны ганак з дошчак. Дах гонтавы. Хата Клочкі Міхайлы ў Новазер'і мае 4,65×5,60 +4,65 мт з прыбудаваным ганкам з дошчак, гонтавым дахам і г. д. Вокны бываюць на 4-8 *шыб* і ў некаторых новых хатах могуць адчыняцца. Часамі робяцца *вакеніцы*, каб цяплей было і бясьпечней ад злодзея, як, напр., у Кандрата Косьцевіча з Чаромхі ў Горках (гл. фот.). Часта ў сенцах падлогі ня бывае, а калі сянец і ганку няма, то над дзьвярмі наўскос да сьцяны ставяць дошкі, жэрдкі і д. т. п., якія служаць своеасаблівай паветкай для дзьвярэй і ахоўваюць іх ад ветру і сьнегу (Ст. Зелянкі). *Варыстая* печ знаходзіцца направа або налева ад уваходу ў хату і складаецца з цэглы. *Бітыя* печы спатыкаюцца як вельмі рэдкае выключэньне. Часамі ад печы ў супроцьлеглую сьцяну ідзе *пол*, але ў пераважнай большасьці хат палоў ужо няма, а на іх месцы стаяць *лòжкі*. Ля дзьвёх другіх сьцен на адмысловых калодках ляжаць *лàвы*, якія сходзяцца на *куцѐ*, дзе стаіць стол. Перад сталом стаяць *услòны* або *зэ̀длі*. Часамі над палом або над ложкам адным канцом на печы, другім — на балечцы, вісяць *палàткі* (Дыя). Супроць печы, на сьцяне, вісяць *грàдкі*, паліцы для *пасỳды* і *залòжнік* для лыжак. Кут супроць печы завуць *мыцельнікам*, а куточак ля печы, паміж сьцяной і печчу — *качарэ̀жнікам* або *вілачнікам*. Сьцены і печ часамі беляцца, а часамі абіваюцца шпалерамі, ды і то толькі на куце, дзе вісяць партрэты Леніна, Варашылава і інш., вельмі часта побач з іконамі. Дзьверы ў хаце зачыняюцца на *клямку* з *рỳчкі*, *сьлясакà*, *западнì* і *кручкà*. Хаты рубяць пераважна нанятыя майстры і толькі часамі самі гаспадары. У першым усходнім вугле першага вянка высякаюць ямку і кладуць манэту. Калі першы вянок, г. зн. *падрỳбы*, гатовы, адбываюцца ў зрубе *заклàдзіны*, а, як хата скончана — *ухòдзіны*, або *улàзіны*.

Супраць хаты на дварэ ставяць *клець* або *сьвіран*. У клеці заўсёды ёсьць падлога, а часта і столь. Калі апошняй няма, то франтоны робяцца з бярвеньня або моцных дошчак. На аднэй лініі з хатай, або ўперак да яе стаіць хлеў, часамі пяцісьценам з *двамà* варотамі, як у Антона Рыбінскага ў Старых Зелянкох (гл. фот.). Усярэдзіне хлеў перагароджаны *катухàмі*, так што ў ім стаіць уся *худòба* ад сьвіней да коняй уключна. Бывае, што асобна будуецца цёплы хлеўчык, *на махỳ*, для авечак, а для сьвіней — невялічкая *прыбудòвачка* да хлява. Паміж хатай і хлявом, ад хаты, ад хлява і амаль ніколі асобна, ставіцца *павѐтка*, якая складаецца з аднэй сьцяны і двохскатавай страхі *на сòхах*, як у Васіля Карзуна ў Волме. Падобна хаце, на маху, будуецца *варыўня*

або *сто̀пка* са стольлю, але без падлогі. У ёй хаваюць бульбу, гародніну і інш. Апальваецца яна асобнай печкай бяз коміна, але часьцей за ўсё проста *жа̀рам*, які прыносяць на нач з хаты ў *чыгунѐ* (Горкі).

За гародам, на *гумнішчы*, ставяць *ток* або *гумно̀*. У ім складаюць збожжа, а часамі і сена, якое пераважна ляжыць у стагох на сенажаці ці на гумне. Па бакох у таку знаходзяцца *старо̀ны*, засланыя жэрдкамі, на якіх і кладуць збожжа. Пасярод гумна зямля ўбіта глінаю што і складае ўласна ток. У адным канцы гумна часта яшчэ стаіць *ёўня* або *асѐць*, у якой сушаць снапы. Яна пабудавана з токам пад аднэй страхой і мае столь і печ. Рэдка спатыкаюцца двухпавярховыя ёўні. У серадняцкіх гумнах, апрача току, ёсьць *пу̀ні*, у якіх складаюць сена. У шмат якіх вёсках яшчэ бытуюць *азяро̀ды* або *пярэплаты*, у якіх сушаць збожжа на паветры, *азярэ̀дзячы* яго адразу пасьля таго, як зжата. Мясцовыя азяроды складаюцца з моцных слупоў, у якія прадзеты жэрдкі. Перасяленцы з Полаччыны прывезьлі ў Раваніцкі сельсавет другі тып азяроду, у якім на сукох сукаватых бярвенцаў, укапаных у зямлю, ляжаць жэрдкі (Новы Шлях). У першым выпадку снапы азярэдзяць вельмі шчытна, а ў другім — яны ляжаць вольна. Другі тып азяроду завуць *астро̀ўкамі*. У беднякоў часта ўсё гумно складаецца з азяроду ды стажкоў, як у Міхайлы Канарскага ў пас. Усход (гл. фот.).

У некаторых гаспадароў, але вельмі рэдка, ёсьць *ла̀зьні*. У лазьнях ёсьць *сто̀ля* і падлога ды печ з каменьня і палок, на якім парацца. Часамі ля лазьні бывае адмысловая *сту̀дня* (Новазер'е). Увосень у лазьнях сушаць лён, перад тым, як церці яго. Калі ў лазьні хоча памыцца сусед, напр., то ён павінен выпаліць яе сваімі дрывамі, нанасіць і нагрэць—вады і г. д. ды лічыць за вялікую ласку, што яго пусьцілі. Ня гледзячы на гэта, лазьні — рэдкая зьява на Чэрвеншчыне і большасьць насяленьня мыецца ў хаце ў ночвах, толькі па пояс, разы два-тры на год.

Большасьць вясковага насельніцтва Чэрвеншчыны носіць саматканую адзежу, якую ткуць з лёну і толькі ў выключных выпадках — з канапель. Моладзь імкнецца хадзіць у куплёным, асабліва ў выхадныя дні. Шыюць адзежу таксама ўсе самі, а часамі і краўцы-сяляне, для якіх кравецтва ёсьць толькі падсобная гаспадарцы справа (Шасьцівалокі) і якія сваім умецтвам мала чым розьняцца ад іншых вяскоўцаў. Жаночая *саро̀чка* шыецца з дзьвёх полак (Дыя) *кужэльнага* або *зрэбнага* палатна, даўжынёй на *кархі* тры ніжэй кален (корх — шырыня далоні), з *про̀стымі* рукавамі або *каўняркамі* ці *брыжа̀мі*. *Каўнѐр адкладны* і завязваецца *сту̀жкаю*. Ля каўняра—*забо̀ры*, каб сьцягнуць каўнер. У рукавох выкройваюцца суцэльна з рукавом *клінкі* заміж цьвікляў, але шыюць і з цьвіклямі ды са стаячым каўняром або зусім без яго. На *плячуко̀х* рукавоў — *перабіра̀ныя пылікі*. Мужчынская *кашу̀ля* розьніцца толькі даўжынёй. Носяць яе мужчыны і на штанох і ўбіраючы ў штаны.

Па сарочцы жанчыны носяць *спадніцы* з узорыстага палатна і *андаракі* з такога-ж сукна, ды паверх іх — *ператыка̀ны*, перабіраны, або *вышыва̀ны хварту̀х*, часамі адмыслова плісаваны. Некаторыя яшчэ надзяюць *гарсэт*, зашпіляючы яго толькі на адзін кручок. На галаву жанчыны ў Чэрвеншчыне завязваюць або *ху̀стку* або *намёт*, *намётку* як гэта відна на Юстыне Корзун і Тэклі Корзун з Волмы (гл. фот.).



*Першы рад*: хата Кандрата Косьцевіча ў Горках; хлеў і худоба Антона Рыбінскага ў Старых Зелянкох; *другі рад*: гумно Міхайлы Канарскага ў пас. Ўсход; Юстына і Тэкля Корзуны з в. Волма.

Намётка і хуста ў Чэрвеншчыне завязваецца рознымі спосабамі, два з якіх паказаны на нашых ілюстрацыях. На ногі жанчыны абуваюць лапці з аборкамі, або *краѝкамі*, г. зн. чорнымі суконнымі паясамі, ці *рамѐнкамі*, г. зн. раменнымі паясамі, якімі яны памастацку перавіваюць нагу *па бялю̀ткай* анучы да кален. Дзяўчаты надзяваюць на шыю *па̀церкі* і ўжываюць вельмі шмат *касьнікѐў*, *сту̀жак* і інш.

Мужчыны пасьля сарочкі і штаноў надзяваюць *камызэ̀льку*. Сарочка падпяразваецца *по̀ясам*, а часамі і *дзя̀гай*, на якой вісіць нож, *шабѐта* з *крэ̀сівам*, *крэ̀менем* і інш. На нагах мужчыны таксама носяць лапці. Але, як у жанчын, *кама̀шы*, так у мужчын *бо̀ты* пачынаюць панаваць. Часамі крэсіва вісіць ля шабеты. Паясы ткуцца з рознакаляровых суконных нітак, але іх заразносяць пераважна мужчыны; у хлопцаў іх падмяніла *папру̀га* або *рэ̀мень*.

Верхняю адзежаю жанчын зьяўляецца *сьвіта* і *кажу̀х*, якія шыюцца *хваставымі*, г. зн. *да ста̀ну*. Даўжынёй яны значна ніжэй кален. У мужчын апрача сьвіты і кажуха, бывае *жакѐтка*, г. зн. кароткая сьвіта. На галаву мужчыны адзяваюць куплёныя шапкі.

Дзеці да 3-4 год ходзяць толькі ў сарочцы, а пазьней — адзяваюцца як дарослыя. З 5-6 год яны абуваюцца і адзяваюцца самі, без староньней дапамогі.

З пасьцельнай бялізны цікавым пeражыткам зьяўляецца пасьцілка *друкава̀нка*, на якой набіты узор фарбаю ў некалькі колераў па беламу полю, якую перадаў у музэй Міхайла Клочка з Новазер'я. Быццам набіваньне адбывалася на Чэрвеншчыне, але як — ніхто ня помніць.

Харчуецца вясковае насельніцтва амаль выключна тым, што дае яму яго сельская гаспадарка. З аржаной мукі пякуць хлеб *ядо̀мы*, хлеб *прэ̀сны* для квасу, *праснакі́*, *блі́ны*, *ала̀дкі*, вараць *зацірку*, робяць *саладу̀ху* і д. т. п. З пшанічнай, апрача таго, пякуць *грыбкі́*, *пірагі́*, вараць *мача̀нку*, *патра̀ўку*, *макаро̀н* і інш. З аўсянай мукі вараць *жур*, *кісѐль*, ды робяць *кру̀пы* і *мі́лту*. З грэчкі і ячменю робяць крупы на *кру̀пнік* і *ка́шу*, а з *я̀чнай* і *грэ̀цкай* мукі пякуць бліны і аладкі. Гарох ядуць вараны і *пра̀жаны*, як і боб. *Буракі́* і *капу̀сту* вараць як сьвежымі, так і заквашанымі на зіму. З бульбы робяць самую рознастайную *яду̀*: *булён*, *ба̀бку*, *ала̀дкі*, *камы̀* і інш.

Апрача квасу, спажываюць *бяро̀завік* і *кляно̀вік*, якія назапашваюць вясною, калі цячэ сок з параненай бярозы і клёну.

З асаблівасьцяй сямейнага быту можна адзначыць старажытнае вясельле з адводам маладых у клець, якое мела месца яшчэ ў 1917 г. у Дыі. У апошнія часы паасобныя старадаўныя звычаі яшчэ маюць месца, але ў поўным сваім злучэньні ужо не сустракаюцца.

Некаторыя мясцовасьці ў Чэрвеншчыне славяцца і цяперака яшчэ сваімі сялянскімі песьнямі (Волма і інш.), якіх нам у часе свайго падарожжа ўдалося запісаць да 600 нумароў з рознымі абрадамі, з якімі яны зьвязаны. На жаль характарызаваць імі бытавы сялянскі каляндар мы пазбаўлены тут магчымасьці з прычыны браку месца.

[Усё гэта пісана пра Чэрвеншчыну 1929 году і ўсё гэта пра старую Чэрвеншчыну. У 1929/30 годзе па Чэрвеншчыне прайшла хваля калгаснага руху і бедната перажыла рашучую бойку з кулацкай часткай вёскі ды арганізавала шэраг колгасаў] да сельсаветаў (Раваніцкі) суцэльнай колектывізацыі ўключна. [А з новай арганізацыяй сельска-гаспадарчай працы ідзе і новы быт, які ад старога не пакіне і *по̀чату*.] Калі ў бліжэйшыя гады праявы старога быту і будуць мець месца сярод

часткі індывідуальнікаў, то толькі як водгаласкі блізкага мінулага, нібы паасобныя мухі ўвосень пасьля гарачага лета. І праз гадоў колькі самі вяскоўцы і іх дзеці будуць дзівіцца на нашы паўтарысотні фотографій і да тысячы іншых запісаў у Чэрвенскім музэі і ў БАН, якія ім пакінула Чэрвенская экспэдыцыя ЦБК аб Чэрвеншчыне 1929 году.

---

**М. Е. Бруй.**

# Сучасны Тураў.

Старадаўні горад Тураў—цяпер сярэдняе па велічыні і значнасьці мястэчка Мазырскае акругі. Стаіць тураў на рацэ Прыпяці ў 10—12 км ад дзяржаўнай мяжы з Польшчаю і зьяўляецца адміністрацыйным, эконамічным і культурным цэнтрам Тураўскага раёну.

Рака Прыпяць праходзіць каля мястэчка з паўночнага боку; сваім каленам „Чыкун“ яна набліжаецца да Турава на адлегласьць 0,5 км. Толькі вузкі рукаў Прыпяці—Струмень—падыходзіць непасрэдна да самага мястэчка. Шырыня Прыпяці ля Турава пры звычайным (сярэднім) роўні вады ў ёй дасягае 150 м., у веснавую-ж паводку яна выходзіць з берагоў і залівае шырокую пойму наабапал сябе. Прыпяць—суднаходная рака. Рэгулярны параходны рух па ёй зьвязвае Тураў з Мозырам і Кіевам, а раней, калі ня было тут мяжы, па Прыпяці адбываўся рэйс Кіеў—Пінск.

Мясцовасьць наўкола Турава роўная, нізінная. З паўднёвага боку да мястэчка прытыкае роўнае тураўскае поле; з поўначы да Прыпяці—выган „балоньне“, а за ракой—заліўныя сенажаці з кустамі вярбы, бералозу і лазы, і шматлікімі вазёрамі і далінамі. З захаду забалочаны выган „балота“ аддзяляе ад Турава яго прадмесьці—Заяцельле і Запясочча, якія паміж сабою і з мястэчкам злучаны грэбляй і мастамі. На ўсходзе выган „купа“ аддзяляе на адлегласьць у 1 км прадмесьце Дварэц. У веснавую паводку „балоньне“, „балота“ і „купа“ заліваюцца вадою, і тады Тураў з паўночнага боку робіць уражаньне нейкага плавучага вострава з будынкамі. Лесу наўкола няма радыусам у 6 км.

Як з надворнага боку, так і паводле ўкладу жыцьця Тураў—тыпічнае мястэчка. Даволі выразна яно падзяляецца на „места“—паўночную, яўрэйскую частку і паўднёвую частку—беларускую, сялянскую. Цэнтар Турава лічыцца ў першай. Тут два пляцы і галоўная вуліца з лепшымі будынкамі і крамамі. Гэта—рынак. У гэтай-жа частцы знаходзяцца амаль-што ня ўсе раённыя ўстановы і організацыі. Сярод будынкаў гэтай частк мястэчка можна налічыць да 20 дамоў каменных, паміж якімі ёсьць і двухпавярховыя. Большасьць-жа дамоў драўляных, крытых гонтам, з ганкам на вуліцу (як правіла).

У паўночна-заходняй частцы мястэчка ўзвышаецца „гара“, на якой паводле паданьняў стаялі ў старадаўнім Тураве княскія палацы. Цяпер там знаходзяцца 2 школы (Белсямілетка і 4-комплектавая) і больніца. Сама „гара“ займае плошчу да 5 дз. і мае ў вышыню ад 5 да 10 мэтраў. У сялянскай частцы мястэчка Турава хаты выключна драўляныя, крытыя саломаю і па архітэктуры больш адпавядаючыя сельска-гаспадарчаму прызначэньню—з сенцамі. Гэтую частку Турава можна падзяліць яшчэ на 2 часткі—„казну“ і „вашчату“. На „казьне“, якая складае паўднёва-заходнюю частку м-ка, вуліцы плянавыя, простыя, кварталы па пляне—квадраты. Тут жывуць былыя „дзяр-

жаўныя сяляне". „Вашчата"-ж пабудавана бяз пляну і абыймае сабою былыя прыгонныя, панскія двары сялян.

Калі ў цэнтры маюцца сякія-такія тротуары, дык у большасьці сялянскіх вуліц і гэтага няма. Увосень і ўвесну суглінак дае сябе добра адчуваць: па вуліцах гразь і лужы—ні праехаць, ні прайсьці.

Усяго ў Тураве 936 двароў, з якіх 559 сельска-гаспадарчых, а астатнія саматужніцкія ды былыя гандлярскія. Паводле перапісу 1926 г. у мястэчку лічылася 5393 жыхароў, з якіх беларусоў 3121 чал. (57%), яўрэяў 2171 чал. (40%), расійцаў 71 чал. (1,3%), украінцаў 17 чал. (0,3%), палякаў 8 чал., латышоў 2 чал., немцаў 2 чал. і літоўцаў 1 чал.; мужчын 2611 ч., жанчын 2782 ч. Процант пісьменнасьці нявысокі. Усяго граматных 2816 чалавек, г. зн. 52%; асобна для мужчын і жанчын процант будзе іншы: пісьменных мужчын 63%, жанчын толькі 41%. Праўда, апошні навучальны год у справе пісьменнасьці зрабіў значныя зьмены ў бок памяншэньня ліку няпісьменных.

Большасьць беларускага насяленьня займаецца хлеваробствам. Адчуваецца некаторая зямельная цесната, і значную частку хлебаробаў Турава ратуюць лесараспрацоўкі і коопэрацыя. На 1 студзеня г/г. атрымлівала хлеб у коопэратыве 195 гаспадарак і адзіночак (толькі сялянскіх). Сярэдняя колькасьць зямлі на двор: пахаці 2,37 га, сенажаці 2,4 га; кароў—1,5 шт., коняй—1,2 шт. Бясконных малазямельных гаспадарак налічваецца звыш 60, а абкладзеных падаткам у індывідуальным парадку 14.

Гаспадарка серадняка-селяніна з Турава можа быць прадстаўлена так: хата з сенцамі, адрына, клець або сьцёбка, павець, хлеў для жывёлы— гэта „дамашнія" будынкі. Гумно, якое ўключае ў сябе клуню (ток), 1—2 адрыны і 1—3 павеці (круглае гумно),—знаходзяцца на значнай адлегласьці ад хаты, праз некалькі вуліц. (Гумны сконцэнтраваны на акраінах мястэчка). На 2—3 дзес. пахаці і гэтулькі-ж сенажаці серадняк трымае 2 коні, 1—3 каровы, 4—8 авечак, 1—3 сьвіньні.

Зямля ў Тураве даволі ўрадлівая (суглінак), але ўгнаеньня патрабуе. Ураджай збожжа—70—90 пуд. з дзесяціны, бульбы 800—1000 пуд. Найбольш пашыранымі культурамі зьяўляюцца жыта, авёс і бульба. Пшаніца, ячмень і проса сеюцца ў значна меншай колькасьці. Лён і каноплі займаюць яшчэ меншую плошчу і да апошняга часу ідуць выключна для сваіх хатніх патрэб. Праўда, у апошні час льнозагатоўка і тут знайшла сваё месца і тое-сёе загатоўлена на вываз у горад. Грэчкай „забаўляюцца" толькі адзінкі на нязначным кавалку пяску, („Казаргаць").

У 1929 г. сельска-гаспадарчая плошча ў Тураве была выкарыстана так:

| | | |
|---|---|---|
| Пад жытам і пшаніцаю (азімае) | — 393 | га (4 : 1) |
| „ бульбай . . . . . . | — 272 | „ |
| „ аўсом . . . . . . . | — 302 | „ |
| „ ячменем . . . . . . | — 96 | „ |
| „ просам . . . . . . | — 63 | „ |
| „ лёнам . . . . . . . | — 24 | „ |
| „ вікай . . . . . . . | — 48 | „ |
| „ каноплямі . . . . . | — 8 | „ |
| „ канюшынай . . . . . | — 16 | „ |
| „ караньплодамі . . . . | — 1,5 | „ |
| „ незанятым папарам . . . | — 103,5 | „ |
| Разам . . | 1326 | „ |

Да апошняга часу пануюць у гаспадарцы трохпалёўка з церaспалосіцай, але канюшынным клінам трохпалёўка штогод усё больш колецца. Ачыстка насеньня бадай усім насяленьнем ужываецца, затое мінэральнае ўгнаеньне амаль-што ня ўжываецца. Таксама слаба абстаіць справа з машынізацыяй. Акрамя сякчарні і плуга—ніякай машыны. Толькі ў КСТУ маецца жняяка, касілка, малатарня і веялка ды ў агропункце—зерначысткі.

Сенажацяй у сялян мястэчка 1331 га. У большасьці сваёй гэта заліўныя лугі, якія ня маюць ніякага дагляду з боку сваіх гаспадароў. З дзесяціны сенажаці ўсё-ж такі накашваюць ад 120 да 180 пуд. сена. Агулам кажучы, сельская гаспадарка ў Тураве да апошняга часу вялася прымітыўным спосабам. У апошні-ж час Тураў—буйны колгас, які на раздробленых і адсталых гаспадарках ужо распачынае новую, колектыўную і культурную гаспадарку.

Большая частка яўрэйскага насяленьня мястэчка — саматужнікі. Спаміж іх кавалёў 19, шаўцоў 71, краўцоў 44, шапачнікаў 6, гарбароў 9 ч., рымароў 3, злотнікаў 3, сталяроў 16 чал., плотнікаў 6 ч., панчошнікаў 26, іншых 14 ч. Большасьць саматужнікаў ужо працуе ў арцелях, але некаторыя яшчэ існуюць адзіночкамі. У мястэчку ёсьць такія арцелі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| кравецкая | з 25 | работнікамі | і вытворчасьцю | на 1951 руб. |
| шавецкая | „ 32 | „ | „ | „ 49000 „ |
| гарбарная | „ 15 | „ | „ | „ 28000 „ |
| панчошная | „ 26 | „ | „ | „ 25000 „ |

І арцелі і адзіночкі сваімі вырабамі здавальняюць толькі мясцовыя патрэбы. Многа з яўрэйскага насяленьня дэклясаванае беднаты, якая жыве на розныя дапамогі бяз сталых заняткаў. Многа ёсьць і былых і нядаўніх гандляроў.

Да рэволюцыі ў Тураве было 37 крам з гадавым абаротам да 225 тысяч рублёў (прыбл.). Нават у 1924 годзе было ў мястэчку да 10 прыватных крам. Цяпер-жа, з разьвіцьцём коопэрацыі, усе яны пазачыняліся; упарта трымаюцца толькі 2—3 „столікі“. З дэклясаванага элемэнту некаторыя выяжджаюць на сельскую гаспадарку. Выехала за апошнія гады з Турава 14 сямей.

Коопэрацыя ўсіх відаў мае ў мястэчку 5 крам, 3 мясныя, сталоўку і пякарню. Гадавы абарот іх выражаецца: па прадпрыемствах Спажыв. Т-ва 450 тысяч руб., па краме сельска-гаспадарч. коопэрацыі 50 тысяч руб. і па краме саматужна-прамысловай коопэрацыі 75 тыс. руб. „Цяжкай індустрыяй“ Турава зьяўляецца новая электростанцыя, пры якой будзе існаваць млын і лесапільны станок. Электрыфікаваны Тураў у гэтым годзе, але перабудова памяшканьня пад станцыю пачалася яшчэ летась. Цяжка далася Райвыканкому гэтая справа, але затое асьвятленьне мястэчка і прадмесьця Дварца ўнесла цэлы пералом у жыцьці гэтых паселішч і зьявілася яскравым фактарам шырокага соцыялістычнага будаўніцтва.

Культурнае жыцьцё мястэчка адсталае. Работа Нардому і культпраца не пастаўлена на належную вышыню. Спэктаклі і лекцыі бываюць рэдка. Нават няма пакуль-што кіно-стацыянаркі, а толькі перасоўка. Ёсьць, праўда, надзея, што ў хуткім часе будзе сталае кіно. У мястэчку ёсьць 2 сямігодкі,—беларуская і яўрэйская, чатырохкомплектавая школа і 1 група новай 4-компл. школы. Усяго дзяцей навучаецца ў Тураве 906, з якіх хлапцоў 535, дзяўчат 371. Дзяцей

узросту ад 8 да 14 г. па мястэчку ў год перапісу мелася 876 ч. Калі ад агульнага ліку вучняў (906 ч.) адкінуць вучняў старэйшага концэнтру ў ліку 213 ч., дык астаецца ў першым концэнтры 693 чал., што складае 79% агульнага ліку дзяцей школьнага ўзросту.

Па школах вучні разьмяркованы наступным чынам:

| | Усяго | Хлопцаў | Дзяўчат |
|---|---|---|---|
| Белсямілетка . . | 418 | 293 | 125 |
| Яўр. сямілетка . . | 297 | 149 | 148 |
| 4-компл. школа . | 151 | 77 | 74 |
| 1 гр. II-й 4-компл-кі | 40 | 16 | 24 |
| Разам . . | 906 | 535 | 371 |

У школьнай справе недахопам зьяўляецца вялікая перагрузка школьных памяшканьняў, так што ўсе школы працуюць у 2 зьмены, а з вячэрнімі лічачы, дык у тры. Срава лікняпісьменнасьці ў гэтым годзе абстаіць у мястэчку добра; таксама ёсьць і вячэрнія школы для пісьменных.

У мінулым годзе пабудавана вэтлячэбніца. Усе будынкі яе агнятрывальныя, глінабітныя. Ёсьць добрыя ўмовы для работы, але бяда, што няма каму працаваць. Адчуваецца недахоп у работніках агрономіі, вэтэрынарыі, асабліва цяпер, у зьвязку з колгасным рухам. Ёсьць у мястэчку (раёне) і краязнаўчая організацыя, якая налічвае 67 членаў.

Моладзь Турава адыходзіць ад старых укладаў жыцьця. На сходах сялянства і саматужнікаў уносяцца прапановы аб аддачы цэркваў і сынагог пад дамы культуры; адна сынагога па пастанове працоўных яўрэяў ужо забрана для культпатрэб, у недалёкім часе канчаткова вырашыцца справа і аб апошніх дамох дурману.

У вялікай справе перабудовы сельскай гаспадаркі—колектывізацыі—Тураў не астаўся на задворках. Зьяўляючыся цэнтрам раёну суцэльнай колектывізацыі, ён сам у сучасны момант стаў буйным колгасам, які ўжо аб'яднаў 494 двары. У хуткім часе Тураў стане колгасам-комбінатам. Тураўскі колгас Новае Жыцьцё на цяперашні дзень ужо абагуліў усё насеньне і прылады працы і прыступіў да абагульненьня жывога інвэнтару. Вядзецца падрыхтоўка да колектыўнай веснавой сяўбы. Колгас мае: коняй 630 шт., кароў 695, быкоў 7, плугоў 348, барон 206, 1 жняярку, 1 малатарню, 1 арфу. Закуплена многа розных машын.

Шляхамі зносін для Турава зьяўляюцца: 1) Зах. чыгунка (б. Палеская), бліжэйшая станцыя якой—Жыткавічы—знаходзіцца ў 30 км ад Турава; 2) улетку—рака Прыпяць, на якой ходзяць параходы на Мазыр і Кіеў і 3) звычайны шлях на Мазыр праз Палесьсе. Апошні кепска дагледжаны. Ад Турава да Мазыра 120 км.

Л. М. Пятроў.

# Расьлінныя згуртаваньні ваколіц в. Махірова, Полацкай акругі [1]).

Ніжэйпаданы артыкул зьяўляецца вынікам дасьледваньняў і назіраньняў, праведзеных аўтарам улетку 1927 і 29 г. г. у ваколіцах в. Махірова Полацкай акругі і раёну.

Не прэтэндуючы на паўнату ахопу тэмы ў сэнсе колькасьці апісаных відаў расьлін, я ў артыкуле разгортваю схэму краязнаўчага батанічнага дасьледваньня мясцовасьці, праведзенага мной пад кіраўніцтвам Н. А. і А. О. Зьбіткоўскіх.

В. Махірова знаходзіцца ў 6 км ад Полацку ў 2,5 км ад р. З. Дзьвіны на правым узвышаным яе беразе ў напрамку ўніз па плыні. Побач з вёскай, у 2-х км праходзіць чыгунка з бліжэйшай астаноўкай—платформай Баравуха ў 4 км ад вёскі.

Перасякаючы мясцовасьць ад Полацку да Махірова мы ўсюды спатыкаем тыповы для паўночнай Беларусі морэнавы краявід, які цалкам характарызуе арографію мясцовасьці. Рэльеф моцна выяўлены, асабліва ў лясох, дзе з-за гэтага бачым рэзкую зональнасьць расьліннасьці, ад аленяга моху на ўзгорках да сфагнавага балота ўнізе.

Збоку геолёгічнага верхнія пласты парод можна аднесьці да алювіяльных (наносы рэк), мяркуючы паводле адсартаванасьці пяску і да флювіягляцыяльных (ледавіковыя наносы) па некаторых узвышаных месцах. Карэннай, падсьцілаючай пародай, як па Махірову, так і наогул па Полаччыне служыць сярэдні і часткова вышэйшы дэвон, выхадаў якога па Полаччыне між іншым, яшчэ не зарэгістравана, калі ня лічыць пабочных даных у выглядзе сярністых крыніц, абумоўленых заляганьнем дэвонскіх пластоў [2]). Дарэчы трэба адзначыць, што сэктар в. Махірова зьяўляецца месцам адкладу канчатковай морэны, якая паводле даных Місуны цягнецца ў мэрыдыянальным напрамку з Себескага павету. Сьляды морэны навочны: валуны, нібыта высеяныя нечыяй магутнай рукой каменчыкі, усыпаюць усю раку Дзьвіну проці вёскі і далей, ствараючы перашкоды плытніцтву.

Гідролёгія мясцовасьці вызначаецца прысутнасьцю грунтавых вод т. зв. „верхаводкі“ ўжо на глыбіні да 2-х м, якая ўтварае забалочаныя месцы паміж выдмамі.

Клімат мясцовасьці, як і наогул клімат паўночнай Беларусі, адзначаецца сярэдняй гадавой тэмпэратурай у 5,2, якая ў студзені ў сярэднім дасягае 6,8 і ў ліпні 17,8; колькасьць ападкаў да 554 мм. Асабліва значэньне тут мае паўтаральнасьць дажджоў, якая дасягае лічбы 150 і да 200 і абумоўлівае збытачную вільготнасьць у некаторыя гады.

Ваколіцы Махірова ляжаць у паласе ялова-шыракалістых дрэў у тэй частцы, дзе ліставыя пароды маюць падначаленае значэньне, саступаючы месца елцы на падзольных і сасьне на пяшчаных глебах.

---

[1]) Артыкул скарочана перадае зьмест дыплёмнай працы аўтара, абароненай у прадметнай камісіі БДУ ў 1929/V.

[2]) Жирмунский, Подземные воды Западного края, 1927.

## Агляд прыродных згуртаваньняў.

Пасьля кароткіх заўваг аб тыпе мясьцовасьці, геолёгіі, гідролёгіі і інш., якія разам з кліматам абумоўліваюць характар расьліннасьці, пераходзім да вызначэньня прыродных расьлінных згуртаваньняў (і асоцыяцый)[1] іх складу і дынамікі. Перш за ўсё я падзяляю расьліннае акрыцьцё ў залежнасьці ад фізіка-географічных умоў і культурных фактараў на такія асноўныя формацыі, як лес, сенажаць, балота, поле. Аналіз згуртаваньняў рабіўся шляхам вокамернай ацэнкі сустракальнасьці відаў, з якіх невялікая колькасьць (да 200) гэрбарызавана.

### I. Лес.

Пэўны твар і ўпрыгожаньне мясцовасьці надае сасновы і часткова мяшаны, саснова-яловы бор, які плошчай у 3149 га. перакрывае мясцовасьць, ахапляючы ў выглядзе падковы тэрыторыю 7 вёсак. Гэта т. зв. Махіроўская лясная дача Дзьвінскага лясьніцтва. Глеба пад лесам уяўляе, у большасьці пяшчанае перакрыцьцё морэнавых узьвышэньняў, якія, часам, дасягаюць 30 мт. вышыні. Даволі распаўсюджана таксама супяшчаная і падзольная ў паніжаных месцах і балотна-тарфяная ў западзінах. Водны рэжым у лесе неаднастайны— ад сухіх верхавін выдмаў да забалочаных месц; ровень грунтавых вод дасягае 2-х мэтраў на роўных месцах. Падглебай у большасьці служыць чырвоны ці жоўты, добра адсартаваны пясок. Асноўнай пародай у лесе зьяўляецца сасна, яна займае 82% дачы (1695,4 га паводле даных лесаўпарадкаваньня 1926 г.), далей ідзе елка 11,7% (282,2 га), бяроза—5% (126,3 га), альха—1% (25,5 га), асіна 0,3% (5 га), прычым асіна ў большасьці займае „яловыя глебы“, як часовы элемэнт. У вільготныя гады лес засяляецца рознымі відамі грыбоў, як: баравік, абабкі, сыраежкі, мухаморы, апенкі, падасінавікі, валуі ды інш.

Калі паглядзець, наколькі ўмовы месцанасяленьня лесу адпавядаюць росту дрэў, колькасьці расьліннай масы і г. д., што ў лесагадоўлі, як вядома, азначаецца т. зв. клясамі бонітэту, то Махіроўскую дачу можна прадставіць такім чынам (паводле даных НКЗ) у %%:

| | сасна | елка | бяроза | альха | асіна |
|---|---|---|---|---|---|
| I кл. | 9,3 | 62,8 | 2,2 | — | 52 |
| II „ | 37,3 | 33,3 | 14,0 | — | 48 |
| III „ | 43,0 | 3,9 | 48,2 | 100,0 | — |
| IV „ | 7,2 | — | 35,6 | — | — |
| V „ | 3,2 | — | — | — | — |
| | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Як бачым з табліцы, сасны вышэйшай вартасьці па вышыні, таўшчыні і колькасьці драўніны (I кл.) усяго 9,3%, а асноўны масыў сасьняку (43%) належыць да дрэвастану сярэдняй якасьці (III кл.). Толькі елка знаходзіцца ў большай частцы ў спрыяючых глебавых і інш. умовах і дае 62,8% дрэвастану I клясы бонітэту; такія-ж па-

[1] Пад асоцыяцыяй мы разумеем (па Алехіну) комплекс расьліннасьці з пэўным флёрыстычным складам і ўмовамі месцазнахаджэньня, згуртаваньне-ж разуменьне больш шырокае і ня мае строга акрэсьленага відавога складу.

роды, як альха зусім не знаходзяць умоў для вырастаньня па I клясе і цалкам належаць да III кл. Асіна, як бачым з табліцы, адчувае сябе зусім добра на яловых глебах (на месцах высечанай елкі) і дае 52 і 48% дрэвастану лепшай вартасьці.

Што да ўзросту лесу, то ў ім заўважаем дрэвы ад 85 і да 105 гадоў і маладзей з таўшчынёй камля ад 26,4 да 41,4 см. Лясная гаспадарка ў дачы вядзецца здаўна, зараз установулен 100-годні зварот рубкі для хваёвых і 50-годні для ліставых парод. Лес падзелены на 27 кварталаў з плошчай кожны да 112,5 га. Сярэдні прырост драўніны — 2 кубамэтры. Цяпер пераходзім да ўстанаўленьня паасобных асоцыяцый лесу і іх характарыстыкі, пачынаючы з найбольш распаўсюджаных.




ПАЎСХЭМАТЫЧНАЯ
ГЕОБОТАНІЧНАЯ МАПА
ваколіц с. Махірова, Полацк. р.

Складзена на падставе пляну лясьніцтва і ўласных рэкогносцыровак.
Склаў Л. Пятроў.
Маш. 3 в. у цалі.

*1. Асоцыяцыя верасавы бор, Pinetum callunosum.*

Верасавы бор займае да 43% усяе плошчы дачы. Асноўныя компонэнты асоцыяцыі — сасна і верас, якія перакрываюць бугрысты рэльеф на значнай плошчы. На разрэзе глебы гэтага бору можна адзначыць: кругавід мёртвай падсьцілкі да 1-2 см, ніжэй-кругавід слаба-шэрага пяску ў 10—20 см таўшчыні і глыбей—падглеба—жаўтаваты дробназярнёвы пясок. У травяным насьціле бору ўстаноўлены такія віды расьліннасьці: верас, Calluna vulgaris, ён пануе ў акрыцьці данай асоцыяцыі, хмызьняк яго дасягае тут да 0,75 м вышыні; мучаньнік звычайны, Arctostaphylos Uva ursi, сівец, Nardus stricta, брусьніцы, Vaccinium vitis idea агаткі рознапнёвыя, Anthennaria dioica, іскаркі пескавыя, Dianthus arenarius, вобмарак звычайны, Jasione montana, вілак сьціснуты, Lycopodium campanulatum. Па ярусах расьліны разьмяркоўваюцца так:

1 ярус—сасна, Pinus silvestris, 2 ярус—верас, Calluna vulgaris, 3 ярус—сівец, Nardus stricta. На ўскрайках бору спатыкаем шэрую альху Alnus incana і ў падлеску, часам, яловец Juniperus communis.

*2. Асоцыяцыя бор-брусьнічнік, Pinetum vacciniosum.*

Асоцыяцыя гэта складае адну з адмен выходнай асоцыяцыі—бор-зялёнамошнік і займае ў дачы 37% усяе плошчы пераважна на ўзвышаных месцах. Глеба ўяўляе кругавід мёртвай падсьцілкі ў 2-3 см, кругавід дробназярнёвага пяску, афарбаванага гумусам у чарнаваты колер глыбінёй у 5-7 см, яшчэ глыбей ідзе сьветла-шэры пясок у якасьці падглебы. У травастане пераважае і надае пэўны выгляд хмызьняк брусьнічніку, ніжэй бліскучыя імхі, Hylocomia sp., папараць, Pteridium aquilinum і верас дзе-ні-дзе.

1 ярус — сасна, 2 ярус — брусьніцы, Vaccinium vitis idea, 3 ярус— томка пахучая, Anthoxanthum odoratum, 4 ярус — грушаўнік, Pirola secunda, 5 ярус — бліскучыя імхі, Hylocomia sp. і вілак сьціснуты, Lycopodium campanulatum і L. clavatum.

*3. Ас. саснова-яловы бор, Pinetum picetosum.*

Саснова-яловы бор займае да 9,3% плошчы лесу і адзначаецца дрэвастанам вышэйшай якасьці (I-II кл.). Тут мы маем выпадак, калі сасна заняла больш спажыўную глебу ельніка. Той факт, што елка ў гэтай асоцыяцыі апынулася ў падлеску можна тлумачыць працэсам аднаўленьня елкі з-пад сасны, якая, як відаць, заняла глебу быўшую ў свой час пад елкай. Саснова-яловы бор займае больш узвышаныя месцы з сьвежай супяшчанай глебай. Флёрыстычны склад разьмяркоўваецца такім чынам:

1 ярус—сасна, Pinus silvestris, 2 ярус—майнік двулісьцевы, Majanthemum bifolium, 3 ярус—кісьліца, Oxalis acetosella, 4 ярус—дзераза Lycopodium clavatum. Даволі часта трапляецца і брусьнічнік.

*4. Ас. лішаёвы бор, Pinetum cladoniosum.*

Пануры выгляд бору надае алені мох, які амаль суцэльным слоем пакрывае глебу. Бор раскіданы выключна па верхавінах пяшчаных выдмаў з сухой пераveянай глебай, якая дае мажлівасьць існаваць хіба што аленяму моху, сушніцы ды іскаркам—як тыповым сухалюбам. Дрэвастан бору належыць да ніжэйшае клясы (IV кл.). Флёрыстычны склад лішаёвага бору Махіроўскай дачы ўяўляе пераважна сухалюбаў: алені мох, Cladonia rangiferina, сівец, Nardus stricta, іскаркі, Anthenaria dioica, серпніца, Gnaphalium luteoalbum. Яруснасьць ня ўсюды дастаткова выражана.

*5. Ас. Мокры бор, Pinetum uliginosum.*

Прадстаўнікі асоцыяцыі — сасна і буякі, Vaccinium uliginosum займаюць нізіны паміж выдмамі, занятымі лішаёвым борам. Мы бачым тут прыклад рэзкай зональнасьці расьліннасьці ад лішаёў-сухалюбаў да балотнай расьліннасьці, як, напр., асокі, падвей да інш. Сасьняк мокрага бору вельмі нізка стаіць па сваёй вартасьці (IV-V кл.), часам у ім трапляюцца дамешкі 0,2-0,3% бярозы. Глеба—балотная, тарфяная, праз меру вільготная, што кладзе адбітак на ўсю іншую, апрача сасны, расьліннасьць. Відавы склад зельля дзякуючы наяўнасьці перагною і вільгаці даволі пярэсты, тут мы знаходзім: імхі, Sphagnum, кукушкін лён, Polytrichum commune, асокі, Carex vesicaria і інш., брусьніцы, Vaccinium vitis idea, чарніцы, Vaccinium myrtillus, грушаўнік, Pirola rotundifolia, дзераза, Lycopodium clavatum, кісьліца, Oxalis acetosella,—(як паказчык спажыўнасьці глебы), седмачок, Trientalis europaea, майнік двулісьцёвы, Majanthemum bifolium, папараць, Pteridium aquilinum, лазоўка, Naumburgia thyrsiflora, жоўтазель фарбоўны, Genista tinctoria і інш.

1 ярус—сасна, Pinus silvestris, 2 ярус—буякі, Vaccinium uliginosum, 3 ярус—папараць, Pteridium aquilinum, 4 ярус—асака, Carex vesicaria, 5 ярус—седмачок эўропейскі, Trientalis europaea.

Як у гэтай, так і ў іншых асоцыяцыях яруснасьць, зразумела, выяўляецца ў „чыстым“ выглядзе толькі ў асобных вучастках асоцыяцыі, што патрэбна мець на ўвазе.

*6. Ас. бор-чарнічнік, Pinetum myrtillosum.*

У дачы ён займае некаторыя ўчасткі ў заходняй частцы ў паніжаных месцах з вільготнай тарфяністай глебай. Дрэвастан, як і трэба чакаць, ня вельмі нізкі па вартасьці (III кл.), чаму спрыяе перагной у глебе і дастатковая вільготнасьць. У травастане бору знаходзяцца: чарнічнік, Vaccinium myrtillus, ягадамі якога карыстаецца вакольнае насельніцтва, побач з ім: багульнік, Ledum palustre, буякі, V. uliginosum і сфагнавы мох па яруснасьці:

1 ярус—сасна, Pinus silvestris, 2 ярус—чарнічнік, V. myrtillus, 3 ярус—асокі, Carex glauca і інш.

*7. Ас. ельнік-зялёнамошнік, Picetum hylocomiosum.*

Шасьцю асоцыяцыямі сасновага бору амаль вычэрпваецца склад яго расьлінных згуртаваньняў. З іншых парод прадстаўлена елка ў выглядзе ельніка-зялёнамошніка, які займае паасобныя вучасткі сасновага бору. Разрэз глебы ў адным з вучасткаў асоцыяцыі выявіў: мёртвую падсьцілку ў 5—8 см, слой гумусу ў 10—15 см афарбаванага ў цёмны колер, ападзоленая глеба 50—60 см, глыбей ідзе падглеба ў выглядзе белай ці чырвонай гліны.

Флёра ельнікаў даволі рознастайная, напр., часта сустракаецца седмачок Trientalis europaea, маруна паўночная, Galium boreale, брусьніцы, зоркаўка дліналісьцёвая, Stellaria longifolia, грушаўнік, Pirola rotundifolia, казялец, Ranunculus repens, кісьліца, Oxalis acetosella, мудранка чатырохлісьцёвая, Paris quadrifolia, асокі, сфагнавы мох, зязюлькін лён, бліскучыя мхі, папараці і інш.

*8. Ліставы лес.*

Ён у дачы прадстаўлены бярозай (126,3 га), асінай (5 га) і альхой (25,5 га). Усе пералічаныя пароды зьявіліся на месцы вырубак асноўных парод—сасны і елкі, заняўшы іх месца, як пераходнае зьявішча. Такое аднаўленьне сасны ды елкі відаць у розных куткох лесу і дае навочны прыклад дынамікі лесу. На высечаных дзялянках сасны можна ўбачыць, як скрозь адросткі асіны, вольхі і бярозы прабіваюцца маладыя елкі і, з цягам часу, пакідаюць у 2-м ярусе дажываць век ліставыя пароды.

Флёра на аднэй з такіх дзялянак (№ 16) азначана такім чынам:

1 ярус—малады бярэзьнік, асіна, сасьняк, 2 ярус—чарнічнік, Vaccinium myrtillus; папараць, 3 ярус-пахучая томка, Anthoxanthum odoratum, 4 ярус—мох бліскучы.

У травастане: ажына, Rubus caesius, дмухавец, Tharaxacum officinale, шчаўе, Rumex acetosa, скрыпень вузкалісны, Epilobium angustifolium, мятлюжок гаёвы, Poa nemoralis, валошка, Centaurea jacea, чабор, Thymus serpyllum, сумнік залацісты, Solidago virga aurea і інш. Казаць аб прыродных згуртаваньнях ліставога лесу ў Махіроўскай дачы ня прыходзіцца, яны не маглі скласьціся ў пераходным тыпе расьліннасьці, якім зьяўляецца асіна, бяроза і інш. у ўмовах акружэньня хваёвых парод.

## II. Лугавая расьліннасьць.

Дасьледваньню падпаў пераважна поплаў абапал р. Махіроўкі, што ледзь прыкметнай істужкай вады праразае мясцовасьць да ўпадзеньня ў р. Зах. Дзьвіну. У часе паводкі наносіцца даволі перагною,

які ствараe ўмовы для вырастаньня шматлікага зельля. Ровень грунтавых вод даволі высокі, рэльеф і мікрарэльеф поплаву ня выражаны, толькі дзе-ні-дзе трапляюцца западзінкі з пачаткамі забалочваньня. З расьлінных асоцыяцый поплаву я прыводжу больш пашыраныя і выразна акрэсьленыя па складу.

*1. Мятлюжкава-сьветнікавы луг. (Poa pratensis+Lychnis Flos cuculi).*

Асоцыяцыя плямамі раскінулася навокал рэчкі на поўдзень ад вёскі. Глеба поплаву перагнойная, з пачаткамі акісьленьня, аб чым сьведчыць зьяўленьне асакі. Агульны твар вучасткам асоцыяцыі ўвесну надае чырвоны колер сьветніка ды шэра-сталёвы колер мятлюжка.

Склад расьліннасьці мае наступны выгляд:

1 ярус—мятлюжок, Poa pratensis,
2 „ —сьветнік, Lychnis Flos cuculi,
3 „ —дзятліна, Trifolium hybridum,
4 „ казялец, Ranunculus repens.

У травастане асоцыяцыі даволі часта сустракаюцца: томка пахучая, Anthoxanthum odoratum, манна звычайная, Glyceria fluitans, драсён, Polygonum Bistorta, вострыца, Deschampsia caespitosa, дрыжнік, Briza media. Увесну на поплаве зьяўляецца шэраг расьлін „сэзоньнікаў", ствараючы яруснасьць „у часе". Гаспадарчая вартасьць сенажаці адпавядае запатрабаваньням насельніцтва па якасьці і аб'ёму расьліннай масы.

*2. Драсёнава-мятлюжковы луг. (Polygonum Bistorta+Poa pratensis).*

Луг займае ледзь прыпаднятыя месцы з пухка-падзольнай глебай і сярэдняй вільготнасьцю.

1 ярус—драсён, Polygonum Bistorta,
2 „ — мятлюжка, Poa pratensis і томка пахучая,
3 „ — дзятліна швэцкая, Trifolium hybridum,
4 „ — казялец, Ranunculus repens.

У травастане: вятроўнік, Filipendula ulmaria, валошка лугавая, Centaurea jacea, сьветнік, Lychnis flos cuculi, званец, Alectorolophus major, хвошч палявы, Equisetum arvense, брунэлька звычайная, Brunella vulgaris, званкі, Campanula glomerata, дрыжнік сярэдні, Briza media і інш. Прысутнасьць расьлін з групы траў і бабовых робіць сенажаць значнай кармавой базай.

*3. Падвеева-асаковы луг. (Eriophorum latifolium+Carex irrigua).*

На тэй-жа плошчы, дзе і ўсе іншыя, асоцыяцыя падвей+асака займае найбольш паніжаныя месцы, у якіх пасьля паводкі ці дажджоў застайваецца вада, выклікаючы забалачваньне месца. Флёра лугу:

1 ярус—падвей, Eriophorum latifolium,
2 „ —асака, Carex irrigua,
3 „ —дуброўка балотная, Comarum palustre,
4 „ —мох, Sphagnum sp.

Сям-там у згуртаваньні ўкроплен увярэднік балотны, Pedicularis palustris,—характэрны для забалочаных месц, вятроўнік, Filipendula ulmaria—рэдкімі хмызьнякамі на нязначных узвышэньнях—куп'ях, казялец балотны, Ranunculus lingua, курасьлеп, Caltha palustris. Вартасьць сенажаці нізкая, патрэбны мэліорацыйныя захады, каб накіраваць эволюцыю згуртаваньня ў бок зьяўленьня траў і бабовых.

*4. Асакова-падвеева-драсёнавы луг. (Carex Eriophorum polygonum).*

Па свайму складу асоцыяцыя амаль роўназначна папярэдняй, з тэй толькі розьніцай, што ў ёй пераважае па колькасьці расьліннай масы асака, а падвей займае падначаленае месца ў асоцыяцыі. Глебавы і водны рэжым таксама блізкі да асоц. № 3, але кваснасьць глебы, як відаць, больш спрыяе росту асакі. У травастане заўважаецца наступная дыфэрэнцыроўка:

1 ярус—падвей, Eriophorum latifolium і Polygonum Bistorta.

2 ярус—асака, Carex irrigua.

Назіраецца выраджэньне лугу з прычыны забалачваньня, што зусім зьніжае яго эканомічнае значэньне.

*5. Пераходная зона.*

У той час як аднастайны глебавы і водны рэжым даюць на тыповай поплаўнай сенажаці аднастайныя і сталыя па флёрыстычнаму складу асоцыяцыі, у мясцох пераходу ад пахаці да сенажаці мы знаходзім даволі пярэстую мозаіку розных відаў, тут бачым месца, дзе сустракаюцца прадстаўнікі палявой і тыпова поплаўнай флёры. Зразумела, у такіх умовах не магло скласьціся сталае згуртаваньне, а ёсьць толькі „няроўнаважная сыстэма“ расьлінных відаў. У аднэй з такіх зон каля вёскі Махірова я адзначыў: казялец, Ranunculus acer, дрыжнік, Briza media, дмухавец, Tharaxacum officinale, званец, Alectorolophus major, дзятліна, Trifolium hybridum, званкі, Campanula rotundifolia, кмін, Carum carvi, крываўнік, Achillea Millefolium, трыпутнік, Plantago lanceolata, гусялапка, Alchemilla vulgaris, шчаўе, Rumex acetosa, лазьняк, Salix sp., драсён, Polygonum Bistorta, чабор, Thymus serpyllum, брунэлька, Brunella vulgaris, мятлюжок лугавы, Poa pratensis, валошка, Centaurea jacea, зязюлька плямістая, Orchis maculata, вятроўнік, Filipendula ulmaria, ляскатуха ніцая, Silene inflata, асокі,—рэдка, мятліца белая, Agrostis alba, панікніца, Geum rivale, герань лугавая Geranium pratense і інш.

### III. Берагавая і балотная флёра.

Шэраг вазёр рознай велічыні аздабляе ваколіцы в. Махірова. Адны з вазёр, як напр. воз. Баравухі, зарасьлі, ці зарастаюць, другія таксама пераджываюць тую ці іншую стадыю зарастаньня. Найбольш выдатна па велічыні і выгляду воз. Вельча, каля чыгункі. З іншых можна ўказаць на воз. Махірова, у 2-х км ад вёскі на поўнач. ўсход. Плошча вады ў возеры дасягае 4 га. З усіх бакоў возера энэргічна зарастае асакой, дуброўкай ды чаротам. Глыбіня возера нязначная, да 1 м, дно паднялося дзякуючы масавым адкладам сапропэлю, слой якога каля берагу больш 7 м глыбіні, нават немагчыма дастаць цьвёрдае дно звычайнымі шастамі, зьвязанымі па два. Берагі возера амаль непадступны—гэта як-бы плаваючая коўдра з карэньняў розных расьлін і асабліва сьцябло-каранёў асакі і дуброўкі—як піонэраў зарастаньня. Навокала возера—малады бярэзьнік і сасьняк. У першых шэрагах наступаючых на возера расьлін знаходзяцца асокі і дуброўка, каля іх у вадзе—коўдра зелені раскі і бялеюць кветкі разака, Stratiotes aloides; у іншых месцах наступае пухоўка, Typha latifolia.

Флёра берагоў возера мае такія віды: асака, Carex vesicaria, C. filiformis (рэдка), асака багнавая, Carex limosa, раска, Lemna minor,

чарот, Phragmites communis, у вадзе—рдэсты, Potamogeton natans, колёніі Nostac—цікавыя, падобныя да вішні галачкі—колёнія вадаростаў, па беразе—зоркаўка, Stellaria palustris, лазоўка, Naumburgia thyrsiflora, казялец, Ranunculus lingua, незабудка, Myosotis palustris, капытнік, Calla palustris, у вадзе—вадзяніца, Nymphea alba, стрэлаліст, Sagittaria sagittifolia, рагалісьцік, Ceratophylum sp. Яшчэ больш цікавым помнікам ледавіковага пэрыоду можа быць воз. Доўгае, у 4 км ад в. Махірова на поўнач, якое таксама зарастае і ўжо часткай ператварылася ў сенажаць. Як і воз. Махірова-Доўгае абкружана колам наступаючага сьледам за зельлем—лесам, ліставым і мяшаным. Ня ў прыклад іншым, воз. Доўгае лічыцца рыбным, мае дастатковую глыбіню і плошчу. Возера зарастае па тэй-жа схэме, як і папярэдняя, але адсутнічаюць колёніі Nostac і целарэзы, затое ў ім шмат рдэстаў і інш. водных расьлін.

## IV. Рэчка Махіроўка.

Рэчка Махіроўка, што выцякае з воз. Махірова і ўпадае ў Зах. Дзьвіну, на працягу 3-х км сваёй плыні апранута ў зялёнае адзеньне розных вадалюбных расьлін, як вадзянік, дуброўнік, раска, рагалісьцік, казялец вадзяны і інш. Сапраўдным упрыгожаньнем рэчкі можа быць названа вадаперыца балотная, Hottonia palustris, якая сваімі сьветла-ружовымі кветкамі аздабляе краявід рэчкі [1]). Ля самай вады, на рэчцы, улетку 1929 г. я знайшоў 3-4 экзэмпляры гладкай асакі, Carex laevigata, якая паказана для Крыму; магчыма, што яна занесена пералётнымі птушкамі, бо ў іншых месцах гэтай асакі я ня сустрэў.

## V. Балоты.

Паважнае месца ў кругавідзе мясцовасьці займаюць балоты. Большасьць з іх утварылася з зарослых вазёр і, часткай, пакрылася лесам. Балоты пераважна сфагнавыя, часткова травяныя і лясныя і ўсе—грунтавога спажываньня, верхавых балот не заўважана ў сэктары дасьледваньня. Пласт торфу ў некаторых мясцох дасягае да 2 м таўшчыні і можа мець значэньне калі не як апал, то як угнаеньне. З боку флёры як травяныя, так і сфагнавыя балоты ваколіц уяўляюць, у большасьці, амаль чыстыя зарасьнікі (а не асоцыяцыі) асакі, па лясных балотах—асака ў згуртаваньні з падвеямі і дуброўкі, асабліва ў балотах з нізкарослым беразьняком ці сасьняком. На адным з вучасткаў балота ўстаноўлены такія віды: асака, Carex glauca, C. vesicaria, падвей, Eriophorum latifolium, дуброўка, Comarum palustre, курасьлеп, Caltha palustris, хвошч балотны, Equisetum palustre, увярэднік балотны, Pedicularis palustris. Травяныя балоты мясцовасьці перакрыты ў большасьці нізкарослай сасной ды чорнай альхой.

## VI. Расьліннасьць поля.

Сюды мы адносім расьліннасьць, зьвязаную з культурнай дзейнасьцю чалавека і таму ня можа быць рэчы аб склаўшыхся згуртаваньнях—іх няма, пераважна флёрыстычны склад поля з дзікіх расьлін—т. зв. пустазельле.

[1]) Улетку 1929 г. вадаперыцы не аказалася ў рэчцы, я не знайшоў яе ніводнага экзэмпляру. Прычыны ня высьветлены. Шырыня рэчкі невялікая ад 0,75 м да 3 м і глыбіня да 0,50 м у сярэднім.

Глебавыя ўмовы ваколіц Махірова—пахаці і пералогаў, мала спрыяюць росту расьлін, бо найбольш распаўсюджана пескавая глеба, часткова падзольная і супяшчаная, калі сюды дадаць, што і падглеба ў большасьці—пясок, то зразумела, што водны рэжым глебы вельмі сьціплы. Як біолёгічных паказчыкаў умоў на выгарках усюды можна знайсьці зарасьнікі расходніка, Sedum acre, гэтага тыповага сухалюба (сукулента), сушаніцу Gnaphalium luteo album, чабор. Ніжэй прыводзіцца сьпіс знойдзеных на палёх і пустырох ваколіц відаў расьлін, як напр.: сьвірэпка, Raphanus raphanistrum, каласоўнік палявы, Chenopodium album, кукаль, Agrostemma Githago, мышэй, Myosurus minimus, валошка, Centaurea cyanus, малачай, Euphorbia virgata, валошка, Centaurea jacea, рамонак лугавы, Chrysanthemum leucanthemum, крываўнік звычайны, Achillea millefolium, зоркаўка, Stellaria graminea, стрэлкі звычайныя, Capsella bursa pastoris, трыпутнік, Plantago lanceolata, вобмарак, Jasione montana, сумнік залацісты, Solidago virga aurea, зарніца, Linaria vulgaris, томка пахучая, Anthoxanthum odoratum, скрыпень вузкалісны, Epilobium angustifolium, мыльнік, Saponaria officinalis, дуброўка, Potentilla argentea, вароніка, Veronica chamaedris, сьвятаяньнік дзіркаваты, Hypericum perforatum, рутвіца звычайная, Lotus corniculatus—на сухіх мясцох, бусельнік Erodium cecutarium, жоўты асот, Sonchus oleraceus і інш.

З культурных расьлін вырастаюць: жыта, авёс, ячмень, пшаніца амаль не дае ўраджаю; наогул збожжавыя культуры даюць вельмі малы эфэкт, дзякуючы неўрадлівай пяшчанай глебе.

У заключэньне прыведзенага вышэй кароткага агляду расьлінных згуртаваньняў мясцовасьці прыходзіцца сказаць, што ён, ня вычэрпвае нават status quo, а тым больш дынамікі прыродных згуртаваньняў, на што патрабуецца шмат часу і інш.

Шпаркае разьвіцьцё колгаснага руху на Беларусі ставіць пытаньне аб падвядзеньні кармавой базы пад жавёлагадоўлю, у гэтай справе з навуковага боку паважнае месца павінна заняць краязнаўчае вывучэньне расьлінных згуртаваньняў мясцовасьці, спробай якога зьяўляецца даны артыкул, як адно з зьвеньняў вывучэньня прыроднавытворчых сіл БССР.

---

П. Белахвостаў.

# Санітарна-бытавы стан вёскі Лазовае, Сьвіслацкі раён, Градзянскі сельсавет, Бабруйская акруга*).

Аб часе ўзьнікненьня вёскі Лазовае дакладна сказаць нельга, сяляне кажуць, што вёска ўзьнікла ня менш як 230—250 год таму назад. Чыгунка знаходзіцца на поўнач ад вёскі ў адлегласьці 2 кілёмэтраў.

У паўкілёмэтра на ўсход ад вёскі знаходзіцца невялічкае балота, якім карыстаюцца сяляне, як сенажацьцю. На поўдні знаходзіцца невялічкі ўзгорак, глебай якога зьяўляецца жоўты пясок (чвыр), у заход-

*) Артыкул пачынаючага краяведа.

няй і поўночнай частцы месца менш роўнае. Вазёр і рэк каля гэтай вёскі няма, за выключэньнем маленькага раўчака Кецкаўкі ў адлегласьці аднаго кілёмэтра на поўнач ад вёскі. Гэты раўчак улетку месцамі перасыхае. Глеба навакол вёскі падзолістая і мае такія напластаваньні: 1) $^1/_2$ мэтра падзолу, а далей гліна, 2) $^1/_3$ мэтра падзолу, адзін мэтар гліны, а далей чвыр (жоўты пясок), 3) $^2/_3$ мэтра падзолу, 1,7 мэтра гліны, а далей чвыр. Аб клімаце мясцовасьці дакладна сказаць нельга, бо нідзе блізка мэтэоролёгічнае станцыі няма; можна толькі адзначыць, што ўлетку выпадае ня надта многа дажджоў, тэмпэратура самая высокая ў ліпні месяцы + 24°С. Узімку сьнегу выпадае не заўсёды многа, самая нізкая тэмпэратура ў студзені — 22,5° С. Увосень выпадае шмат дажджоў. Вясна цёплая.

Вёску абкружае з чатырох старон маладняк (малады лес), які складаецца з бярозы, асіны, лазы, хвойніка і ельніка. На поўначы пераважае хвойнік, на ўсходзе алешнік, а на поўдні і захадзе бяроза. Вёска знаходзіцца ў чатырох кілёмэтрах ад сельсавету, у 25 кілёмэтрах ад раёну і ў 67 кілёмэтрах ад акругі. Усе хаты вёскі знаходзяцца абапал аднае вуліцы, якая мае кірунак з усходу на захад і заходні канец вуліцы адхіляецца к поўдню на 40°. Роўналежна з хатамі вёскі цягнецца яшчэ адзін шэраг хат і называецца „выганам“, а разам асноўная частка вёскі з „выганам“, аддзяляецца выганам (дзе пасецца жывёла), які мае плошчу 75.000 кв. мэтраў. Акрамя гэтага трэба адзначыць, што ад паўднёвай стараны вуліцы адходзіць 11 завулкаў, якія служаць дзеля таго, каб праехаць у гумно. Вуліца нябрукаваная, бяз усякіх насьцілаў, гразкая асабліва ўвосень. Абаронай вёскі ад вятроў зьяўляецца малады лес. Садоў у вёсцы налічваецца 8, з якіх 3 маладыя. Прычым сады невялічкія і ў гаспадарцы прамысловага значэньня ня маюць. З пладовых дрэў разводзяць яблыню, ігрушу, сьліву і ў рэдкім выпадку вішню.

Насельніцтва карыстаецца вадой толькі з студняў, адкрытых вадазбораў каля вёскі няма. Ваду з студняў дастаюць большай часткай вочапамі (жураўлямі), і менш кіямі, у якія ўбіваюцца цьвікі. У вёсцы 16 студняў, з якіх 5 прыватных, 11 грамадзкіх, і толькі адна мае грамадзкае вядро. Ня гледзячы на тое, што студні капаюцца глыбока, вада ўсё-ж-такі амаль-што ва ўсіх студнях дрэнная. Гэта тлумачыцца тым, што няглыбока ляжыць гліна і вада пасьля дажджу, не прасачыўшыся ў глебу, сьцякае ў студні, каля якіх сяляне бяручы ваду, утоптваюць глебу. Студні амаль усе знаходзяцца каля вуліцы, бялізну мыюць каля студні таксама, ніводная студня ня мае крышкі. Адлегласьць студняў адна ад аднэй у сярэднім 32 мэтры.

Будаўнічым матар'ялам студняў зьяўляецца дубовае і бярозавае дрэва, з якога робяць зруб і апускаюць у выкапаную яму. У хаце вада яшчэ больш забруджваецца Калі прынясуць у хату ваду ў бляшаным або ў большым выпадку ў драўляным вядры, дык ставяць на лаву, альбо вядро вешаецца на драўляны крук, прычэплены да столі. Пасудзіна з вадой не прыкрываецца. Адна гаспадарка ўзімку ў дзень ужывае 19 вядзёр вады (у сярэднім), а ўлетку 10 вядзёр. На хатнія патрэбы разыходзіцца 5—7 вядзёр вады.

Усяго насельніцтва вёскі налічваецца 318 чал., з якіх мужчын 197 і жанчын 121. Сямействаў 91. Усе беларусы, акрамя аднэй яўрэй-

скай сям'і (каваль). Лік народжаньняў, сьмярцей, шлюбаў і скасаваньняў іх наступны:

| | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. |
|---|---|---|---|---|
| Нараджэньні | м. | 15 | 11 | 9 |
| | ж. | 12 | 4 | 3 |
| Сьмерці | м. | 8 | 4 | 5 |
| | ж. | 3 | 8 | 6 |
| Шлюбы | | 3 | 7 | 4 |
| Скасаваньне шлюбаў | | 1 | 1 | |

Асноўны занятак насельніцтва земляробства. На пабочныя заробкі ходзяць зімою на лесараспрацоўкі ў Лесбел і лясьніцтва, а ўлетку дзеці ходзяць у лясьніцтва садзіць і чысьціць лес. Саматужнікаў у вёсцы няма.

Усёй ужыткоўнай зямлі: ворнае 322,3 дзесяцін і сенажаці 135,77 дзесяцін, няўжыткоўнай зямлі няма. На чалавека ў сярэднім прыходзіцца ворнае зямлі 1,01 дзесяціны. Вёска бядняцка-серадняцкая. Зямля па колькасьці дзесяцін на двор разьмяркоўваецца так: 1) 6 дзесяцін—21 двор, 2) 11 дзесяцін—57 двароў, 3) 16 дзесяцін—7 двароў, 4) больш 16 дзесяцін—5 двароў. Безьзямельных няма. Вызваленых ад падатку 22 гаспадаркі, плоцяць налог 68 гаспадарак. Усяго налогу вёска ў 1929 годзе плаціла 1387 рублёў.

Зямля апрацоўваецца простым спосабам, севазвароту няма. На зіму вывозяць у поле гной, дзе і скідаюць яго кучкамі, а ўвясну ўзорваюць плугамі, сох няма, і скародзяць (барануюць) большай часткаю бараной з жалезным зуб'ем, але ёсьць у вёсцы 8 гаспадарак, якія да гэтага часу барануюць баронамі з драўляным зуб'ем. Жнуць сярпамі, а калі бывае дрэнны ўраджай, то косяць. Толькі 8 гаспадарак ня мае ўласных плугоў і 3 гаспадаркі ўласных барон. У вёсцы ёсьць адна малатарня, 7 сячкарань і 2 арфы. Жывёлай вёска ня зусім добра забясьпечана. Вёска налічвае: кароў 147, коняй 81, авец 153 і сьвіней 46.

Па заможнасьці сялян вёскі можна падзяліць так: 1) бядняцкіх гаспадарак 17, 2) сярадняцкіх—68, 3) кулацкіх—5.

Коопэратыву няма, акрамя карабейніка, які дастаўляе ў вёску табаку, газу, запалкі і інш. Адзін раз у год на „сьвятое Ільля" бывае ў вёсцы кірмаш, але ён асаблівага значэньня для вёскі ня мае. Сяляне большай часткай езьдзяць на кірмаш у мястэчка Сьвіслач, дзе мяняюць коняй, купляюць калёсы і г. д.

Сядзіба ад сядзібы аддзяляецца частаколам, які робіцца з яловага сучча. Паводле тыпу пабудовы двары падзяляюцца так: двароў пабудаваных двух-шэраговым тыпам—59, літарай П—24 і аднашэраговым тыпам—7. Вольная плошча двароў малая, ня больш, як 970 кв. мэтраў. Двары вёскі Лазовае ўсе брудныя, за выключэньнэм школьнага двара. Самы малы двор мае 2 будынкі і самы вялікі, двор кулака,—4 будынкі, калі ня лічыць гумна, якое знаходзіцца водаль ад двара. Цёплых хлявоў у вёсцы—6. Усе будынкі будуюцца з сасновага, яловага і альховага дрэва. Будуюцца ўсе будынкі, акрамя хаты, на просты кут. Дах у большасьці саламяны, толькі хаты часам крыюцца гонтам, дошкамі і драньню.

Каб захаваць бульбу ў стопцы (варыўні), робяць прызбы, якія засыпаюць кастрыцай, а знутры сьцены абкладаюць саломай і ўзімку ў варыўню (стобку) носяць, у чыгуне, ці вядры, жар і сыплюць яго на зямлю, каб было цёпла і не памерзла бульба.

Усе хаты вёскі Лазовае разьмеркаваны простастаўна вуліцы, акрамя 4 хат, якія стаяць роўналежна вуліцы. Па тыпу пабудовы, хаты можна падзяліць так: чатырохсьценак—19, пяцісьценак—63, хат з дзьвюх палавін—6. Розьніца між імі тая, што ў хаце з дзьвюх палавін 2 пакоі, адзін чысты, а другі брудны, дзе кормяць сьвіней, робяць паранку і г. д. Хата пяцісьценка мае хату і сенцы. Хату-чатырохсьценку будуе бяднейшая частка сялянства. Будаўнічы матар'ял хат хвоя і елка. Будуюць хаты так: укопваюць чатыры штандары ня глыбей $^3/_4$ мэтра і не мялей $^1/_2$ мэтра. На штандары рубяцца вянкі бярвеньня, прычым першы вянок з дубовага дрэва, каб ня так хутка гніў, гэты вянок завецца падрубамі альбо падвалінамі. Рубяць зруб большай часткай у просты кут, ня больш 12 вянкоў і ня менш 10, гэта залежыць ад таго, якой таўшчыні бярвеньне. Між вянкамі кладзецца мох, альбо кастрыца. Дах крыюць большай часткай саломай. Замест каменных падмуркаў, пад зруб падкапваюць сасновыя, ці з іншага дрэва штандары. Падлога робіцца так: на папярочныя падваліны насьцілаюць дошкі гэбляваным бокам уверх і прыбіваюць цьвікамі. Адлегласьць падлогі ад зямлі ня менш 40 см. і ня больш 70 см. Столь робіцца падобна падлозе, з тэй розьніцай, што дошкі кладуцца наверх балак ня шчыльна, а на шчыліну паміж дзьвюх дошак кладуць трэцюю. На столь кладуць мох, альбо лісьце і засыпаюць пяском, каб было цёпла. Хата рэдка падзяляецца перагародкамі на пакоі, а толькі аддзяляецца тая частка, дзе сьпяць кавалкам палатна падвешанага на аборцы і то незаўсёды. Самая вялікая 18×12 мэтраў, самая малая—7×6 мэтраў. Вышыня хаты ад 3 да $3^1/_2$ мэтраў знадворку і ад $2^3/_4$ м да 3-х мэтраў у сяродку. Кубатура найменшай хаты 140 куб. мэтраў (прыблізна) і найбольшай—620 куб. мэтраў. Хаты ў сярэдзіне ня тынкуюцца, а толькі замазваюцца глінай, пазы паміж бярвеньнем і абклейваюць шпалерамі, ці газэтамі. Вокны самыя малыя 60 см × 87 см. і большыя—90 см×120 см, у залежнасьці ад тыпу хаты і яе велічыні робяцца вокны; у большай хаце больш вакон і яны значна большыя, а ў малой хаце менш вакон і яны меншыя. У хаце вакон ня менш 3 і ня больш 10. Форма рам бывае розная. Больш за ўсё вакон у тэй сьценцы, якая ляжыць у двор, менш у тэй, якая мяжуе з вуліцай і зусім няма ў сьценцы, якая мяжуе з суседнім дваром. Каб было цяплей зімою робяцца акяніцы і нанач зачыняюць, а бяднейшая частка сялян нанач вокны закрывае матамі, плеценымі з саломы, або робяцца невялічкія скрынкі, якія закрываюць адну трэць вакна, у гэтыя скрынкі насыпаюць кастрыцу. Хоць гэта добра затрымлівае цяпло ў хаце, затое надта цёмна. Штучным асьвятленьнем зьяўляецца газа (карасін) і часам лучына. Калі ўвойдзеш у хату, то з правага альбо з левага боку, каля дзьвярэй стаіць печ, з простай або паленай цэглы. Калі з простай цэглы, то робяць яе вялікую, бо малая печ хутка можа раскідацца.

Узімку ў хатах холадна. Гэта тлумачыцца тым, што ў хатах чатырохсьценках няма сенцаў і, калі адчынены дзьверы, паветра з двара валіць у хату. З-пад падлогі гэтак сама дуе паветра бо ў падлозе вялікія шчыліны, а надпадложжа і падмуркаў ня робяць. Таксама холаду спрыяе адсутнасьць падвойных вакон.

Абсталяваньне хаты litnymi рэчамі і мэсцапалажэньнем гэтых рэчаў у хаце мае аднольковы выгляд па ўсёй вёсцы. Калі ўвойдзеш у хату, то з правага альбо з левага боку каля дзьвярэй знаходзіцца печ, каля якой, уверсе, зроблены палаткі для спаньня. Пад палаткамі на падлозе стаяць два альбо тры ложкі, у залежнасьці ад колькасьці членаў сям'і. Далей у куце стаіць куфар для хаваньня вопраткі, а калі куфра няма, тады вопратку вешаюць на жэрдцы, падвешанай да столі. У куце над сталом абразы, абвешаныя прыгожымі ручнікамі. Каля стала стаяць, дзьве, тры лаўкі. На сьценцы супроць печы прыбіты невялікі палок на якім знаходзяцца міскі, талеркі, лыжкі, відэльцы і г. д. Ложкі, сталы, лаўкі і іншыя рэчы зроблены самым гаспадаром з сасновага альбо яловага дрэва.

Улетку ў хаце днём знаходзяцца толькі зусім малыя да 6 гадоў і старыя, непрацаздольныя, усе іншыя працуюць на полі. Узімку амаль усе ў хаце, акрамя гаспадара, які езьдзіць на пабочныя заробкі і дзяцей школьнага ўзросту.

Большай часткай сяляне ядуць боршч з капусты і буракоў, бульбу, чорны хлеб, малако і розныя крупнікі. На зіму квасяць капусту, агуркі і памідоры, а буракі і бульбу захоўваць у стопцы (варыўні).

Сьпяць сяляне так: гаспадар з гаспадыняй на адным ложку, якое абвешваецца полагам, а дзеці на печы, альбо на палатцы, падкінуўшы пад бок стары кажух, ці дзяругу. Улетку сьпяць ня больш 5-6 гадзін, а ўзімку 7-8, а то і 9 гадзін.

Мыюцца раніцай перад сьняданьнем, перад абедам і вячэрай мыецца толькі гаспадар, які, працуючы на полі, вельмі забруджваецца. У месяц два разы, а то нават і адзін раз мыюцца ў лазьні, у якой надта брудна, бо яна адначасова зьяўляецца памяшканьнем, дзе мнуць лён.

У хаце селяніна вёскі Лазовае брудна з тае прычыны, што тут кормяць сьвіней, трымаюць цялят, робяць паранку і г. д. Хаты мятуць ураньні, але не заўсёды, а ўвечары мятуць хату бадай кожны дзень. Мыюць падлогу амаль кожную суботу. А такое прыбіраньне хаты, як выцерці павуціньне, пасьціраць пыл і г. д. то гэта робіцца рэдка, найчасьцей перад гадавымі сьвятамі. У хатах сустракаюцца прусы, мухі і інш. брыдота, таму што на стале застаецца хлеб і брудныя лыжкі і міскі.

Жэняцца прыблізна ў 18 гадовым узросьце. Пры родах бывае „бабка“.

Дзеці гадуюцца ў дрэнных умовах. Часта старэйшыя дзеці няньчаць меншых. Маломy дзіцяці даюць „суслу“, якую робяць з хлеба пажаванага з цукрам.

Працу сялян можна падзяліць на два віды, праца на полі і ў гаспадарцы (двары). Да першага віду працы належыць уся праца на полі, да другога—кармленьне жывёлы, нарыхтоўка на зіму дроў, пачынка сельска-гаспадарчага інвэнтару, малацьба і г. д. Падросткі працуюць нараўне з дарослымі.

Даць лічбы аб хвараблівасьці насельніцтва нельга, бо блізка няма мэдпунктаў. У сельсавеце па кнізе сьмяротнасьці адзначана, што хваробы, ад якіх памерлі, наступныя: сухоты, шкарлятына, запаленьне мазгавой абалонкі, запаленьне лёгкіх.

Вёска не забясьпечана мэдыка-санітарнай дапамогай. Фэльчароў і акушэрак блізка няма. Сяляне ўжываюць ад хвароб розныя зельлі. Ад сухот п'юць „жывасіл", смалу настоеную на гарэлцы. Ад парэзаў ужываюць „пупышкі" з бярозы, настоеныя на гарэлцы (называецца „бярозка"), альбо парашок сушанай дзеразы. Калі баляць зубы, то зьбіраюць расьліну „дурнап'ян".

Зерні дурнап'яну абліваюць гарачай вадой і над парам расчыняюць рот, каб пар пападаў на зубы. Акрамя гэтых ужываецца шмат іншых зельляў.

Пісьменных у вёсцы Лазовае мала. Да Кастрычнікавай рэвалюцыі ніякай магчымасьці вучыцца ня было, бо ня было школы. У 1923 годзе купілі памяшканьне і адчынілі школу. Ёсьць 1 настаўнік на 4 групы, у якіх налічваецца 61 вучань. Школа абсталявана дрэнна. Дзеці праводзяць час у школе з 10 гадзін раніцы да 2 гадзін дня. Гутарак з вучнямі аб гігіене здароўя і т. п. настаўнікам не праводзілася. Мэдычнага агляду ня было.

Ёсьць 8 комсамольцаў, якія ня прымаюць актыўнага ўдзелу ў паляпшэньні санітарна-бытавога стану вёскі.

Сяляне выпісваюць наступныя газэты: 1) „Чырвоная Зьмена", 2) „Камуніст", 3) „Савецкая Беларусь", 4) „Беларуская вёска" і ў рэдкім выпадку часопісы: „Лапоть", „Крокодил". Хаты-чытальні альбо клюбу ў вёсцы няма.

---

# ХРОНІКА.

## Вынікі IV Полацкай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

IV Полацкая Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя адбылася 23-24 красавіка 1930 г. Асноўнаю мэтаю конфэрэнцыі зьяўлялася абгаварэньне пастановы ЦБК і прэзыдыуму Акадэміі Навук аб структурнай рэарганізацыі краязнаўчых аб'яднаньняў і арганізацыі далейшай працы па асноўных вузлавых пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыя, колектывізацыя і соцыялістычная культура). На конфэрэнцыю зьявілася 73 прадстаўнікі ад розных краязнаўчых арганізацый Полаччыны. Павестка конфэрэнцыі была наступная: 1) Чарговыя задачы краязнаўчай працы (Старшыня ЦБК т. Казак), 2) Справаздача Акр. Праўленьня за 2 гады (т. Мялешка), 3) Садаклад Рэвізійнай Камісіі (т. Гунько), 4) Справаздача Асьвейскага раён. т-ва (ня была заслухана з прычыны таго, што прадстаўнік Асьвейшчыны спазьніўся на конфэрэнцыю), 5) Выбары Акр. Праўленьня і Рэўкамісіі.

Па першаму дакладу старшыня ЦБК т. Казак завойстрыў увагу конфэрэнцыі на пытаньні перабудовы краязнаўчай працы ў напрамку садзейнічаньня выкананьню пяцігадовага пляну.

Дакладчыкам адзначалася, што сучаснае краязнаўства рэзка адрозьніваецца ад краязнаўства дарэволюцыйнага сваім клясава-пролетарскім зьместам, што савецкае краязнаўства ёсьць шырокі грамадзкі рух, асноўнымі прынцыпамі якога павінны быць—плянавасьць, масавасьць, колектыўнасьць і добраахвотнасьць; што краязнаўчыя арганізацыі ў далейшым павінны ўзяцца за вывучэньне прамысловасьці, соцыялістычнага земляробства і соцыялістычнай культуры, шырока ўжываючы агульныя мэтоды соцыялістычнага будаўніцтва як самакрытыку, гэтак і соцыялістычнае спаборніцтва.

На конфэрэнцыі даволі шырака была разгорнута крытыка і самакрытыка дзейнасьці краязнаўчых аб'яднаньняў, пачынаючы з краязнаўчага гуртка і канчаючы ЦБК. Выступаўшымі ў спрэчках былі адзначаны наступныя недахопы: 1) слаба праводзілася популярызацыя ідэй краязнаўства сярод працоўных мас і спэцыялістых; 2) у краязнаўчую працу ня ўцягнуты рабочыя, сяляне-колгасьнікі і спэцыялістыя.

3) Абсолютная большасьць членаў краязн. арганізацый зусім пасыўны; працуе толькі невялічкі краязнаўчы актыў (10 — 15 %). 4) некаторыя ўстановы і арганізацыі, як у раёнах, так і ў акрузе недаацэньваюць працы краязн. таварыстваў. 5) У працы некаторых краязн. арганізацый ня было ўвязкі з сучаснасьцю. 5) Краязназнаўчы рух мае стыхійны характар і ЦБК толькі ў агульных рысах дае напрамак усёй працы, не конкрэтызуючы яе. 7) Некаторыя програмы па вывучэньню мясцовага краю патрэбна пераапрацаваць у адпаведнасьці з сучаснасьцю 8) Навуковыя працаўнікі - дасьледчыкі, якія прыяжджаюць на Полаччыну для вывучэньня экономічных рэсурсаў акругі ня зьвязваюцца з акр. праўленьнем і аб сваіх дасьледваньнях не паведамляюць мясцовыя гаспадарчыя органы. 9) Акр. Музэй працуе слаба, шмат якіх экспонатаў не хапае; ня ўсе экспонаты запісаны ў інвэнтарную кнігу. 10) Адсутнасьць плянавасьці ў працы некаторых краязн. арганізацый. 11) Поўная адсутнасьць соц. спаборніцтва паміж раённымі краязн. арганізацыямі. 12) Адсутнічае крытыка і самакрытыка ў краязн. арганізацыях. 13) недахоп сродкаў у акр. праўленьні і поўная адсутнасьць матар'яльнай базы ў раёнах не дае мажлівасьці шырака разгарнуць працу па вывучэньню края. 14) Перагружанасьць краязнаўчага актыву, асабліва членаў праўленьняў, іншымі відамі грамадзкай працы.

На конфэрэнцыі была прынята наступная рэзолюцыя:

„Заслухаўшы даклад старшыні ЦБК т. Казака на тэму: „Чарговыя задачы краязнаўчай працы" і справаздачу Акр. Праўленьня т-ва краязнаўства за 2 гады (1/III-1928 г.—23/IV-1930 г.), IV Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя адзначае, што ня гледзячы на правільную ўстаноўку краязнаўчага руху, прынятую яшчэ I і II Усебеларускімі зьездамі, як сродку дапамогі ў

справе социялістычнага будаўніцтва, краязнаўчая справа, як у БССР, так і ў прыватнасьці на Полаччыне стала адставаць ад агульных тэмпаў соц. будаўніцтва, што ў частковасьці можна тлумачыць існаваўшай да гэтага часу структурна-організацыйнай пабудовай краязнаўчае сеткі.

Конфэрэнцыя адзначае своечасовым пастанову ЦБК і Прэзыдыуму Акадэміі Навук аб структурнай рэорганізацыі краязнаўчых аб'яднаньняў і організацыі далейшай працы па асноўных вузлавых пытаньнях соц. будаўніцтва (індустрыялізацыя, колектывізацыя і социялістычная культура).

У далейшым конфэрэнцыя лічыць неабходным перабудаваць працу ўсіх організацый акругі ў вызначаным кірунку, гэта значыцца, там, дзе існуе падзел на сэкцыі, організаваць наступныя сэкцыі: прамысловасьці, соц. земляробства і школьную, а там, дзе няма падзелу на сэкцыі, таксама ў аснову пакласьці гэты прынцып.

У мэтах паляпшэньня краязнаўчае справы, IV Полацкая Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя пастанаўляе:

1) Усім краязнаўчым організацыям Полаччыны ў далейшай сваёй працы ўзяць рашучы курс у справе пераводу ўсяе краязнаўчае сеткі на новы напрамак, у бок організацыі вытворчага краязнаўства.

Асноўнымі пытаньнямі краязнаўчае працы лічыць наступныя: а) вывучэньне пытаньняў, зьвязаных з індустрыялізацыяй краіны; б) вывучэньне энэргетычных рэсурсаў; в) вывучэньне колгасаў, колгасруху і гісторыі барацьбы за ўтварэньне калгасаў; г) вывучэньне паасобных проблем падвышэньня вытворчасьці сельскае гаспадаркі; д) вывучэньне экономраёнаваньня і экономічнага стану раёну; е) вывучэньне вытворчых прыродных сіл; ж) вывучэньне рэволюцыйнага руху і зьбіраньне матар'ялаў да 10-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў і да 25 гадавіны рэволюцыі 1905 г.; з) вывучэньне праяў новага быту; і) вывучэньне бязбожніцкага руху.

2) Тэму — вывучэньне і дасьледваньне колгаснага руху зрабіць абавязковай для ўсіх краязнаўчых організацый Полаччыны. 3) Адзначаючы недакладнасьць падліковага матар'ялу аб стане краязнаўчае справы ў акрузе лічыць патрэбным правесьці перарэгістрацыю членаў да 1 чэрвеня, а ўзімку к 1 студзеня 1931 г. правесьці падлік стану краязнаўчае справы па ўсіх раёнах Полаччыны. Пры правядзеньні перарэгістрацыі ўлічыць выяўленьне клясавага твару складу краяведаў і ачысьціць краязнаўчыя організацыі ад чужых і варожых элемэнтаў. 4) Організаваць краязнаўчыя гурткі на больш буйных прадпрыемствах (гута „Працы"і цагельня і інш.), а таксама ва ўсіх буйных колгасах акругі. 5) Краязнаўчыя організацыі павінны ў далейшай сваёй працы шырока ўжываць мэтод соц. спаборніцтва, уносячы ў об'екты соц. спаборніцтва найбольш актуальныя пытаньні, выходзячы з мясцовых умоў. 6) Разгарнуць крытыку і самакрытыку краязнаўчае дзейнасьці як на сходах і конфэрэнцыях па краязнаўству, гэтак і ў друку, выяўляючы ўсе недахопы ў працы. 7) У тых раёнах, дзе няма краязнаўчых музэяў— прыступіць да організацыі апошніх. 8) Усім краязнаўчым організацыям прыняць актыўны ўдзел у Усебеларускай Выстаўцы Сельскае гаспадаркі і прамысловасьці як працаю ў раён. выставачных камісіях, гэтак і па адбору адпаведных матар'ялаў. 9) Даручыць новаму Акр. Праўленьню распрацаваць пяцігадовы плян краязнаўчае працы на Полаччыне, уключыўшы яго ў агульны плян па соц. будаўніцтву. 10) Прасіць Акрвыканком адпусьціць сродкі на выданьне краязнаўчага зборніка. 11) Забясьпечыць матар'яльна працаўнікоў Акр. Краязн. Музэю. 12) Паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб прысьпяшэньні з рамонтам акр. музэю з мэтаю як найхутчэйшага наладжаньня працы музэю. 13) Лічыць патрэбным на сучасным этапе будаўніцтва надаць большую цэнтралізаванасьць па ўсёй краязнаўчай сетцы ў межах акругі. 14) Зьвярнуць належную ўвагу на падрыхтоўку кадраў краяведаў праз організацыю кароткатэрміновых курсаў і сэмінарыяў па краязнаўству, а таксама шляхам абслугоўваньня раённых мэтодычных конфэрэнцый пытаньнямі краязнаўства 15) Прыняць меры да большага пашырэньня часопісу „Наш Край".

У канцы конфэрэнцыі адбыліся выбары Акр. Праўленьня і Рэўкамісіі. У Акр. Праўленьне ўвайшлі наступныя т. т. 1) Меляшкевіч, 2) Мялешка, 3) Жыгуноў (акр. колгассаюз), 4) Лічко (Акрза), 5) Гольдзін, 6) Ішурын, 7) Сапега (А. К. КСМ), 8) Мятла (АБПС), 9) Энціна, 10) Гранкоўскі, 11) Дадон. Кандытатамі: 1) Урбан, 2) Голад, 3) Дземашоў. У Рэўкамісію ўвайшлі наступн. т. т. 1) Корсак, 2) Палашчанка, 3) Паўлючонак.

Конфэрэнцыя прайшла даволі жыва. Конфэрэнцыя добра ўявіла сутнасьць усіх тых чарговых задач, якія стаяць перад нашымі краязнаўчымі організацыямі ў пэрыод рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. У гарадзкой організацыі Полацкага Акр. Т-ва Краязнаўства зараз-жа пасьля конфэрэнцыі згодна пастановы конфэрэнцыі, была праведзена структурная рэорганізацыя. Заміж існаваўшых 3 сэкцый: прыродна-географічнай, культурна-гістарычнай і грамадзка-экономічнай утвораны наступныя сэкцыі: прамысловасьці, социялістычнага земляробства і школьная, а таксама 2 камісіі: па вывучэньню рэволюцыйнага руху і антырэлігійная.

Кіраўнікам сэкцый і камісій даручана на працягу 10 дзён скласьці пляны працы і прадставіць іх на разгляд і зацьверджаньне Акр. Праўленьня.

С. Мялешка.

## Бабруйскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

З гэтага году праца Т-ва прыкметнаа палепшылася ў сувязі з вызначэньнем некатторай субсыдыі Т-ву ад АВК. Т-ва зьвязалася з Акруговым Выстаўкомам, Саюзам Паляўнічых і мясцовымі школамі і наладзіла сувязь з раённымі краязнаўчымі арганізацыямі. Для Ўсебеларускай Выстаўкі Т-ва вызначыла сабраць шэраг экспонатаў і з гэтай мэтай у Слуцак накіравала свайго прадстаўніка. Сувязь з школамі і асьветніцкімі масамі выявілася ў тым, што ў праграму пэдкурсаў было ўключана і краязнаўства (8 гадз.), на курсах хатнікаў і трактарыстаў таксама былі зачытаны лекцыі на тэму „Палітасьветная праца і краязнаўства“, была праведзена нарада кіраўнікоў школьна-краязнаўчых гурткоў, вынікам чаго можна заўважыць ажыўленьне школьна-краязнаўчага руху: у некаторых школах (№ 6, 1) пачалі выходзіць краязнаўчыя рукапісныя часопісы, арганізаваліся вучнёўскія тройкі, якія паводле апрацаваных Т-вам апытальнікаў, дадуць матар'ялы для апісаньня г. Бабруйску—прамысловасьць, гістарычныя моманты, рост гораду і г. д. Нечакана для Т-ва такая праца выявіла шмат невядомых здымкаў старога Бабруйску. Т-ва тэрмінова рыхтуе выдаць зборнік. Асноўныя матар'ялы для зборніка: 1. Лясы Бабруйшчыны. 2. Колгасны рух у акрузе. 3. Прамысловасьць Бабруйску і акругі. Аб лясох і колгасным руху большасьць матар'ялаў ужо сабрана.

## Бабруйскі Акруговы Краязнаўчы Музэй.

Музэй увесь час папаўняецца. Шмат новых модэляў заводаў, больш поўна экспанавана продукцыя заводаў, організаваны новы куток археолёгіі акругі на падставе раскопак, папоўнен аддзел фаўны экспонатамі кураводзтва, больш сыстэматычна паказаны санітарны аддзел і карысныя выкапні, досыць поўна пачалі зьбірацца шкоднікі расьлін, жывёл і г. д. Музэй мае намер організаваць пры музэі мэтстанцыю, закласьці паказальныя вучасткі паляводзтва, ілюстраваць у натуральным стане жыцьцё шкоднікаў і зрабіць шмат іншых прац ляборатарна-дасьледчага характару. Усе гэтыя пляны Музэю асноўнай перашкодай маюць адсутнасьць патрэбнага памяшканьня. Музэй падаў мотываваную заяву ў АВК аб адводзе новага памяшканьня для музэю і калі заява ня знойдзе выражэньня музэйная праца ў Бабруйску ня будзе разьвівацца і нават можа прысьці да заняпаду. У цяперашнім памяшканьні Музэй задыхаецца. Кожны дзень яго наведваюць некалькі экскурсій між тым нават экскурсію ў 20 чал. цяжка правесьці па Музэю і ўсё паказаць ці растлумачыць. За 7 месяцаў з кастрычніка 1929 г. па красавік 1930 г. у Музэі перабывала прыблізна 20000 чалавек—лічба неверагодная, якая прымушае спэцыяльна зацікавіцца рольлю нашых музэяў у культасьветнай працы і рольлю Бабруйскага музэю ў гэтым напрамку ў прыватнасьці.

Мы прыводзім статыстыку экскурсій у Бабруйскі Музэй з 1/X—29 да 1/V—30.

| Месяцы | НАЗВА ЭКСКУРСІЙ: Школы | Вячэрн. школы | Раённыя школы | Лік-пункты | Кур-санты | Чырвона-армейцы | Сяляне | Усяго экскурсій | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. Кастрычнік | 41 | 1 | — | — | — | — | 1 | 43 | Кожная экскурсія лічыцца прыблізна ў 40 асоб. Такім чынам усяго за паказаны тэрмін прайшло 19120 экскурсантаў. |
| Лістапад | 31 | 1 | 1 | — | 3 | 4 | — | 40 | |
| Сьнежань | 57 | 4 | — | 14 | 3 | 14 | — | 92 | |
| 1930 г. Студзень | 40 | 7 | 1 | 8 | 1 | 25 | 2 | 84 | |
| Люты | 58 | 5 | — | 14 | 4 | 2 | — | 83 | |
| Сакавік | 35 | 6 | 2 | 9 | 6 | 5 | — | 63 | |
| Красавік | 42 | 4 | — | 9 | 12 | 6 | — | 73 | |
| Усяго | 304 | 28 | 4 | 54 | 29 | 56 | 3 | 478 | |
| | 63,5% | 6% | | 11% | 6% | 12% | | | |

## Жлобінскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

Асноўнае заданьне працы Т-ва ў бягучы час ёсьць складаньне апісаньня колгасу „Расьсьвет-Пераможца“. Т-ва накіравала ў гэты колгас экспэдыцыю некалькіх сяброў Т-ва (Сушкевіч, Жылінская, Ляндэрс, Івашын і інш.) і даручыла ім сабраць матар'ялы экономічнага, прыродна-географічнага і культурна-гістарычнага характару аб жыцьці колгасу. Цяпер Т-ва амаль скончыла гэту працу. Зроблены фотоздымкі. Апісаньне кол-

гасу прызначаецца для зборніку Бабруйскага Акруговага Т-ва Краязнаўства і для Ўсебеларускай Выстаўкі Прамысловасьці і С. Г. Іншая праца, якую робіць Т-ва: 1) два разы ў месяц рэгулярна абсьледуюцца базары ў Жлобіне і коопэрацыя, 2) падрыхтоўваецца падрабязная карта ўсіх насялёных пунктаў раёну, 3) вывучаюцца 2 возеры, вядуцца рэгулярна фэннагляданьні, запаўняюцца анкеты, якія дасылаюцца рознымі інстытуцыямі БАН.

Пад кіраўніцтвам Т-ва працуе гурток краязнаўства пры 7-цы. Гурток падзяляецца на групы: 1) колгаснага руху, 2) с. гаспадаркі, 3) мэтэоролёгіі і фэнолёгіі, 4) гісторыі Жлобіна, 5) слоўнікавая.

У кожнай групе кіраўнік з вучняў, кожная група на гуртковыя заняткі зьбіраецца асобна і раз у тыдзень усе групы зьбіраюцца разам.

## Рагачэўскае раённае Т-ва Краязнаўства.

Бягучая праца Т-ва: 1) экскурсія ў комуну „Іскра“ ў мэтах яе апісаньня, 2) экскурсія ў сады Рагачэву для вывучэньня шкоднікаў саду, 3) організацыя на працягу лета сталай выстаўкі краязнаўчых матар'ялаў Т-ва. Апрача гэтага Т-ва заклала ботанічны пітомнік і рабіла пасадку некаторых расьлін ў мэтах вывучэньня іх акклiматызацыі (морва, бавоўна і інш.) Удзел у працы Т-ва прыймае і мясцовы пэдагог Руткоўскі, у якога ёсьць дасьледчы вучастак. Там культывуецца да 60 кустоў вінаграду, амэрыканскі агрэст (не баіцца „Мучнянай расы“), пэрсікі, абрыкосы, мандарыны, ягадныя кусты „рандэля“ і інш. Т-ва па гораду правяло перарэгістрацыю сяброў Т-ва і цяпер у Рагачэве налічваецца 50 сяброў Т-ва.

## Гарадзецкае Т-ва Краязнаўства пры Рагачэўска-Жлобінскім агракомбінаце.

З часу свайго заснаваньня (у канцы 1929 г.) Т-ва зрабіла такую працу: 1) мае геоботанічную карту свайго раёну, 2) глебавую карту, 3) карту шчыльнасьці насяленьня, 4) карту намечаных фэрм агракомбінату, 5) сабрала статыстычныя весткі аб 2 сельсаветах, 6) сабрала друкаваныя матар'ялы (газэты, часопісы, брошуры, лістоўкі, адозвы і г. д.) па гісторыі організацыі комбінату, 7) склала сьпіс і зрабіла апісаньне ўсіх культасьветных устаноў раёну, 8) правяло перапіс адпаведных узросных груп для правядзеньня ўсеагульнага навучаньня, 9) сабраны протоколы некаторых колгасьніцкіх сходаў, 10) апісала колгас „Ветачку“ (цяпер мала членаў у ім, 11) сабрала матар'ялы чысткі колгасаў, 12) даручыла некаторым сябром колгасаў весьці дзеньнік колгаснага будаўніцтва і г. д.

З організацыйнага боку Т-ва правяло наступную працу: організавала ў в. Сьвятым, Рыскове і Сьвержані краязнаўчыя гурткі, дабілася ад сельсавету адводу пакою для будучага краязнаўчага музэю і г. д.

## Праца гуртка Натуралістых пры Барысаўскім Педтэхнікуме.

У сакавіку г/г. споўнілася 5 год краязнаўчай працы гуртка натуралістых пры Барысаўскім Пэдтэхнікуме. На працягу гэтага часу праводзілася вывучэньне мясцовай флёры і фаўны, а таксама вяліся мэтэоролёгічныя (пры Тэхнікуме ёсьць ст. II разраду) і фэнолёгічныя нагляданьні. Дасьледчая праца праводзілася пераважна вясной, улетку (на час вакацый сябром даручалася самастойная праца) і ўвосень. У зімовы час вялася апрацоўка і сыстэматызацыя сабранага матар'ялу і ставіліся даклады на прыродазнаўча-навуковыя і краязнаўчыя тэмы. Узімку часта праводзілася экскурсіі па вывучэньні аселых і зімуючых птушак. Значная ўвага зьвярталася на пытаньні аховы прыроды. У час вакацый сябры гуртка праводзілі па вёсках даклады, гутаркі аб ахове расьлін, карысных жывёл і птушак. У сакавіку 1927 г. па ініцыятыве і актыўным удзеле сяброў гуртка ўсімі школамі Барысава быў праведзены масавы „дзень птушкі“, у час якога было разьвешана ў садох і парках гораду каля 300 шпакоўніц і дуплянак. Гэта была першая ў г. Барысаве „вылазка“ конкрэтнай грамадзка-карыснай працы ў справе прываблiваньня птушак у нашы сады і гароды. З гэтага часу амаль кожны год школы і піянэр-атрады сталі праводзіць „дні птушак“, а вучнёўская моладзь пачала больш свядома і ашчадна адносіцца да карысных птушак.

Праца гуртка праводзілася пераважна пад пунктам гледжаньня грамадзка-карыснай працы. Так па энтомолёгіі вывучаліся шкоднікі сельскай гаспадаркі. Для гэтага аддзелу сабраны колекцыі шкоднікаў гароду, саду, лесу. Па флёры вывучалася пустазельле гародаў і палёў. Сабраны гэрбары лекавых расьлін, лугавых траў, пустазельляў і гэрбары флёры Барысаўшчыны наогул.

Значнае месца ў працы гуртка займала вывучэньне мясцовых птушак, якое праводзілася шляхам непасрэдных назіраньняў і экскурсій. У зімовы час сябрамі гуртка вялася падкормка птушак. За 1928-29 г. закальцавана 14 відаў розных птушак, весткі аб якіх дасылаліся ў Ц. Б. Ю. Н. (Масква), адкуль былі атрыманы кольцы.

Акрамя таго, за ўвесь час сабрана каля 50 месячных мэтэоролёгічных нагляданьняў, 30 гідролёгічных і 400 фэнолёгічных нагляданьняў. Усе гэтыя матар'ялы рэгулярна дасылаліся ў Менск (Ц. Б. К. Белгеофіз), Ленінград (Ц. Б. К., Геофізычная Обсэрваторыя, Гідролёгічный Інстытут) і Кіеў (толькі

мэтэаролёгічныя нагляданьні). Некаторыя з іх друкаваліся ў Ленінградзкіх часопісах („Краеведение" № 3, 1928 г., Бюллетень Геофизики и Фенологии № 34, 1929 г.) у часопісе „Наш Край" (№ 8-9, 1927 г., № 12, 1929 г.) і „Наш Раён" (г. Барысаў, № 1, 2—1928).

Фэнолёгічныя нагляданьні апрацаваны, выведзены сярэднія і межныя даты зьяў (самыя раньнія і самыя позьнія) за 5 гадоў. У выніку складзены „Каляндар прыроды Барысаўшчыны", у якім ёсьць шмат зьяў сельска-гаспадарчага значэньня.

Мэтэаролёгічныя нагляданьні таксама апрацаваны і нарыхтаваны шэраг табліц, дыяграм, графікаў, якія характарызуюць клімагычныя асаблівасьці Барысаўшчыны.

Адносіны сяброў гуртка да працы былі сур'ёзныя, праца выконвалася сумленна і старанна. Асабліва дружна ішла праца ў першыя гады, калі студэнцтва было больш вольна і мела меншую грамадзкую нагрузку.

Свой невялічкі 5-гадовы юбілей гурток адзначыў выстаўкай сабраных за гэты час матар'ялаў. Выстаўка ставіла сваёй мэтай папулярызаваць сярод вучнёўскай моладзі ідэю краязнаўчага вывучэньня і аховы мясцовай прыроды.

На выстаўцы былі прадстаўлены наступныя аддзелы: 1) Расьліны, 2) Карысныя і шкодныя ў сельскай гаспадарцы птушкі (чучалы), 3) Ахова птушак, 4) Шкодныя ў сельскай гаспадарцы кузуркі, 5) Жыцьцё бабра на Барысаўшчыне і 6) Мэтэаролёгія і фэнолёгія.

У першым аддзеле быў выстаўлены гэрбары расьлін, якія маюць экономічнае значэньне для чалавека (лекавыя расьліны, лугавыя травы, пустазельле нашых гародаў і палёў) і гэрбары флёры Барысаўшчыны наогул.

З жывых расьлін былі прадстаўлены некаторыя віды раньняй веснавой флёры, як, напрыклад, пралеска (Hepatica triloba), падбел, (Tussilago farfara) сон (Pulsatilla patens) курасьлеп (Anemone nemorosa), якія к часу выстаўкі зацьвілі ў кутку жывой прыроды.

У аддзеле „Карысныя і шкодныя птушкі" былі выстаўлены чучалы 84 відаў мясцовых птушак, а з жывых арол-бэркут. Гэты аддзел найбольш зацікавіў экскурсантаў — вучняў. Тут выявілася, як мала ведаем мы сваіх пярнатых сяброў, лепшых барацьбітоў з ворагамі сельскай гаспадаркі. На запытаньне кіраўніка выстаўкі аб значэньні соў, экскурсанты адказваюць: „совы-драпежнікі, хватаюць курэй, іх трэба зьнішчаць"... Шляхам адпаведных тлумачэньняў упэўніваюцца, што сава ня шкодная, а карысная птушка, бо яна зьнішчае шмат дробных грызуноў. Усе просяць паказаць салаўя..., ніколі ня бачылі. Кіраўнік паказвае... Гледачы расчараваны. Такі мастак-пявун, а з надворнага выгляду самы звычайны, шэранькі. Сыпіцца шмат запытаньняў... Доўга стаяць гледачы і жвава дзеляцца ўласнымі назіраньнямі над тэй ці іншай птушкай. А вось у вальеры арол-бэркут. Тут вялікі натоўп. Усе хочуць добра разглядзець моцную дзюбу, страшэнныя загнутыя капцюры. Арол спачатку добрадушна глядзіць на дзетвару, а потым пачынае крыху хваляваіца і размахвае сваімі даўжэннымі крыламі.

Тут-жа былі разьвешаны мастацка выкананыя лёзунгі („Птушкі—лепшыя барацьбіты з ворагамі сельскай гаспадаркі" і „Ахоўвайце птушак" і інш.).

У аддзеле „Шкоднікі сельскай гаспадаркі" былі выстаўлены сабраныя сябрамі гуртка біолёгічныя колекцыі шкоднікаў лесу, саду, гароду, а таксама колекцыі матылёў і жукоў Барысаўшчыны наогул.

У аддзеле „Ахова птушак" былі выстаўлены ўзоры дуплянак, шпакоўніц, хатак для сініц, мухаловак, некалькі модэляў столікаў і хатак для падкормкі птушак узімку, а побач з імі адпаведныя лёзунгі: „Сініцы прыносяць вялікую карысьць нашым садам. Падкармлівайце іх узімку".

У нявялічкім аддзеле „Бабры на Барысаўшчыне" былі прадстаўлены чэрап бабра (забітага браконьерамі ў Дзяржаўным паляўнічым заказьніку 16/VIII 29 г.), яго хвост, пагрызаныя кавалкі лазы, фотоздымкі бабровых хат, малюнкі бабра.

З сысуноў былі выстаўлены чучалы зайца, труса, тхара і вожыка. У аддзеле мэтэаролёгіі і фэнолёгіі былі разьвешаны дыяграмы, графікі і малюнкі, якія характарызуюць мясцовы клімат: колькасьць ападкаў, тэмпэратура, колькасьць ясных і хмарных дзён, вышыня сьнегавога насьцілу, першыя і апошнія маразы, сьнег; стан веснавога роўню вады ў р. Бярэзіне (за 4 гады).

Па фэнолёгіі—каляндар прыроды Барысаўшчыны, табліцы першых і апошніх навальніц у годзе, замярзаньне, узьніманьне р. Бярэзіны і інш.

Выстаўка цягнулася з 23 сакавіка да 1 красавіка. Усяго наведала выстаўку каля 2000 чалавек, з іх 1817 ч-к вучняў школ г. Барысава і Н.-Барысава, а рэшта настаўнікі гораду і раёну (у апошні дзень выстаўкі адбылася Раённая Настаўніцкая Конфэрэнцыя).

Частка экспонатаў выстаўкі перададзена ў Раённы Краязнаўчы Музэй.

С. Н.

# „Дзень лесу" ў Н.-Бавысаве.

Дзень лесу быў праведзены 20/IV не выпадкова. Да гэтага дня былі падрыхтаваны. Неабходна прызнаць, што прапанова ВООП правясьці „Дзень птушкі", „Дзень лесу", зрабілі свой уплыў на псыхіку маладых ахоўнікаў прыроды, якія паставілі задачу выканаць прапанову.

Якраз у гэты час адчынілася шырокае поле дзейнасьці з пераходам 7 школы ў новы будынак і злучэньнем дзьвюх сяміго-

дак—7 і 8—у адну. Колькасьць вучняў павялічылася ў два разы. Новы будынак школы—адзін з лепшых школьных будынкаў у Барысаве. Вучні рашылі, што трэба прыўрочыць да „Дню лесу“ закладку батанічнага школьнага садзіку.

19/IV быў масавы выхад у вёску вучняў для антырэлігійнай пропаганды. Начавалі ў вёсцы. У 8 гадзін раніцы 20/IV вучні накіраваліся ў лес па жывы матар'ял, але як ісьці трэба было далёка, то капаць дрэвы выклікаліся сапраўдныя ахоўнікі прыроды, а апошнія пайшлі да школы, каб па прыходзе з дрэўцамі пасадзіць іх.

Матар'ял давялося шукаць за 12 кілёмэтраў ад гораду. Вярнуліся ў 3 гадзіны дня. Дадатковы матар'ял атрымалі ў лясьніцтве. Усяго пасаджана 120 дрэў і 2.000 кустоў акацыі. Пераважна пасаджаны ліпы, клёны, бярозы, рабіны, чарэмха, ясені, каштаны, тапалі, асіны.

У. Уладзіміраў.

## Укладаньне правадніка па БССР і апісаньне экскурсійных маршрутаў.

Экскурсійна-краязнаўчы рух шырока разгортваецца саматугам. Да апошняга часу няма яшчэ распрацаваных маршрутаў экскурсій па БССР. Каб зьнішчыць гэты недахоп, ЦБК згодна пастанове зьезду організавала ўкладаньне такіх маршрутаў, прапанаваўшы паасобным краязнаўцам і краязнаўчым організацыям прадставіць апісаньне маршрутаў экскурсій па іх краёх не пазьней 1 верасьня 1930 г.

Прымаючы пад увагу важнасьць пытаньня, трэба ня спыніцца нават перад затратай пэўных сродкаў на выдаткі па ўкладаньню апісаньня маршрутаў, якія трэба пастарацца атрымаць ад АКРІНА і Культаддзелу АСПС, якія таксама вельмі зацікаўлены ў гэтым апісаньні. Укладаньне апісаньня ЦБК раіць організацыям даручыць аднаму-двом сябром, але такім, якія бязумоўна выканаюць яго. За ўсімі даведкамі адносна спосабаў і зьместу апісаньня трэба зварачацца ў ЦБК.

Апісаньне маршруту павінна ўключаць наступныя моманты:

а) даведачны матар'ял: месцы прыпынку і харчаваньня з цэнамі, цэны пераездаў па чыгунцы, параплаве, коньмі і г. д., музэі і інш., што заслугоўвае агляду;

б) апісаньне гарадоў, што спатыкаюцца на шляху маршруту. Тут даецца: 1) характарыстыка гораду, як цэнтру эканомічнага, політычнага і культурнага; 2) кароткая гістарычная даведка; 3) маршруты экскурсій па гораду з апісаньнем усяго шляху і цікавага па ім, тыповага ў краязнаўчым стасунку і асабліва такога, што паказвае факты соцыялістычнага будаўніцтва (для малых гарадоў і мястэчак даецца адзін маршрут і яны характарызуюцца больш сьцісла), 4) пералік асобных раёнаў, месц, асобных будынкаў, а таксама маляўнічых відаў, якія цікава паглядзець экскурсанту (з кароткай характарыстыкай іх);

в) у апісаньні шляху і паселішчаў на ім павінен быць асабліва падкрэсьлены матар'ял, што характарызуе наша будаўніцтва.

Апрача таго, трэба пералічыць усе мясцовасьці па шляху маршруту і яго ваколіцах, у якіх экскурсант можа адпачыць, дзе добрыя кліматычныя ўмовы, ёсьць пошта, мэдычная дапамога і г. д. (з кароткай характарыстыкай).

Плян пабудовы характарыстыкі акруговага гораду можа быць наступны: 1) практычныя весткі: месцы прыпынку—гасьцініцы, інтэрнаты, дамы селяніна, дамы асьветы і інш. танныя месцы прыпынку і начлегу; 2-3 танных сталовых; музэі, тэатры, месцы гуляньня, краязнаўчыя організацыі і інш. установы, дзе можна атрымаць экскурсійную дапамогу. 2) агульная характарыстыка: горад, як эканомічны, політычны і культурны асяродак; 3) сьціслая гісторыя гораду з топографічным асьвятленьнем; 4) маршруты экскурсіі па горадзе; прыкладныя маршруты на адзін і тры дні (горад, музэі і г. д.); паказаць асноўны тып і адменьнікі маршрутаў; 5) асабліва цікавыя будынкі; вылучыць сучасныя пабудовы, гарадзкія краявіды, вышкі і інш. выдатнасьці.

Пішучы, спачатку трэба даць характарыстыку сучаснага гораду, а пасьля ўжо—гістарычныя весткі. Ня трэба забывацца на характарыстыку шляху паміж паселішчамі. Для ўзору можна пабачыць апісаньне маршрутаў у правадніку „Весь СССР“, які хутка выходзіць другім выданьнем (будзе прадавацца на станцыях), а таксама ў № 4 „Нашага Краю“ за 1929 г.

## Агульны агляд надвор'я па БССР за красавік м-ц 1930 г.

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геафізычнай Службы).*

Надвор'е ў красавіку было параўнальна цёплае.

Тэмпэратура за 1-ую дэкаду была вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Новае-Каралёва (Віцеб. акр.) | 1.7° |
| Менск | 1.7° |
| Горкі (Аршан. акр.) | 1.7° |
| Чэрыкаў (Магіл. акр.) | 2.1° |
| Васілевічы (Гомельск. акр.) | 1.2° |

Сярэднія тэмпэратуры за першую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 3.2° |
| Менск | 4.8° |
| Горкі | 3.3° |
| Чэрыкаў | 4.7° |
| Васілевічы | 5.2° |

Першая дэкада красавіка г. г. на 8—9° цяплей адпаведнай дэкады красавіка мінулага году.

Сярэдня тэмпэратура за другую дэкаду вышэй нормальнай на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 5.2° |
| Менск | 4.2° |
| Горкі | 4.6° |
| Чэрыкаў | 4.6° |
| Васілевічы | 3.5° |

Сярэднія тэпэратуры за другую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 9.2° |
| Менск | 9.6° |
| Горкі | 9.2° |
| Чэрыкаў | 10.0° |
| Васілевічы | 10.2° |

Другая дэкада красавіка ў сярэдніх выніках на 7—10° цяплей другой дэкады красавіка мінулага году.

Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 2.4° |
| Менск | 2.6° |
| Горкі | 2.0° |
| Чэрыкаў | 2.1° |
| Васілевічы | 2.1° |

Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 8.9° |
| Менск | 10.5° |
| Горкі | 9.5° |
| Чэрыкаў | 10.0° |
| Васілевічы | 11 4° |

Сярэднія дэкадныя тэмпэратуры красавіка мінулага году прыблізна на 7—9 градусаў ніжэй дэкадных тэмпэратур красавіка г. г.

Сярэднія месячныя тэмпэратуры красавіка наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 7.1° |
| Менск | 8.3° |
| Горкі | 7.4° |
| Чэрыкаў | 8.2° |
| Васілевічы | 8.9° |

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя дэкады наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-ая дэкада | ад | —7.2° | да | 15.5° |
| 2-ая „ | „ | —0.2° | „ | 17.6° |
| 3-ая „ | „ | —4.7° | „ | 21.5° |
| за м-ц | „ | —7.2° | „ | 21.5° |

У сярэдніх выніках тэмпэратура красавіка гэтага году на 2—3° вышэй нормальнай і на 7—9° вышэй т-уры красавіка мінулага году.

Ападкі. За 1-ую дэкаду ападкаў выпала 6—10 мм. прылізна ў паласе паміж лініямі Полацак-Ворша і Менск-Магілеў, ва ўсходніх частках Магілеўскай і Аршанскай акруг больш 11 мм., у іншых мясцох БССР 1—5 мм.

За 2-ю дэкаду ў большасьці акруг адзначана 16—30 мм. больш гэтага (больш 30 мм.) у Магілеўскай акр. і паўночнай частцы Гомельскай, менш 16 мм. ва ўсходніх частках Полацкай, Бабруйскай і суседніх з імі частках Менскай.

За 3-ю дэкаду 1—10 мм. у акругах Віцебскай, Менскай, Аршанскай і паўднёва-ўсходняй частцы Магілеўскай і паўночнай частцы Гомельскай, 11—20 мм. у Полацкай, Бабруйскай, Мазырскай і Гомельскай, 21—25 мм. у заходняй частцы Магілеўскай.

Вятры пераважвалі ўсходніх румбаў з сяр. хуткасьцю 3—5 м/с.

Дзён з марозам адзначана 2—7, прычым прымаразкі былі ў апошнія дні красавіка (28, 30-IV).

Стан палявых культур.

З пачатку красавіка адзначана назіральнікамі мэтстанцый паляпшэньне стану азімых, падрыхтоўчыя працы да сяўбы ярыны, падрыхтоўка гародаў. На працягу красавіка разгарнулася сяўба аўсу, ячменю асабліва ў паўднёвых акругах.

У сярэдзіне красавіка азімыя адзначаліся ў фазе кушчэньня.

Складзены 10-V-30. Г. Маслакавец.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ.

*Проф. А. Смоліч.* Разьмяшчэньне насельніцтва па тэрыторыі Беларускае ССР. Менск 1929, in 4°, 36 бал. + укладная карта разьмяшчэньня насяленьня па тэрыторыі Беларускай ССР + 6 карт на паасобных балонках.

Вядомы сваімі працамі па географіі Беларусі аўтар у даным выданьні ўсебакова абмяркоўвае адну з найактуальных географічных проблем, а ўласна — разьмяшчэньне насельніцтва ў БССР. Спачатку ён высьвятляе гушчыню насельніцтва, як географічны паказчык, пасьля дае крытычны агляд мэтодаў картаграфаваньня гушчыні насельніцтва і ўрэшце грунтоўна выяўляе ўсе асаблівасьці разьмяшчэньня насельніцтва па БССР і тлумачыць сваю карту апошняга, укладзеную мэтодам ізорытмаў або роўналічэбнікаў. Агляд свае карты ён робіць па наступных краінах: Менскай, Прыпяцкае палесьсе, Гомельшчына, Дняпроўская лёэсавая краіна, Вазёрная краіна. У канцы дадзены сьпіс літаратуры пытаньня [51 назва].

Гэта праца проф. А Смоліча вельмі неабходна ўсім краязнаўцам—як экономістым, так прыродазнаўцам, гісторыкам і г. д.—усім хто ў сваёй краязнаўчай працы стыкаецца з

наяўнасьцю чалавека або яго адсутнасьцю на тэй ці іншай тэрыторыі. Нас дзівіць толькі чаму гэта карта, так патрэбна для школ усіх тыпаў, ня вышла асобным выданьнем хоць-бы ў сваім натуральным памеры.

*Ю. Бібіла.* Беларускі пэрыодычны друк. Сыстэматычны паказьнік матар'ялаў, якія зьмешчаны ў часопісах і зборніках, што выхадзілі на тэрыторыі БССР у 1917—1927 г. г. Выданьне Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі. Менск 1929 г. in 4°, 244 + XII бал., 800 экз., цана 4 руб.

З тае прычыны, што выдавецкая справа на Беларусі разгорнена вельмі слаба, амаль выключная большасьць матар'ялаў раскідана па самых розных часопісах. Дзякуючы гэтаму патрэбнымі ў кожным паасобным выпадку матар'яламі было вельмі трудна карыстацца работнікам розных спэцыяльнасьцяй. Для практычнага будаўніцтва шмат якія досьледы былі проста невядомы і таму не скарыстоўваліся. З выхадам гэтай кнігі даны стан справы цалкам ліквідуецца.

У гэтай кнізе ў сыстэматычным парадку паказаны ўсе матар'ялы, апрача самых дробных, з часопісаў і зборнікаў, якія выходзілі на тэрыторыі сучаснай БССР на працягу 1917—1927 году. Артыкулы, працы, літаратурна-мастацкія творы і інш. разьмяшчаны ў кнізе ў 22 разьдзелах. Апрача таго дадзены паказьнік рэцэнзій ды альфабэтны паказьнік аўтараў. У некаторых падразьдзелах зроблены спасылкі на іншыя падразьдзелы. Усё гэта вельмі палягчае карыстаньне кнігай. Шкада, што выдавецтва адмовілася ўключыць у кнігу проектаваны прадметны паказьнік.

Даная кніга зьяўляецца працягам раней выданых прац Ю. Бібілы — „Паасобныя выданьні на беларускай мове 1917—1924", „Беларускі пэрыодычны друк 1917—1927" і інш. Працягам-жа яе павінна зьявіцца выданьне „Беларускай бібліографіі 1928—1929 г. г.", якое Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка абяцае ў прадмове да данай кнігі выдаць да другой паловы 1930 году. Гэта трэба шчыра вітаць, але толькі ня тое, што выкананьня абяцанак Бібліотэкі трэба чакаць гадамі. Добра-б было, каб на гэты раз абяцаньне спраўдзілася раней.

Гэту працу Ю. Бібілы трэба раіць усім работнікам на краязнаўчай ніве.

Тыраж замалы, папера дрэнная, цана высокая.

*А. П. Георгиевский.* Русские на Дальнем Востоке. Заселение Дальнего Востока. Говоры. Творчество. Вып. 1. Заселение русскими Дальнего Востока и современное их распределение (в связи с говорами). Вып. 2. Вопрос о русских говорах побережья залива Петра Великого, Вып. 3. Русские говоры Приморья. Вып. 4. Фольклор Приморья. „Труды Дальневосточного Государственного Университета" №№ 3, 6, 7, 9. Ц. 6 руб. 50 кап. за ўсе выпускі.

Да самага апошняга часу ў Сібіры і на Далёкім Усходзе цікавіліся і вывучалі выключна азіяцкія народы. Рускімі, калі хто і займаўся, то таксама зварочваў увагу ў першую чаргу на экзотычныя моманты — „сямейскіх" і інш. Новым у данай галіне ў Сібіры зьяўляецца праца Селішчава пра гутаркі і інш. працы апошніх год, а на далёкім Усходзе — даная.

А. Георгіеўскі ў сваёй працы абмяркоўвае пытаньні засяленьня рускімі Далёкага Ўсходу і гутаркі іх там ды падае фольклёрныя тэксты з кароткімі тлумачэньнямі іх. Пад „рускімі" ён разумее вялікарусаў, украінцаў і беларусаў і стараецца весьці сваю працу па гэтых разьдзелах. Але наўрад ці магчыма захаваць іх адзінства і рознасьць у адзін момант. Бясспрэчна лепш было-б даваць паасобныя працы аб кожнай народнасьці, што дало-б выразнасьць выкладаньню і палегчыла-б выкананьне яго. Ня гледзячы на тое, што аўтар спыніўся на паўдарозе ў сваім прызнаньні ўкраінцаў і беларусаў, праца яго дае шмат цікавых матар'ялаў. У вып. 3 ён дае цэлы разьдзел „Белорусские говоры Приморья" [бал. 51—61], у вып. 4 значная колькасьць фольклёрных тэкстаў — беларускія [хоць у 4 вып. ужо ніякага падзелу „рускіх" няма], у вып. 1 — падаюцца некаторыя весткі аб засяленьні беларусамі Далёка-Ўсходняга краю і іх разьмяшчэньні там і г. д.

Апрача свайго практычнага значэньня для справы перасяленчай, абслугоўваньня беларускай нацыянальнай меншасьці на Далёкім Усходзе і інш., праца А. Георгіеўскага цікава таксама і сваім мэтодычным бокам — як будаваў аўтар сваю працу пра пэўную насельнасьць аднаго краю.

*Георгий Виноградов.* Русский детский фольклор. Книга первая. Издание Иркутской секции научных работников. Иркутск 1930, in 4°, 234 бал., 600 паасобнікаў, цана 2 руб. 50 кап.

Вялікую чыннасьць выявілі краязнаўцы БССР і іншых частак СССР у справе зьбіраньня фольклёрных матар'ялаў. Ня гледзячы на адсутнасьць належным чынам распрацаванай мэтодычнай літаратуры, краязнаўцы на працягу апошніх год назапасілі даволі шмат самых разнастайных фольклёрных тэкстаў. Ня маючы магчымасьці выдаваць на месцы, а тым больш распрацоўваць свае матар'ялы, краязнаўцы з нецярплівасьцю чакаюць апублікаваньня вынікаў такой распрацоўкі навуковымі асяродкамі. З другога боку тэорэтычнымі адшуканьнямі ў галіне фольклёру і новымі фольклёрнымі тэкстамі вельмі цікавяцца настаўнікі школ розных тыпаў у мэтах вытворчых, а ўласна — для больш пасьпяховага выкладаньня адпаведных разьдзелаў літаратурнага курсу.

Тым больш цікавай зьяўляецца праца Г. Вінаградава ў такі момант, а асабліва таму, што яна закранае найменш распрацаваную галіну фольклёру. Даная кніга заключае ў сябе толькі „Игровые прелюдии". Яна складаецца з дзьвёх частак: апісаньня і тэкстаў. У першай частцы аўтар пасьля адпаведнага

ўступу абмяркоўвае месца гульнявых прэлюдый у дзяціным фольклёры, лічылкі, гісторыю зьбіраньня і спроб вывучэньня лічылак, пахаджэньне лічылак, георафічную распаўсюджанасьць лічылак, назвы лічылак, знаўцаў і выканаўцаў лічылак, бытаваньне і выкананьне лічылак, клясыфікацыю, композыцыю і лексыку лічылак, словаўтварэньне ў лічылках, лічбавыя і завумныя словы ў лічылках, сэмантыку, сынтакс і мэтрычна-рытмічную характарыстыку лічылак, іх рыфму і слоўную інструмэнтоўку. Далей даны заўвагі і дадаткі.

У другой частцы. Вінаградаў пасьля ўступу да гэтай часткі падаў самыя тэксты лічылак, за якімі зьмясьціў заўвагі да тэкстаў і іменны і географічны паказчыкі.

Асаблівая каштоўнасьць кнігі Вінаградава складаецца з таго, што ў ёй спалучаны досьлед з тэкстамі. Раней, як вядома, выдаваліся або тэксты, або досьледы. Працай Вінаградава можна сказаць пачалося сапраўды навуковае выдаваньне фольклёрных прац.

Нашым краязнаўцам-фольклёрыстым і наогул этнографам, а таксама настаўнікам-літаратурнікам абавязкова трэба пазнаёміцца з гэтай працай Г. Вінаградава.

Новай рысай для ўсіх прац аб рускім фольклёры зьяўляецца тое, што Г. Вінаградаў дасьледуе і падае тэксты сапраўды рускага фольклёру, не мяшаючы туды ўкраінскага і беларускага.

Выдана кніга вельмі старанна, на добрай паперы, проста і прыгожа, без провінцыяльных прэтэнзій, цана нявысокая.

*Слуцкае Раённае Таварыства Краязнаўства.* Карта Слуцкага раёну. Плян гораду Слуцку. Дом Культуры ў Слуцку. Млын „Прогрэс" у Слуцку. Паштоўкі выданьня Слуцкага Таварыства Краязнаўства, Слуцак 1930, тыраж 1000 экз. кожная.

Пытаньнем популярызацыі ідэй краязнаўства і краязнаўчых ведаў пра свой раён параўнаўча вельмі мала займаюцца пакуль што нашы краязнаўчыя організацыі. На першым месцы ў гэтай справе стаіць Слуцкае Таварыства Краязнаўства. Выданьнем названых чатырох паштовак яно цьвёрда замацавала гэта месца за сабой. Трэба спадзявацца, што ў парадку соцыялістычнага спаборніцтва, пасьля падобных выданьняў іншых краязнаўчых організацый яна ня ўступіць гэтага месца іншым і наперад, а пойдзе далей да новых дасягненьняў.

Зьмест для даных першых чатырох паштовак выбраны дужа добра. Найпатрэбнейшаю рэччу ў краязнаўчай і іншай, асабліва асьветнай, працы зьяўляецца карта раёну. Калі ў якой-небудзь раённай установе і ёсьць карта раёну, то яна шырокім масам зусім недаступна. Тое самае можна сказаць і пра пляны раённых цэнтраў. Далей, вельмі патрэбна популярызацыя сярод шырокіх мас нашых культурных і гаспадарчых дасягненьняў. Слуцкае Таварыства дало самыя яскравыя прыклады іх у дзьвёх другіх паштоўках. Слуцкі млын „Прогрэс" мае значна больш, чым раённае значэньне. Дом Культуры пабудаваны савецкай уладай на месцы і з рэштак былой камэрцыйнай школы, спаленай белапалякамі пры адступленьні ў 1920 г. Ён зьяўляецца найлепшым паказчыкам дасягненьняў Савецкага будаўніцтва на Случчыне.

Але карта і часткова плян маюць ня толькі популярызацыйнае, але і вытворчае значэньне ў краязнаўчай і школьнай працы. Адпаведнымі адзнакамі, замалёўкай і д. т. п. з гэтай карты можна зрабіць па паштоўках цэлы атляс раёну, ня трацячы часу на коп'яваньне карт.

Выкананьне орыгіналаў паштовак неаднолькавае. Карта зроблена добра, толькі шмат якія назвы паселішч няправільныя. Плян таксама здавальняючы, фотографіі Дому Культуры і млыну рабіліся, як відаць, не для паштовак адмыслова і таму выглядаюць горш. Будынкам цесна на паштоўках і яны маюць від плоскіх, бо за і навокал іх няма прастору. Клішэ зроблены цынкографіяй Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва груба, што значна адбілася на якасьці паштовак.

Першую спробу Слуцкага Таварыства Краязнаўства ў гэтай галіне трэба вітаць і раіць усім іншым краязнаўчым організацыям скарыстаць яе ў сваёй працы.

М. Касьпяровіч.

**Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны.** Улажыў *М. В. Шатэрнік.* Пад рэдакцыей *М. Я. Байкова і Б. І. Эпімаха-Шыпілы.* Выданьне Беларускае Акадэміі Навук. Менск 1929. іп 8°, 317+10 ст., 2000 паасобнікаў, цана 2 руб. 50 кап.

Сярод найактуальных беларускіх гуманітарных навуковых выданьняў краёвым слоўнікам належыць адно з першых месц. Пра неабходнасьць зьбіраньня беларускіх слоўнікавых матар'ялаў, укладаньня краёвых слоўнікаў і выданьня акадэміцнага слоўніка беларускай жывой мовы ёсьць шмат розных пастаноў. Паміж тым справа даволі марудна пасоўваецца наперад. Тым больш шчыра мы можам вітаць зьяўленьне другога беларускага краёвага слоўніка.

Пасьля прадмовы камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы, у якой спатыкаем выразна няправільныя цьверджаньні, якія, праўда, не датычаць данага слоўніка, ідзе прадмова ўкладальніка, з якой відаць галоўная асаблівасьць Чэрвенскага слоўніка. Яна заключаецца ў тым, што слоўнік зьмяшчае словы толькі з вельмі невялікай тэрыторыі, якая складаецца з частак Сьмілавіцкага, Пухавіцкага і Шацкага раёнаў, што калісь уваходзілі ў склад б. Чэрвенскага пав. Шкада, што ўкладальнік ня даў карты гэтай тэрыторыі.

У слоўніку сабраны вельмі вялікі слоўнікавы матар'ял, сярод якога ёсьць шмат словаў, якія зоймуць сваё месца ў літаратурнай беларускай мове і раней былі ёй невядомы.

Але ў такой вялізнай і цяжкой працы, як слоўнікавая, ні адзін слоўнікар, а тым болей провінцыяльны, ня можа абыйціся без недакладнасьцяй і пропускаў, якія толькі з часам могуць выпраўляцца і дапаўняцца. Ёсьць яны і ў данай працы, аб чым паведамляе і сам укладальнік у сваёй прадмове.

Да такіх у першую чаргу належыць часамі недакладны пераклад словаў на рускую мову і адсутнасьць некаторых іншых значэньняў зарэгістраваных словаў. Для прыкладу прывядзем некаторыя на першых тры літары:

Абкасіць — не адно „откосить часть чужого", але і выкасіць навокал. Апкасіў два кустэ (Дыя. Тут мы падаем весткі і з суседняй тэрыторыі, але па мове зусім аднастайнай з абхопленай М. Шатэрнікам).

Абмятаць — ня толькі „очищать ульи". Абмяці пыл са сьцяны (Турын).

Абурыцца — перавярнуцца, перакуліцца, апрача таго, што „обрушиться, обвалиться". Абурыўся Іванаў вос (Клінок).

Абуць у лапці — можна і дзіця, напр., а ня толькі „провести в денежных делах". Абуй іе ў лапцікі (Іванічы).

Абяліць — „снять кору", а таксама і скуру. Абяліў авечку (Волма)

Аджыць — апрача таго, што „выжить, поправиться", таксама і вярнуць сваё ўтрыманьнем у каго-небудзь. Атжыў свой заработак ужо і выбірайся! (Рудзенск).

Адказаць — таксама і сказаць пра што пытаюць. Ча'маўчыш, ча ні тказуіш? (Волма).

Адсмаліць — таксама і 4) апаліць. Атсмаліў валасы ззаду (Клінок).

Азярод — мала падобны на плот.

Аметнік — зусім ня „пристройка".

Атрэп'е — ні ў якім разе не „негодные остатки при трепании льна".

Бабка — кладзь ня толькі снапоў. Таму яшчэ ня ў бапках гарох — не ўпарадкаваўся (Пудзіцк).

Біч — ня „круглое полено цепа".

Валосьсе — таксама і валасы. Вазьмі яго за валосьсе! (Волма).

Валяк — не абавязкова „большой", а ўсякі „зоб" (Клінок).

Падругое, няма тлумачэньняў некаторых словаў, якія спатыкаюцца ў прыкладах — сказах, як, лоска:

У лосца добры сівец атрос (Старына) — на бал. 255.

Патрэцяе, некаторыя словы зусім не зарэгістраваны, хоць наўрад ці магчыма зрабіць гэта. Дапаўненьні павінны рабіцца ўвесь час. Некаторыя, найбольш ходкія ў Чэрвенскім краі, словы і прывядзем у якасьці такіх дадаткаў.

Аплёт — тое, што і паплёт (Дыя).

Арашка — пагардлівае, галава. Трэба было за арашку ды воб зямлю! (Турын).

Астравіны — асобны, пераносны, тып азярода (Рудня).

Астроўкі — асобны тып азяроду (Чыр. Шлях).

Атліў — стрэшка, што ад ніза фронтона навісае над пяпярочнай сьцяной (Дыя).

Ашлапы — тое-ж, што і ачэпы (Дыя).

Бацян — тое, што і бусел (Турын).

Браць — рваць лён або каноплі (Волма).

Варыстая печ — кухонная печ (Дыя).

Відушчы — 1) што бачыць, 2) від лапця. Відушчыя лапці па балоці добра (Іванічы).

Вілачнік — качарэжнік (Дыя).

Вітка — скручаная ветка, якою зьвязваюць калы ў плоце (Дыя).

Вянок — вязка цыбулі (Дыя).

Гнушка — драўляная накрыўка (Дзяруцкая).

Градзіца — балечка ад печы ў папярочную сьцяну (Турын).

Граткі — паліцы для пасуды (Волма).

Грыбок — від драчона (Дыя).

Дажон — дажынкі. А ў нас у полі дажон, дажон, а нашаму пану ў бок ражон, ражон (Дыя).

Дворны — што на дварэ. Дворныя будынкі (Волма).

Друкаванка — набіўная рознакаляровая пасьцілка (Новазер'е).

Дзераўны — драўляны (Дзяруцкая).

Дзявошчына — нявіннасьць. Шышка з елкі спала, да дзявошчыну скрала (Дыя).

Дзяга — асобная старасьвецкая папруга (Дыя).

Ест — ёсьць (Волма).

Жычка — чырвоная стужка (Турын).

Закладзіны — закладка дому (Дыя).

Закраса — прыправа. Закраса за тое ёсіка (Рудня).

Западня — часьць клямкі (Дыя).

Запясэчнікі — самыя верхнія папярочныя бярвеньні (Дыя).

Застаўкі — чым застаўляюць ваду ля млына (Турын).

Застрэшына — тое, што і капеж (Дыя).

Зачынак — тое, што і пяколак (Дыя).

Кануць — капнуць. Да на міне расіна канула (Дыя).

Карагод — шэраг бабак снапоў (Чыр. Шлях).

Кладзь — сьліга на дзядкох (Волма).

Крайкі — чорныя паясы заміж абор у лапцях (Дыя).

Куна — куніца. Да ў сені ўвышла куною. Да мая мамка кунка была (Дыя).

Курчына — балька ўперак хаты (Дыя).

Летаваць — праводзіць лета (Волма).

Лісіца — планка, што прадзяецца па пазох паміж дошчак у дзьвярах (Дыя).

Масьнічана — дошка ў падлозе. (Турын).

Мілта — „толокно" паруску (Волма).

Мост — мост і падлога (Дыя).

Мыцельнік — кут супраць чалесьнікаў печы (Волма).

Мяліца — церніца. (Дыя).

Пажылак — балечка або плінтус (Дзяруцкая).

Пасачка — палоска. Астаў пасачку і за год брасьце зноў (Клінок).

Пастрыхаўкам — чым раўняюць саломў як крыюць будынак (Дыя).

Плячуке — правае і левае плячо (Рудня).

Подалек — далекавата (Волма).

Прыбудовачка — прыбудаваная будыніна (Дыя).

Прывалак — лаўка ля печы (Турын).

Прывілеі — зводзяць як з тымі прывілеямі (Клінок).

Пятнік — чашка для пяты слупка варот (Дзяруцкая).

Руськы — беларус (Новазер'е).

Рэй — лад, парадак (Клінок).

Сопуха — комін з палатна над лучніком (Дыя).

Стопка — варыўня (Клінок).

Страка — вушка ў лапці (Дыя).

Сьлічны — прыгожы, нявінны. Сьлічнаю паннаю к ім прышла (Дыя).

Сьценка — дарожка ў полі (Рудня).

Тканка — валік з лёну насіць па валасох пад хустай (Волма).

Узрэх — агрэх (Турын).

Уперак — упоперак (Пудзіцк).

Упоры — што падтрымліваюць лотак на страсе, які прыціскае драніцы (Дзяруцкая).

Услон — зэдаль (Клінок).

Уходзіны — улазіны (Дыя).

Цёрка — нераст рыбы (Новазер'е).

Цягло — вывазка зесу (Усход).

Чупікі — лапці з абор (Дыя).

Ядомы — які ядуць (грыб) (Дыя).

Ямка — пячурка (Дыя).

Яські — від „кормушки“ паруску.

Зразумела, што гэтымі дадаткамі зусім не запоўнены ўсе пропускі ў слоўніку — яны прыведзены толькі з найбольш распаўсюджаных слоў на Чэрвеншчыне. Але, разам з тым, адзначаныя недахопы ні ў якай меры ня зьніжаюць каштоўнасьці працы Шатэрніка і яе рэдакцыі. Яна зьяўляецца вельмі карыснаю і па паўнаце перавысіла першы краёвы слоўнік. Трэба пажадаць, каб Беларуская Акадэмія Навук як найхутчэй выдала ўсе іншыя краёвыя слоўнікі, значна паскорыўшы свае тэмпы працы.

Мікола Касьпяровіч.

---

# Краёвая бібліографія.

Працяг *)

А. К. Праца Калініскага Акруговага Т-ва Краязнаўства. Наш Край. 926. № 10-11 (13-14) хроніка, с. 65—73.

Аляксейчык, М. Стан народнае асьветы па Калінінскай акрузе. (На 1. X. 1925 г.) Асьвета. 925. № 7. с. 123—126.

А. М. Клічаўскі раён Бабруйскае акругі. (Кароткі агляд стану раёну і дзейнасьці РВК за пэрыод з 1-га сакавіка да 1-га кастрычніка 1926 г. паводле справаздачы РВК.) Бюл. СНК. БССР. 927. № 1 с. 28—32.

Аніхоўская. Жаночы рух Калінінскае акругі. Маладняк Калінінш. 924. 23/XI, с. 22.

Аніхоўскі. Асьветная справа ў Крычаўскім раёне. (Калініншчына). Асьвета. 926. № 2. с. 92—95.

Аніхоўскі, Ал. Пэдагогічныя ўстановы ў Магілеве. Асьвета. 928. № 3. с. 33—39.

Арнаутов. А. К вопросу о делении губернии. (Выделение Могилевской из состава Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 920. № 2. с. 6—10.

Аўхіменка, І. Становішча паляўнічае гаспадаркі ў Хацімску. Паляўнічы Бел. 928. № 4 (9). с. 8.

Барашка, Іл. Сяляне Магілеўшчыны на пярэдадні рэволюцыі 1905 году. Полымя. 925. № 1. с. 168—174.

Барцевич, П. Ветеринарный павильон на Чаусской районной сельско-хоз. выставке. Бел. Ветеринария. 926. № 7—9. с. 51-52.

Беларусаў, А. Магілёўская С. П. Школа. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 135-136.

Беларусаў, А. Магілёў у прошлым і сучасным. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 85—90.

[ . . . Бібліографія. Працы па архэолёгіі Магілеўшчыны. [З картотэкі Бібліографічнае камісіі І. Б. К. апрацавана С. А. Дубінскім]. Наш Край. 926. № 4-5 (7-8) с. 96—102.

Боборыкин, И. Корниловские дни. (Воспоминания) (Гомель). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 13. с. 31-32.

Бусел, Ц. Нарыс жыцьця Чэрыкаўскай сямехгодкі імя Цішкі Гартнага. (1-ы трымэстр). Асьвета. 925. № 3 (6). с. 123—125.

Бычкоў, А. Нарысы з мінулага Магілеўшчыны. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 17—35.

Бялуга. Галоўныя моманты ў працы Магілеўскае Саўпартшколы. Асьвета. 926. № 1. с. 87—90.

Валюжаніч, А. Становішча с. г. копэрацыі ў Магілеўскай акрузе. Плуг. 927. № 11. с. 23—27.

Волмар, М. І. 1863 год на Магілёўшчыне. Маладняк. 927, № 6, с. 82—87.

[ . . . Вывучэньне народных танцаў. (Экспэдыцыя па Магілеўшчыне). Наш Край. 926. № 10-11. (13-14). Хроніка. с. 76.

Выярыцкі, М. А. Беларуская культурна-асьветная праца на Магілеўшчыне з 1918 па 1923 г. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 130—132.

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і №№ 1, 2, 3, 4 1930 г.

Ганжын, А. Мястэчка Навабыхаў, Магілеўскай акругі. (Паводле мясцовых архіўных матар'ялаў). Наш Край, 926. № 2-3. (5-6). с. 59—61.

Гапанович, К. Молочная кооперация Могилевского округа. Сав. Буд-ва. 926. № 6. с. 233—235.

Гапанович, К. и Юревич, С. Экономический обзор Пропойского района. Сав. Буд-ва 926. № 8-9. с. 240—247.

Гарбацэвіч, В. Аб слоўнікавых асаблівасьцях Магілеўшчыны. Магілеўшчына. 927. т. 1. с. 106—108.

Говзман. Климовичская уездная организация РКП. (Доклад инструктора губкома о результатах обследования 12 15. II. 1923). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 41-42, с. 64-65.

Говзман. Могилевская организация (Доклад инструкт. Губкома тов. Говзмана). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 29. с. 23—26.

Гуревич. Мстиславльский период в Могилевской губ. (Воспоминания). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922 № 35. с: 43—44; № 36, с. 55-56.

Гуревич, Д. От учредительного собрания к власти советов. (Воспоминания) [Могилев]. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 13. с. 32-33.

Даўгяла, Зьм. Магілеўскае „брацтва прасалаў". Гіст.-арх. зборнік. № 1. 927. с. 121—129.

[ . . . Доклад Правления Общему Собранию членов Могилевского Об-ва Взаимного Кредита за второй 1925-26 операционной год. Могилев. Изд. Соха и Молот. 927. с. 10.

[ . . . Доклад Правления Общему Собранию членов Магилевского Об-ва Взаимного К-та за третий 1926-27 операц. год. Могилев. 928. с 10.

Документ (Из материалов Могилевской охранки) [Политический обзор штаб-ротм. Коновалова за 1902 в б. Гом., Рогач. и Быхов. уездах].

Извест. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 62. с. 85-—88.

Дубах, А. Д. Изменение поперечного профиля осушительных канав в торфяном грунте по р. Мокрянке Быховского уезда. Материалы Запомо. 924. № 3. с. 155—160. 2 пл.

Е. А. Ветеринарное дело в Могилевском округе в 1924 г. (По материалам годового отчета). Бел. Ветеринария. 925. № 3 (4). с. 61—62. Хроніка.

Жебутович, И. Госземимущества Могилевского округа. (Состояние и вопросы организации, управления и эксплоатации госземимущества). [Совхозы, колхозы, торфяники и др.]. Сав. Буд-ва. 925. № 3—4, с. 49—59.

Жобуртович, Янка. Агранамічная дапамога насельніцтву Магілеўшчыны. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 115-121.

[ . . . Жывёлагадоўля Магілеўшчыны (Вынікі абсьледваньня). Плуг. 926. № 11. с. 29—30.

Заневский, О хирургической заболеваемости населения бывшего Калининского Округа по материалам Климовичской районной б-цы. Бел. Мэд. Думка. 928. № 6—7. с. 24—34.

Зарэніна, М. Праца фольклёрнага гуртка пэдтэхнікуму [ў Магілеве]. Магілеўчшына. 927. т. I. с. 100.

Збуржынскі, Я. Вынікі працы камісій пры сельсаветах. (Чавускі раён, Магілеўскай акругі). Бюл. СНК БССР 926. № 14. с. 31—32.

[ . . . З дакладу аб працы Горкаўскага сельсавету Чэрыкаўскага раёну Калінінскай акругі за пэрыод студзень—верасьень 1925 г. Бюл. СНК БССР. 925. № 8. с. 62—63.

Зимовьев, С. Самопереподготовка работников просвещения г. Могилева на Днепре. (Впечетления и думы). Асьвета. 923. № 3. с. 77—85.

Злотник, И. Л. На заре революционного движения в Чериковском уезде (К воспоминаниям т. Эртмана) [1904—1906 г.]. Извест. Гом. Губ. Ком-та. РКП. 924. № 63—64, с. 92—94.

Іваноў. Наша сямехгадовая школа на 10-й гадавіне Кастрычніка. (М. Самоцеевічы, Калінінскай акр.). Асьвета. 927. № 7, с. 102—110.

[ . . . Из итогов работ Могилевского горсовета за 1925. г. Сов. Буд-ва. 923. № 3. с. 202—204.

І. К. 3-я раённая с.-г. выстаўка ў г. Мсьціслаўлі. Плуг. 926. № 11. с. 7—9.

Иоффе. И. Под знаменем выполнения директив. (Могилевский ЦРК за 1926-27 хоз. год). Шлях Коопэрац. 928. № 5. с. 61—64.

Казарновский. Состояние Могилевской организации РКП на 15-е августа 1923 г. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 51. с. 54—58.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# Агульны агляд надвор'я па БССР за май м-ц 1930 г.

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геафізычнай Службы).*

Надвор'е ў маі было сухое.

*Тэмпэратура* за 1-ую дэкаду была ніжэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Новае-Каралёва (Віцеб. акр.) | 1,1° |
| Менск | 0,9° |
| Горкі (Аршанскае акр.) | 2,0° |
| Чэрыкаў (Магілеўскае акр.) | 1,6° |
| Васілевічы (Гомельскае акр.) | 1,5° |

Сярэднія тэмпэратуры за дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 8,0° |
| Менск | 9,3° |
| Горкі | 8,0° |
| Чэрыкаў | 8,9° |
| Васілевічы | 10,2° |

1-ая дэкада мая м-ца мінулага году ў сярэдніх выніках на 2-3° цяплей адпаведнай дэкады мая гэтага году.

Сярэдняя тэмпэратура за другую дэкаду была вышэй нормальнай на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 1,3° |
| Менск | 0,9° |
| Горкі | 0,3° |
| Чэрыкаў | 0,8° |
| Васілевічы | 0,4° |

Сярэднія тэмпэратуры за другую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 13,0° |
| Менск | 13,2° |
| Горкі | 12,8° |
| Чэрыкаў | 13,9° |
| Васілевічы | 14,4° |

2-я дэкада мая м-ца мінулага году ў сярэдніх выніках на 4-5° цяплей адпаведнай дэкады мая г. г.

Сярэднія тэмпэратуры 3-й дэкады вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 3,5° |
| Менск | 2,9° |
| Горкі | 3,1° |
| Чэрыкаў | 3,1° |
| Васілевічы | 2,1° |

Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 16,7° |
| Менск | 16,7° |
| Горкі | 17,1° |
| Чэрыкаў | 17,7° |
| Васілевічы | 17,5° |

У сярэдніх выніках 3-я дэкада мая г. г. амаль не адрозьніваецца ад адпаведнай дэкады мая мінулага году (мясцамі нязначна халадней 0—1°).

Сярэднія тэмпэратуры мая (месячныя) наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 12,6° |
| Менск | 13,1° |
| Горкі | 12,7° |
| Чэрыкаў | 13,5° |
| Васілевічы | 14,0° |

Сярэднія тэмпэратуры мая г. г. або раўны нормальным або нязначна іх перавышаюць (0—1°) і на 2—3° ніжэй тэмпэратур мая м. г. г.

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| 1-ая дэкада | ад 20,9° | да—3,5° |
| 2-я „ | „ 26,5° | „ —1,8° |
| 3-я „ | „ 28,1° | „ —3,9° |
| за м-ц | „ 28,1° | „ —3,5° |

*Ападкі.* 1-ая дэкада. Паўночная палова БССР—да лініі Менск—Прапойск выпала 1—10 мм, у паўднёвай палове 11—20 мм (за выключэньнем тэрыторыі паміж Бярозай і Пціч і па Пцічы, дзе выпала 1—10 мм).

Чачэрск (Гом. акр.), Лельчыцы (Мазыр. акр.) больш 20 мм.

2-ая дэкада на поўнач ад Дзьвіны 1—10 м, далей на поўдзень да лініі Чэрыкаў, Магілеў, Бярэзіна, Жыткавічы (таксама 11—20 мм, на захад ад лініі Менск, Чырвоная Слабада), на поўдзень ад лініі Петрыкаў, Буда-Кашалёўская 21—30 мм.

3-я дэкада. Ападкаў выпала 1—10 мм апрача наступных раёнаў: Магілеўшчына—Магілеўскі, Лупалаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Быхаўскі, Журавіцкі, Прапойскі, Полаччына—Асьвейскі, Расонскі, Валынецкі, Гомельшчына—Камарынскі, дзе адзначана 11—20 мм.

Наогул ападкаў за м-ц выпала мала менш норм. Адхіленьні ў бок недахопу вагаюцца пры параўнаньні з нормамі ў межах ад 5 да 60 %%.

*Тэмпэратура глебы* вагалася

| | | |
|---|---|---|
| на глыбіні 0,2 м | ад 6,2° | да 19,0° |
| „ „ 0,8 м | „ 7,1° | „ 13,4° |

*Вятры* пераважвалі паўднёва-ўсходніх румбаў сярэдняй моцы 3-4,6 м/с.

*Стан палявых культур.*

Прымаразкі з пачатку мая шкод ня прынесьлі. Сухое і халоднае надвор'е ў 1-ю дэкаду затрымала рост палявых культур, паляпшэньне стану якіх адзначана ў другую дэкаду ў сувязі з пацяпленьнем і дажджамі.

Азімыя ў фазе калашэньня.

Авёс і ячмень у фазе кушчэньня.

Скончана масавая сяўба бульбы.

Выпадзеньне граду мясцамі было адзначана, але вестак аб пашкоджаньнях ад назіральнікаў ня было.

Складзены 14/VI-30 г.

Г. Маслакавец.

# КРАЯЗНАЎЦЫ!

# ПРЫМАЙЦЕ ЎДЗЕЛ У НАВУКОВЫХ ЭКСПЭДЫЦЫЯХ,

скарыстоўвайце спэцаў, членаў экспэдыцый, для дакладаў, консультацыі і інш.

## Летам 1930 адбудуцца наступныя экспэдыцыі:

### а) Беларускай Акадэміі Навук:

(Менск, Ленінская 29/35).

1) Глебазнаўчай (Гомельскай, Віцебскай, Магілеўскай, Бабруйскай, Полацкай, б. Калінінскай акр.); 2) геоморфолёгічнай (Халопенічы—Лепель); 3) эономгеографічнай і геоморфолёгічнай (Рагачэў—Жлобін); 4) гідробіолёгічнай (р. Бяроза); 5) геомагнэсавай; 6) штандартнай; 7) фаўністычнай (Палесьсе); 8) суднабудаўнічай; 9) этнографічнай (Рагачэўскі р.; міжрэчча Сажа і Дняпра); 10) дыялектолёгічнай (Лепельшчына, Чэрвеншчына, Рагачэўшчына); 11) гістарычна-мастацкай (Быхаў, Магілеў, Шклоў); 12) археолёгічнай (Юравіцкі р.; па р. Беседзі; у Аршаншчыне, і Віцебшчыне; Самахвалавіцкі р.); 13) вывучэньне колгасаў (Калінінскі, Лёзьненскі, Нараўлянскі, Рагачэўскі, Самахвалавіцкі раёны).

### б) Палесмэліаземам:

(Менск, Савецкая, 71).

Мэліорацыйныя, ботанічныя, экономічныя, гідролёгічныя досьледы і вывучэньне тарпяных адкладаў і лясной гаспадаркі ў Васілевіцкім, Брагінскім, Рэчыцкім, Камарынскім і Хойніцкім Гомельскай акр., Глускім р. Бабруйскай акр., Быхаўскім і Крычаўскім р.р. Магілеўскай акр., Самахвалавіцкім Менскай акр. і Вульскім р. Полацкай акр.

### в) Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Прамысловасьці: (Менск).

Усебаковага вывучэньня балот: 1) Дрэтунь, Вобаль (Полацкай акр.), 2) Гладынскі мох, ля Гарадка (Віцебскай акр.); 3) ля Жадзіна (Менскай акр.); 4) Асінаўскага (Аршанскай акр.); 5) Гадылеўскага (Магілеўскай акр.); 6) ля Татаркі (Бабруйскай акр.), а таксама ў Гомельскай і Мазырскай акр.

### г) Беларускага Дзяржаўнага Музэю:

(Менск, Дом Селяніна).

Па аддзелах: гісторыі, яўрэйскаму, мастацкаму і антырэлігійнаму: 1) Чэрвень—Слуцак—Самахвалавічы; 2) Брагін—Чашнікі—Бешанкавічы, 3) Рэчыцкі раён.

**УСЕ ДАВЕДКІ атрымліваць у паказаных установах.**




# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўца.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, Л. Бабровіч, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, М. Валасевіч, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, С. Велішчанскі, В. Вольскі, М. Грамыка, М. Гарэцкі, З. Даўгяла, В. Дружчыц, С. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Кулакоў, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, М. Лур'е, А. Ляўданскі, Д-р Магілеўчык, Я. Мазуркевіч, А. Мікалаеў, С. Мялешка, М. Мялешка, Мацьвяёнак, М. Мікіцінскі, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, Раманчук, В. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, В. Скардзіс, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, А. Шашалевіч, І. Шпілеўскі, М. Шчакаціхін і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяца |

**Гадавым падпішчыкам выдаецца прэмія — „КРАЯЗНАЎСТВА“— зборнік програм і інструкцый, выд. ЦБК.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі Кніга-поштай (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, вугал Ленінскай—Унівэрсытэцкай 29/35 Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**

**„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.**

**Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1929 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў—за 13 руб.**

**—— 1 комплект за 1929 г. 3 руб. ——**

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы І Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.
„Працы ІІ Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.
Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.
Краязнаўчым організацыям скідка 25%.